


# Літаратура і мастацтва

*газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

23 КАСТРЫЧНІКА 1998 Г. № 43/3971 КОШТ 4 000 РУБ.







# "Я — шчаслівы чалавек..."

Ці ёсць мяжа дасягненняў для творцы? Узрост, калі можна "збіраць камяні" — падводзіць вынікі? І так, і не... Гаўрыла Вашчанка перашагнуў праз 70-годдзе, але сваю персанальную выставу, якая адкрылася днямі і заняла ўсе выставачныя залы Нацыянальнага мастацкага музея, не лічыць выніковай. Яна — усяго толькі экспазіцыя створанага мастаком за апошнія дзесяць год, амаль усе работы яшчэ ніводнага разу не экспанаваліся. І па словах самога Гаўрылы Харытонавіча, пры жаданні ён адкрыў бы яшчэ тры такія экспазіцыі з таго, што засталося ў майстэрні.

Папярэдняя, сапраўды юбілейная выстава адбылася ў мастака ў чэрвені на радзіме, у Гомелі, у Палацы фельдмаршала Румянцава (пасля ён належаў графу Паскевічу, а цяпер — абласному краязнаўчаму музею). Усе трыццаць работ з гэтай выставы Гаўрыла Вашчанка падараваў гораду і, магчыма, яны стала размесцяцца асобнай галерэяй у паркавым комплексе палаца. Увогуле ж мастак марыць, што яму ўдасца дапамагчы Гомелюператварыць з дапамогай Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі памяшканне выдатнага класіцыстычнага будынка, якіх не так ужо многа на Беларусі, з краязнаўчага ў сапраўдны мастацкі музей.



*"Брама", 1996 г.*

Сама ж родная вёска Гаўрылы Вашчанкі Чыкалавічы засталася зараз у трыццацікіламетровай зоне Чарнобыля. Мастак быў там аднойчы з кінагрупай і дасюль згадвае незвычайную цішыню, цяжкое паветра і страх, які міжволі ахапіў іх, калі па дарозе назад зламалася машына здымачнай групы. Таму натуральна, што і чарнобыльская тэма гучыць у апошніх работах мастака. Праўда, ён прызнаецца, што доўга не мог да яе падступіцца, "бо цяжка перажыць асабістую трагедыю згубленай "малой радзімы".

"У маіх работах пра Чарнобыль няма дакументалістыкі, няма фатаграфічных дэталяў. Я інакш разумею гэту тэму. Я хачу знайсці філасофскую ідэю трагедыі", — разважае мастак. І сапраўды, яго работы на чарнобыльскую тэму нясуць не інфармацыю, а горкія і цяжкія эмоцыі, яны ўражваюць трывожным колерам ("Рэквіем"), безвыходнай адзінокасцю чалавека ("Зыход", "Адлучэнне", "Час прыцемкаў").

Г. Вашчанка ніколі не піша карціны проста з натуры. Але заўжды і паўсюль мастак алоўкам ці пэндзлем занатоўвае ўбачанае, а пасля гэтыя ўражанні кладуцца асноваю на палатно. Ствараючы новы твор, мастак ідзе ад тэмы, а не ад дакументальнай замалёўкі. Нездарма ж, відаць, мастак любіць згадваць формулу фізіёлага Паўлава, які казаў: калі ў галаве з'яўляецца ідэя — вочы пачынаюць бачыць факты. І нездарма кожная назва яго твора адпавядае сутнасці работы.

Гледзячы на карціны Гаўрылы Вашчанкі, хочацца вярнуцца да вытокаў архаічных паняццяў святла, дабрыні, чысціні, да каранёў нашай духоўнасці. Аднак з важнейшых тэм,

*(Працяг на стар. 3)*



## КОЛА ДЗЁН

***Людзі простыя цікавяцца, што людзі вялікія ядуць, — пісаў паэт. Яно й праўда. Простыя людзі (яшчэ зусім нядаўна — "простые советские люди") многім цікавяцца. Але куды часцей — анічым не цікавяцца. Абы трошкі цёпла, трошкі ўежна і ўлежна было ў хаце (кватэры), абы дзеці ды сямейнікі не хварэлі. А вялікімі, нейкімі там дзяржаўнымі пытаннямі ды праблемамі хай цікавяцца (і займаюцца імі) людзі вялікія. І зноў жа — праўда. І папракаць тут у чымсьці простых людзей — няварта. Гэтак і павінна быць. Гэтак і ёсць у вялікім белым свеце. Але ў нашым свеце ўлады даводзілі (і дагэтуль даводзяць), што кожная ахмістрыня павінна ўмець кіраваць дзяржавай, і рабілі (і робяць) выгляд, што раяцца з простымі людзьмі, што прыслухоўваюцца да іх разваг і меркаванняў, што дзённа і ночна дбаюць адно аб іх здароўі, шчасці і дабрабыце. І простыя людзі паверылі, і прывыклі глядзець у рот начальству, і спадзявацца толькі на гэтае самае начальства, якое ўвасабляе для іх саму дзяржаву. А калі ў хаце простых людзей рабілася холадна ды галодна, начальства падкідвала (і дагэтуль падкідвае) ім вінаватага, таго, хто "мяшае"... Або крычыць, што трэба памагчы сербам, бо іх крыўдзяць... Урэшце не перастае гаварыць пра яднанне — хутчэй пра ўз'яднанне — з Расіяй...***

***P. S. Сентэнцыя ж паэтычная канчалася гэтак: а вялікія людзі тое ядуць, што ім простыя людзі даюць...***

### ІНІЦЫЯТЫВА ТЫДНЯ

Рэдакцыя газеты "Наша Ніва", аднайменны гуманітарны фонд і шэраг іншых недзяржаўных арганізацый выступілі з ініцыятывай у Дзень памяці продкаў 2 лістапада правесці Дзень роднай мовы. Скарыстаўшыся прыкладам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якая раз у год праводзіць дзень без цыгарэт, ініцыятары прапануюць 2 лістапада правесці беларускі Дзень без чужога слова — гэта значыць, каб усе беларусы, дзе б яны ні былі ў гэты дзень, гаварылі, пісалі, чыталі толькі па-беларуску і тым самым перамаглі, адолелі ў сабе той псіхалагічны бар'ер, які замінае ім гэта рабіць штодня. Нехта скажа: гульня? Што ж, няхай сабе. Але ж ці не гульня і ўсё наша жыццё...

### РЭКОРД ТЫДНЯ

Божа, колькі было абяцанняў і нават клятваў трымаць курс нашага рубля і не дазваляць інфляцыі паўзці ўгору больш чым на 2 працэнты ў месяц! І што з тых клятваў і абяцанняў? Агенцтва БелаПАН правяло параўнаўчы аналіз курсаў нацыянальных валют дзяржаў СНД да долара без уліку дэнамінацыі, што праводзілася пры іх увядзенні ці ў перыяд абарачэння. Па стане на 19 кастрычніка пяцёрку краін з найбольш абясцэненымі валютамі ўзначаліла Беларусь, а ўжо за ёю (за намі) ідуць Туркменістан, Грузія, Украіна і Узбекістан. Тут ужо сапраўды "ни убавить, ни прибавить" няма чаго...

### ПАРАДОКС ТЫДНЯ

19 кастрычніка на планёрцы ў міністра сельскай гаспадаркі былі названы красамоўныя лічбы. За апошнія 8 гадоў колькасць кароў у краіне зменшылася з 1,87 мільёна да 1,27 мільёна — на 600 тысяч. Можна, ды не можна, а трэба было б думаць, што ў такіх варунках павінна была б вырасці іх прадуктыўнасць — бо кармоў з Беларусі ніхто не вывозіў і не вывозіць. Атрымалася ж усё наадварот: надоі за гэты час знізіліся з 3200 да 2400 кілаграмаў. А яшчэ больш красамоўнае прызнанне міністра, што толькі 65 калгасаў і саўгасаў у Беларусі з'яўляюцца рэнтабельнымі. Дык мо й праўду гаварыў былы "калгасны акадэмік", а сённяшні вязень В. Старавойтаў, што няма ў калгасе сілы, якая б прымусіла добра працаваць...

### АРЫШТ ТЫДНЯ

У Лондане арыштаваны генерал Пінанчэт. Ордэр на арышт выдадзены Інтэрполам. Наўрад ці думаў 82-гадовы былы дыктатар Чылі і пажыццёвы сенатар сёння, што лячэнне ў лонданскай клініцы скончыцца для яго такім чынам. Арышт Пінанчэта стаўся сенсацыяй. А як жа! Вельмі ўзмоцнена стваравўся станоўчы вобраз "тэхналогіі чылійскіх рэформ" і іх "бацькі". Аднак жа для ўсіх сумленных людзей гэтая падзея сталася пацвярджэннем боскай справядлівасці, доказам таго, што "ніхто не можа ставіць сябе над законам". Арышт Пінанчэта — гэта напамін усім іншым дыктатарам, якім, як піша англійская газета "The Independent", "давядзецца азірацца, адчуўшы на сваім плячы цяжар доўгай рукі міжнароднага закона".

### ПАЕЗДКА ТЫДНЯ

У гэтыя дні адбываецца візіт беларускай дэлегацыі на чале з Прэзідэнтам А. Лукашэнкам у Омскую і Кемераўскую вобласці Расіі. Мэта яго — наладзіць больш цеснае эканамічнае супрацоўніцтва Беларусі з гэтымі расійскімі рэгіёнамі, дзе сферай нашых інтарэсаў з'яўляюцца вугаль, прадукцыя чорнай металургіі, хіміі, авіябудаўніцтва, сельскай гаспадаркі. Аднак жа ёсць, здаецца, падставы й для таго, каб гаварыць, што візіт мае і палітычны аспект. Інтэнсіўнасць такіх візітаў апошнім часам і актывізацыя інтэграцыйных працэсаў па абодва бакі беларуска-расійскай мяжы гавораць за тое, што нечакана ранні пачатак перадвыбарчай прэзідэнцкай гонкі ў Расіі падштурхоўвае, як піша апазіцыйны друк, не толькі расійскіх кандыдатаў на Крамлёўскі пасад...

### ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

У адной з газет прагучала такая інфармацыя: кошт гадзіны працоўнага часу ў прамысловасці Германіі складае 31,8 долара ЗША, у Швейцарыі — 28,3, Галандыі — 23,3, Францыі — 19,3, Італіі — 18 долараў, а ў Расіі — усяго 41 цэнт. А колькі каштуе гадзіна працы ў Беларусі? Сіе, напэўна, вялікаю таямніцаю ёсць...

### СУАДНОСІНА ТЫДНЯ

Статыстыка паведаміла, што за восем месяцаў гэтага года ў Беларусі добраахвотна развіталіся з жыццём амаль 2,5 тысячы чалавек. Лічба, спадары, уражвае сама па сабе. 8 месяцаў — гэта прыкладна 240 дзён. Значыць, штодня накладалі на сябе рукі больш чым дзесяць чалавек. Не менш уражвае і суадносіна сярод самагубцаў мужчын і жанчын: на адну жанчыну прыпадае 6 прадстаўнікоў моцнага полу. Прытым жанчыны робяць гэта часцей у старым узросце, прынамсі, пасля выхаду на пенсію, а мужчыны — найбольш паміж 30 і 49 гадамі. Усё гэта наводзіць на горкі роздум...

### ТРАГЕДЫЯ ТЫДНЯ

Па газетах прайшла інфармацыя аб трагічным здарэнні ў адной з вёсак Міншчыны. Маладая маці, прысынаючы трохмесячнае дзіця ля грудзей, заснула сама, і ў выніку малое задыхнулася. Такія выпадкі, на жаль, надараліся і раней, асабліва, як пісалі яшчэ нядаўна, за цяжкім капіталістычным часам. Маўляў, маці гэтак знясільваліся на працы, што засыналі, кормячы малое, і мімаволі станавіліся забойцамі ўласнага дзіцяці... У згаданым жа выпадку гаворка пра іншае: маладая мама была, як прынята гаварыць у міліцэйскіх прataколах, у нецвярозым стане. Міжволі паўторыш услед за расійскім рэжысёрам: што з намі адбываецца?..

# Прэзідэнт даручыў

У мэтах далейшага развіцця нацыянальнай літаратуры і аказання дзяржаўнай падтрымкі творчай працы беларускіх пісьменнікаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка даручыў:

1. Дзяржаўнаму камітэту па друку сумесна з Міністэрствам культуры, Саюзам беларускіх пісьменнікаў распрацаваць і ўнесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 снежня 1998 г. комплексную праграму па стварэнні ўсіх неабходных умоў для захавання і развіцця нацыянальнага кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання.

2. Аблвыканкамам, Мінскаму гарвыканкаму сумесна з Міністэрствам культуры, Міністэрствам адукацыі, Міністэрствам фінансаў прыняць меры па больш поўным камплектаванні дзяржаўных і школьных бібліятэк як кнігамі беларускіх пісьменнікаў, так і перыядычнымі беларускамоўнымі выданнямі, якія прапагандуюць агульнанацыянальную палітыку і патрабаванні нацыянальна-дзяржаўнага курсу, прадугледжваючы выдзяленне мэтавых сродкаў на камплектаванне бібліятэк.

3. Саюзу беларускіх пісьменнікаў разам з Міністэрствам культуры, Дзяржаўным камітэтам па друку, творчымі саюзамі рэспублікі да 1 студзеня 1999 г. распрацаваць праграму правядзення рэспубліканскіх грамадска значных літаратурных мерапрыемстваў і свят, уключаючы семінары маладых літаратараў, дні нараджэння выдатных беларускіх песняроў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і іншых, з выдзяленнем на гэтыя мэты дадатковых сродкаў з дзяржаўнага бюджэту.

4. Мінскаму гарвыканкаму ў 1999 годзе прыняць рашэнне аб прысваенні адной з вуліц г. Мінска імя Максіма Танка.

5. Міністэрству адукацыі пры распрацоўцы школьных праграм па беларускай літаратуры штогод абмяркоўваць з радай Саюза беларускіх пісьменнікаў, школьныя праграмы і дапаўняць іх творамі сучасных беларускіх пісьменнікаў.

6. Дзяржаўнаму камітэту па друку, Міністэрству культуры разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Камітэтам па аўтарскіх і сумежных правах пры Міністэрстве юстыцыі па ўзгадненні з Міністэрствам фінансаў разгледзець пытанне аб павелічэнні мінімальных ставак аўтарскага ўзнагароджання за стварэнне і выданне твораў літаратуры і мастацтва і да 1 студзеня 1999 г. унесці прапановы ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

7. Дзяржаўнаму камітэту па друку:

выдаць у 1999 годзе двухтомнік выбраных твораў народнага паэта Беларусі Максіма Танка;

да 1 студзеня 1999 г. разгледзець пытанне аб адлічэннях Беларускаму літаратурнаму фонду ад аўтарскага ганарару за стварэнне і выданне твораў літаратуры і мастацтва для аказання матэрыяльнай падтрымкі літаратарам, медыцынскай дапамогі, дапамогі па старасці і пры неабходнасці ўнесці прапановы ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь;

ва ўстаноўленым парадку выдаць ліцэнзію на выдавецкую дзейнасць Беларускаму літаратурнаму фонду і забяспечыць яго дзяржзаказамі на выданне асобных падручнікаў і хрэстаматый па беларускай літаратуры.

8. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у 1998 годзе вырашыць пытанне аб выдзяленні 9,3 млрд. рублёў на капітальны рамонт і ўзнаўленне круглагадовай дзейнасці пісьменніцкага Дома творчасці "Іслач".

9. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь забяспечыць размяшчэнне структурных падраздзяленняў Саюза беларускіх пісьменнікаў у будынку па вул. Фрунзе, 5 пад поўную патрэбнасць з пагашэннем арэнды і камунальных паслуг ва ўстаноўленым парадку за кошт бюджэтных сродкаў.

10. Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі сумесна з Дзяржаўным камітэтам па друку, Саюзам беларускіх пісьменнікаў распрацаваць і зацвердзіць план мерапрыемстваў па прапагандзе лепшых твораў нацыянальнай літаратуры і іх аўтараў як у рэспубліцы, так і за яе межамі.

11. Кантроль за выкананнем даручэнняў гэтага пратакола ўсклаці на Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь (Замятлін У. П.) і Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (Пашкевіч І. І.).

# Гранты, ганарары, дапамогі

Распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі зацверджана РАШЭННЕ савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва аб вылучэнні сродкаў на выплату грантаў і ганарараў на стварэнне твораў культуры і мастацтва, набыццё інструментаў і матэрыяльных сродкаў для ажыццяўлення творчай дзейнасці, забеспячэння ўдзелу творчых калектываў і асобных выканаўцаў у міжнародных канцэртах, фестывалях, арганізацыю стажыровак дзеячаў культуры і мастацтва ў рэспубліцы і за яе межамі, аказанне разавай матэрыяльнай дапамогі, у якім гаворыцца:

**1. Выдзеліць гранты:**

Беларускаму тэатру юнага гледача на пастаноўку п'есы А. Дударава "Палачанка" — у памеры 1100 млн. рублёў;

Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь на аднаўленне найрэдкіх твораў беларускага мастацтва (рэстаўрацыю 15-ці старадаўніх ікон) — у памеры 1960 млн. рублёў;

Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі на набыццё калекцыі найрэдкіх рукапісных і друкаваных выданняў XVII—XIX стст. — у памеры 2 млрд. рублёў;

Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь — у памеры 2500 млн. рублёў, Музею сучаснага мастацтва — 1500 млн. рублёў, Віцебскаму абласному мастацкаму музею — 1 млрд. рублёў, Магілёўскаму абласному мастацкаму музею — 1 млрд. рублёў, Гродзенскаму гісторыка-археалагічнаму музею — 1 млрд. рублёў на набыццё твораў выяўленчага мастацтва беларускіх мастакоў;

Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь для заключэння дагавораў дзяржаўнага заказу з беларускімі драматургамі на стварэнне драматычнага цыкла "Гістарычная хроніка Беларусі XII-XIX стст." — у памеры 480 млн. рублёў.

**2. Выплаціць ганарары:**

выдавецтву "Мастацкая літаратура" для беларускіх пісьменнікаў — у памеры 2500 млн. рублёў;

народнаму артысту СССР Елізар'еву В. Н. за стварэнне лібрэта і харэаграфіі балетнай дылогіі І. Стравінскага "Вясна свяшчэнная" і "Жар-птушка" — у памеры 250 млн. рублёў; народнаму артысту Расіі Праватораву Г. П. за музычнае кіраўніцтва ў балеце І. Стравінскага "Вясна свяшчэнная" — у памеры 25 млн. рублёў; студэнтам Беларускага універсітэта культуры Красько Р. І. і Цяцеркінай А. В. за перамогу ў Чэмпіянаце свету па спартыўных танцах на інвалідных калясках — у памеры 60 млн. рублёў.

**3. Выдзеліць сродкі:**

Беларускай акадэміі мастацтваў на набыццё светла- і гукаапаратуры для глядзельнай залы студэнцкага тэатра — у памеры 376 млн. рублёў;

Беларускай акадэміі музыкі на набыццё духавых інструментаў для аркестраў "Маладая Беларусь" і "Фанфары Беларусі" — у памеры 8700 млн. рублёў;

Беларускаму дзяржаўнаму харэаграфічнаму ансамблю "Харошкі" на набыццё музычных інструментаў і апаратуры для дзіцячай студыі-школы і аркестра — у памеры 500 млн. рублёў;

Беларускаму універсітэту культуры на набыццё інструментаў для падрыхтоўкі эстрадных выканаўцаў — у памеры 860 млн. рублёў;

Дзяржаўнаму акадэмічнаму рускаму драматычнаму тэатру Рэспублікі Беларусь імя Максіма Горкага на набыццё светла- і гукатэхнічнага абсталявання для "Тэатра пад купаламі" — у памеры 617 млн. рублёў;

Беларускаму інстытуту праблем культуры на выданне фундаментальных навукова-метадычных і рэпертуарных работ: "Анталогія народнай творчасці Магілёўшчыны", "Беларускі народна-сцэнічны танец", рэпертуарнага зборніка аднаактовых п'ес Г. Марчука, зборніка песень І. Лучанка — у памеры 550 млн. рублёў;

Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на выданне кнігі Гаробчанкі Т. Я. пра жыццё і творчасць народнай артысткі Беларусі З. І. Канапелькі — у памеры 80 млн. рублёў і кнігі Ярмолінскай В. М. "Брава, Віктар", прысвечанай творчасці народнага артыста СССР В. П. Тарасава, — у памеры 158 млн. рублёў;

выдавецтву "Мастацкая літаратура" на выданне зборніка выбраных п'ес Паповай А. Г. — у памеры 339 млн. рублёў;

на забеспячэнне ўдзелу Акадэмічнага хору моладзі і студэнтаў "Грайна" ў XXXV Міжнародным харавым конкурсе ў г. Шпіталь (Аўстрыя) — у памеры 150 млн. рублёў;

на забеспячэнне ўдзелу Полацкага камернага хору ў 54-м Міжнародным харавым фестывалі ў Вялікабрытаніі — у памеры 150 млн. рублёў;

на забеспячэнне ўдзелу студэнта Беларускай акадэміі музыкі Паначэўнага А. В. і прафесара Гільдзюка Ю. Н. у Міжнародным конкурсе і фестывалі піяністаў імя В. Капелы (універсітэт штата Мэрыленд, ЗША) — у памеры 100 млн. рублёў;

на арганізацыю стажыровак маладых дырыжораў і рэжысёраў у вядучых майстроў сцэны, у кансерваторыях, драматычных і оперных тэатрах Масквы, Санкт-Пецярбурга, а таксама ў замежных краінах — у памеры 1850 млн. рублёў;

на пераклад газеты "Культура" на каляровае афармленне і ўвядзенне новых тэматычных укладышаў, у тым ліку для шырокага кола моладзі, — у памеры 335 млн. рублёў;

на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы Музея сучаснай беларускай скульптуры імя А. Бембеля — у памеры 350 млн. рублёў;

на стварэнне буклета Дзяржаўнага тэатра лялек Рэспублікі Беларусь (да 60-годдзя з дня ўтварэння) — у памеры 200 млн. рублёў.

**4.** Аказаць разавую матэрыяльную дапамогу народнай артыстцы Беларусі Акружной С. А. у памеры 50 млн. рублёў.

ДАТЫ

# Адбудоўваць дом

Беларускі народны фронт адзначыў дзесятую гадавіну. Я добра памятаю, як усё гэта пачыналася 19 кастрычніка 1988 года. Народныя франты ўжо існавалі ў шэрагу саюзных рэспублік СССР. Ідэя, так бы мовіць, насілася ў паветры. І пытанне было толькі ў тым, хто першы абвесціць стварэнне фронту і, адпаведна, манапалізуе ідэю. Хто першы — дэмакраты альбо камуністы? На тым, цяпер ужо гістарычным сходзе ў Доме кіно сабраліся дэмакраты.

Тады былі спадзяванні, што сітуацыя ў Беларусі будзе развівацца па "прыбалтыйскім сцэнарыі". Гэта значыць, Народны фронт перамагае камуністаў і іхнюю крэатуру на выбарах і на цалкам легітымнай аснове рэалізуе сваю праграму.

Але на справе атрымалася інакш. Шлях Беларусі да дэмакратыі і незалежнасці аказаўся доўгім і пакутлівым. На жаль, і сёння нельга сказаць, што мы ўжо "бачым святло ў канцы тунеля".

На ўрачыстым вечары, што адбыўся 19 кастрычніка ў Палацы культуры ААА "Сукно" ў Мінску, фронт віталі Сямён Шарэцкі ад імя Вярхоўнага Савета, прадстаўнікі партый, якія з'яўляюцца натуральнымі саюзнікамі фронту, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", кіраўнік "Маладога фронту", прадстаўнік віленскіх беларусаў і старшыня Сусветнага саюза беларускіх яўрэяў. Потым быў невялікі, але вельмі густоўны канцэрт.

Сёння БНФ, як і ўсе беларускія дэмакраты-адраджэнцы, перажывае не лепшыя часы. Пра гэта гаварылі ўсе выступаючыя. Існуе рэальная пагроза эканамічнай катастрофы і страты дзяржаўнага суверэнітэту. Тое, што ў неспрыяльных умовах фронт захаваў арганізацыйную структуру і пэўны ўплыў на грамадства — ужо само па сабе дасягненне. Але гэтага мала, каб выратаваць краіну. Патрэбна, як мінімум, кансалідацыя ўсіх дэмакратычных сіл. Між тым (гэта адчувалася нават у святочных прамовах) фронт і іншыя дэмакратычныя партыі не маюць нават адзінай пазіцыі адносна магчымых выбараў. БНФ, безумоўна, мае велізарныя заслугі перад краінай, але ў фронту былі і памылкі, і будучыня БНФ як палітычнай сілы сёння ўяўляецца даволі неакрэслена.

"Мы ўсё згубілі", — кажуць нам песімісты; "Мы ўсё вернем", — адказваем мы" — гэта словы з ліста Зянона Пазняка з нагоды юбілею фронту.

Хай бы так і было. Зрэшты, адбудоўваць дом пасля пажараў беларусам звыкла...

**П. В.**

# "Я — шчаслівы чалавек..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*
што хвалюе яго зараз, гэта міфалогія, язычніцтва, старажытнасць і гісторыя. Вобразы беларускай гісторыі заўжды цікавілі Г. Вашчанку (згадайма серыю "Асветнікі" ў Доме настаўніка — партрэты Сімяона Полацкага, Вітаўта, Льва Сапегі, Сымона Буднага, Скарыны і іншых). І на сённяшняй выставе можна знайсці партрэты, напрыклад, Барбары Радзівіл, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава. Але найбольш мастак ідзе праз іншае асэнсаванне тэмы — праз філасофскія катэгорыі, праз матэрыялізацыю ў міфалогіі духоўных ісцін ("Вечнасць", "Зорка Палын"). Такая ж і серыя, прысвечаная камяням, — старажытным сімвалам быцця і спадарожнікам беларускіх пейзажаў. Гэта развагі пра шлях чалавека, непазбежнасць лёсу, немагчымасць вяртання ("Брама", "Забытая памяць"). І, натуральна, вобраз каменнага крыжа ("Знакі", "Іардань на Палессі") — сімвала язычніцкага і хрысціянскага, вельмі важнага для мастака.

Звяртаецца Г. Вашчанка і да этнаграфічных міфаў, да язычніцкіх багоў. Гэта "Беражніца", "Лада", "Лёль і Лель", "Ярыла", "Жыцень". Асабіста мне падабаюцца гэтыя трапяткія і пяшчотныя, як народныя казкі, вобразы, насычаныя прыхільнасцю да іх і любоўю.

Ну і, натуральна, — прыродныя замалёўкі. Прырода ў Г. Вашчанкі заўжды натхнёная. Яна спакойная і непарушная, як існасць сапраўднага беларуса, яна ўраўнаважана самімі колеравымі плямамі, стрыманымі душэўнымі перажываннямі, жывапісным почыркам мастака. Сам Г. Вашчанка лічыць, што мастацтва па сваёй прыродзе павінна быць нацыянальным. Магчыма таму, гледзячы на буслоў, стагі, кветкі, чарот, лодкі, — пераасэнсоўваеш іх абстрактна, як міфалагічныя паняцці ("Таямнічасць", "Свіслач", "Дарога ўздоўж возера"). Нездарма ж гавораць, што ў кожным беларусе жыве дасюль ненатолены язычнік. Найбольш удалыя тут, здаецца мне, невялікія работы — нібы эцюдныя замалёўкі прыроды, вытанчаныя, зграбныя, падобныя на закончаныя агранёныя камяні ("Дзень згасае", "Край азёр", "Мая зямля").

Сам мастак, разважаючы пра сканцэнтраванасць сваіх жывапісных абагульненняў, аддае даніну сваёй адукацыі і працы ў манументальным мастацтве. Гэта дазволіла яму звыкла распрацоўваць тэматыку карцін, вылучаць на палатне галоўнае, пакідаючы толькі тыя дэталі, якія адпавядалі б выказанай ідэі. Цяпер мастак амаль не працуе як манументаліст, хаця і раней ён часта браў у рукі пэндзаль. "Я лічу, што тыя мае вучні, што займаліся толькі манументальным мастацтвам, не звяртаючыся да жывапісу, не ўзбагачаліся жыццёвымі ўражаннямі. Іх творчасць можа выхаласціцца. Без праблем улавіўшы схему роспісу, можна не знайсці з яе выхаду да сапраўднай творчасці. Я і ў маладосці да "сцяны" ішоў толькі тады, калі не мог свае думкі, пачуцці пакласці на палатно, калі памераў яго не хапала для маёй задумы. Але ўсё адно імкнуўся сфармуляваць свае думкі, развагі спачатку на кавалку паперы. Цяпер асноўная мая творчасць — у жывапісе. У маладосці жыццё здавалася бясконцым, можна было марнаваць час на шматлікія тэхнічныя перашкоды, якія суправаджалі стварэнне кожнага манументальнага твора. А цяпер стала шкада часу, хочацца паспець выказаць усё, што ёсць на душы".

Больш за трыццаць год Гаўрыла Вашчанка ўзначальваў кафедру манументальна-дэкаратыўнага майстэрства ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер Акадэмія мастацтваў). Можна гаварыць пра тое, што пры ім сталася беларуская школа манументальнага мастацтва і выпеставалася многа выдатных мастакоў. Сам Вашчанка заўважаў, што педагагічная дзейнасць ніколі яму не перашкаджала, наадварот — яна канцэнтравала яго ўвагу і час, а неабходнасць пэўнай унутранай справаздачы перад студэнтамі толькі прымушала больш пільна адносіцца да сваёй творчасці. Адышоўшы ад актыўнага кіраўніцтва кафедрай, Гаўрыла Харытонавіч і зараз мае сваіх студэнтаў-дыпломнікаў. На жаль, заўважае ён, сённяшні час бедны на новае будаўніцтва і галоўным заказчыкам маладых мастакоў становіцца царква, якая не дае сталай кананічнасцю разгортвацца таленту і майстэрству. Ды і сам Г. Вашчанка, калі атрымаў запрашэнне экзарха Філарэта на роспіс, прапанаваў сваё бачанне хрысціянскай тэматыкі, якое не цалкам прытрымліваецца праваслаўных канонаў і царквою было адхілена.

Любоў да прыроды, лічыць мастак, была выхавана ў яго дзяцінствам, праведзеным у прыгажэйшым кутку Беларусі — паміж Дняпром і Прыпяццю. А вось пачуццё нацыянальнага, любоў да гісторыі свайго народа прыйшло ў той час, калі мастак жыў за межамі рэспублікі. Ён выпадкова трапіў на вучобу ў Кіеўскую вучэльню прыкладных мастацтваў, ужо здаўшы іспыты ў Гомельскі чыгуначны тэхнікум. Пасля быў Мастацкі інстытут у Львове, горадзе, дзе панавала ў мастацтве яшчэ еўрапейская школа без сацрэалістычных перашкод і культывавалася шырокая плынь нацыянальнага руху. Там хлопец упершыню задумаўся, хто ён, адкуль, навошта вучыцца, для каго будзе працаваць. Пасля размеркавання Г. Вашчанка працаваў шэсць год у Кішынёве, дзе яго прынялі цёпла, далі кватэру ў саўмінаўскім доме ў цэнтры горада, прынялі ў Саюз мастакоў, узнагародзілі медалём і вылучылі на атрыманне звання заслужанага дзеяча мастацтваў. Але чым больш мастак пазнаваў малдаўскую культуру, тым больш цягнула на радзіму. І пры першай жа магчымасці ён прыняў удзел па запрашэнні П. Масленікава, тагачаснага рэктара БДТМІ, у конкурсе на пасаду загадчыка кафедры манументальнага мастацтва, выйграў яго, памяняў саўмінаўскі дом на "хрушчоўку" ў Мінску. Так на Беларусь вярнуўся яе сапраўдны патрыёт і сапраўдны мастак.

Створаныя ім манументальныя роспісы ў Салігорску, у Мінскім доме настаўніка, вітражы ў касцёле Сымона і Алены сталі хрэстаматыйнымі і могуць быць тэмай асобнай гаворкі. Але не менш каштоўнымі для мастацтва Беларусі з'яўляюцца і жывапісныя творы Гаўрылы Вашчанкі, яго алейныя цыклы і чароўныя акварэлі, якія, на жаль, не ўвайшлі ў экспазіцыю яго выставы ў Нацыянальным мастацкім музеі.

Г. Вашчанка ўлавіў рытмы сваёй эпохі, ён жыве яе праблемамі. Для яго мастак — заўжды барометр свайго часу. "Тэатр абсурду" — так называецца адна з яго апошніх работ. Гэта лесвіца ў нікуды, пустэча ўнутры чалавека, што заблукаў і збіўся з дарогі, гэта повад для разваг. Але першаснасць творчасці Вашчанкі — святло і дабрыня. Гэта "Крылы" — які б пранізлівы колер іх ні абкружаў, яны ўсё адно імкнуцца ў вышыню. Гэта "Дыялогі" — згустак пытанняў і праблем часу, вечныя дыялогі творцы са светам, пошукі, адкрыцці, вечны шлях.

І на гэтым шляху Гаўрылу Вашчанку падтрымлівала сям'я — маці, якая дала талент і навучыла працаваць, старэйшы брат, які дапамог яму грашмі, каб была магчымасць вучыцца пасля вайны, і, можа, найбольш — жонка Мацільда Адамаўна, ягоны анёл-ахоўнік. Можа, таму нават на выставе, не гаворачы пра майстэрню, так многа яе партрэтаў...

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота К. Дробава.*



*"Час прыцямкаў", 1997 г.*

АБСЯГІ

МАГІЛЁЎ...

## Навінкі тэатральнага сезона

На рахунку народнага тэатра Беларускай культурна-асветніцкай суполкі "Машэка", створанай шэсць гадоў таму пры Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры, больш за 20 спектакляў, якія пастаўлены па творах беларускіх пісьменнікаў. Усё гэта работы заслужанага дзеяча культуры Беларусі рэжысёра Валянціна Ермаловіча.

Новы тэатральны сезон В. Ермаловіч і яго сябры-тэатралы пачнуць монаспектаклем "Малітва да Калымы", аснова якога зроблена па вершах пакутніцы Лесі Беларускі, якая замерзла ў сталінскім канцлагеры на Калыме. Галоўную ролю будзе выконваць актрыса народнага тэатра Таццяна Яфімава, выкладчыца беларускай літаратуры Магілёўскага палітэхнікума. На прэм'еру мяркуецца запрасіць паэтку Алу Канапельку, дзякуючы якой у часопісе "Полымя" з'явіліся вершы Лесі Беларускі.

Рыхтуюцца да пастаноўкі таксама "Калізей" М. Матукоўскага і "Кароль Лір" В. Шэкспіра. На працягу тэатральнага сезона машэкаўцы падрыхтуюць і правядуць у Магілёве "Тэатральную вясну".

## Майстар на ўсе рукі

Андрэй Міхайлавіч Пугач — старшы выкладчык Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, выхаванцам якой з'яўляецца й сам. Ён выкладае эканоміку. А яшчэ Пугача ведаюць як аднаго з лепшых салістаў народнага духавога аркестра Горацкага раённага цэнтра культуры. І не толькі. Андрэй Міхайлавіч піша вершы, апавяданні і нарысы аб знакамітых людзях зямлі горацкай. Ён аўтар кнігі "Вёска стамілася", у якую ўвайшлі паэзія і проза. Дапамаглі выдаць гэтую кнігу Горацкі райвыканкам, БСГА, а таксама гаспадаркі раёна, пра людзей якіх напісаў Андрэй Міхайлавіч.

## У вёсцы свае тканіны

Да нядаўняга часу глуская вёска Хваставічы славілася на ўвесь раён толькі самабытным народным фальклорна-этнаграфічным ансамблем, які працуе пры мясцовым Доме культуры. Нядаўна тут пачалі выпускаць... тканіну для пашыву андаракаў. Для гэтага аддзел культуры купіў кросны, на якіх ткалі раней вясковыя жанчыны. За бёрда села Таццяна Зінкевіч, выпускніца Бабруйскага мастацкага вучылішча. Таня — выдатная і вышывальшчыца.

Першыя 17 метраў тканіны, якія ўжо гатовы, пойдуць на пашыў андаракаў для фальклорнага гурта Глускай дзіцячай школы мастацтваў, які стварыла яе дырэктар Галіна Пятроўна Царашонак, вядомы фалькларыст у вобласці, аўтар чатырох зборнікаў народных песень, якія запісаны на Магілёўшчыне.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

ГРОДНА...

## У госці да сяброў

На пачатку гэтага тыдня творчая група абласнога драматычнага тэатра выехала ў горад Міндэн — пабрацім Гродна. Такая творчая вандроўка ладзіцца ўпершыню. Працягнецца яна да 28 кастрычніка. Запрасіў Міндэн і маладых музыкаў, мастакоў Гродзеншчыны. Яны таксама возьмуць удзел у шматлікіх канцэртах і фестывалях, якія праходзяць зараз у гонар 1200-годдзя Міндэна.

**Ірына ІВАНОВІЧ**

ГОМЕЛЬ...

## Юбілейны вернісаж

Сёння ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў адкрылася выстава знакамітага акварэліста Уладзіміра Пятровіча Кароткага, прысвечаная 60-годдзю з дня яго нараджэння. Мастак пабываў ва ўсіх кутках Гомельшчыны, стварыў сотні палотнаў. Усе яны напоўнены паветрам, маляўнічыя па колерным ладзе, выпраменьваюць святло, мажорныя па настроі. Напрыклад, карціны "Затокі Прыпяці", "Вёска Радзеева Буда-Кашалёўскага раёна", "Радасць белых бяроз"... Яшчэ адна тэма займае пачэснае месца ў творчасці мастака — малюе храмы, пабудаваныя народнымі ўмельцамі.

## Традыцыі працягваюць маладыя

У Мазыры выдатная выставачная зала мясцовага краязнаўчага музея. У ёй свае экспазіцыі адкрывалі вядомыя мастакі, найперш гамяльчане, якія зрабілі значны ўклад у развіццё выяўленчага мастацтва краіны. Новая экспазіцыя прадстаўляе маладых мастакоў палескага краю. Большасць з іх маюць высокую прафесійную падрыхтоўку.

Шырока на выставе прадстаўлены жывапіс. Выдзяляюцца работы Данаі Захаравай з Мазыра, Ані Курашовай з Гомеля, Вадзіма Стральчэні з Рэчыцы.

## Канцэрт камернага

У канцэртнай зале музычнага каледжа імя Н. Сакалоўскага выступіў вядомы камерны аркестр, кіраўніком якога Аляксандр Мазепін. У выкананні гэтага творчага калектыву прагучала музыка Моцарта, Вівальдзі, Шуберта, Гайдна, Альбіноні.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ВІЦЕБСК...

## Апошні кіраўнік паўстання

На беларускай і польскай мовах высечаны надпіс на новай пліце на магіле Тамаша Ваўжэцкага ў гарадскім пасёлку Відзы Браслаўскага раёна: "Тамаш Ваўжэцкі. Апошні кіраўнік паўстання 1794 года". Ён быў адмысловым знаўцам права, з'яўляўся паслом ад Браслаўшчыны на сейме 1788—1792 гадоў, распрацаваў рэформу мясцовага самакіравання, пасля палону Тадэвуша Касцюшкі ўзначальваў паўстанне 1794 года.

**Святлана ГУК**

## Ушанаваны аўтар "Знахара"

Жыхары Глыбокага ўшанавалі памяць аб пісьменніку Тадэвушу Даленгу-Мастовічу. На будынку па вуліцы Савецкай (былой Кракаўскай) адкрылася мемарыяльная дошка ў гонар аўтара папулярнай не толькі ў Польшчы аповесці "Знахар". У Глыбокім прайшлі дзіцячыя гады пісьменніка, стогадовы юбілей якога адзначаўся ў жніўні. Старажылы прыгадваюць, як у 30-ыя гады Даленга-Мастовіч наведваў Глыбокае, дзе ў гарадской школе працавала яго сястра. Успаміны пра тутэйшае жыццё можна знайсці ў многіх творах пісьменніка.

## Прэзентацыя "Атэкстацый"

**16 кастрычніка ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбылася прэзентацыя кнігі вершаў маладога беларускага паэта Міхала Анемпадыстава "Атэкстацыі" (выдавецтва "Каўчэг").**

**Гэта першая кніга паэта, аднак перапоўненая зала сведчыла пра тое, што і сама асоба аўтара, і яго творы прыцягваюць да сябе ўвагу самых розных людзей. На вечарыну прыйшлі школьнікі, студэнты, людзі сталага ўзросту, каб пабачыць і пачуць М. Анемпадыстава, які напісаў усе тэксты да песень цяпер ужо славутага музычнага праекта "Народны альбом".**

**На пачатку прэзентацыі цёпла прывітаў маладога паэта і ўсіх прысутных дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Мікола Трус.**

**На вечарыне панавала атмасфера сяброўскай прыязнасці. Паэт чытаў свае вершы нязмушана, без аніякае позы. Вядомыя музыкі Кася Камоцкая, Лявон Вольскі, Слава Корань і іншыя ўпрыгожылі прэзентацыю таленавітым выкананнем песень на тэксты М. Анемпадыстава.**

**Ірына МАРАЧКІНА**

## У "Дудутак" — дзень нараджэння

**Музею матэрыяльнай культуры "Дудуткі", які заснаваны выдавецкай фірмай "Паліфакт", пісьменнікам Яўгенам Будзінасам, — чатыры гады. Нягледзячы на нялёгкія перыпетыі лёсу, музей пад адкрытым небам прымае наведвальнікаў, вабіць айчынных і замежных турыстаў.**

**І хоць "Дудуткі" звычайна вітаюць гасцей шумна, урачыста, гэтым разам дзень нараджэння быў адзначаны досыць камерна. Сабраўся калектыў гаспадароў, заснавальнікаў музея. Сабраліся людзі, якія ведаюць цану і ветраному млыну, і кузні, кожнаму з сабраных экспанатаў, кожнаму з праведзеных на дудуцкай зямлі фэстаў старасвецкай культуры.**

**Гэтым разам не было ў "Дудутках" знакамітых гасцей. Хіба што поруч з гаспадарамі музея, які кліча Беларусь у заўтра, былі ўсяго толькі самыя блізкія сябры "Дудутак".**

**І. МАЗАНІК**

## Гомельскі аўтар "Юносці"

**Фелікс Мысліцкі — рускі паэт, які жыве і працуе ў Гомелі. Здавалася б, малавядомы, амаль не прызнаны на Беларусі. Але гэтак — толькі на першы погляд. У "Мастацкай літаратуры" пабачыла свет яго кніга вершаў "Черное солнце".**

**І вось — новая сустрэча з гомельскім аўтарам. Гэтым разам — на старонках маскоўскага часопіса "Юность": у восьмым сёлетнім нумары надрукавана шэсць вершаў Ф. Мысліцкага. Прадмову да падборкі напісаў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. У прыватнасці, празарлівец паэтычнай нівы зауважыў: "Паэзія Фелікса Мысліцкага ўся з сумненняў і веры, з суму і радасці, з хмар і сінявы. А паэт імкнецца да дасканаласці".**

**М. СЛАБАДСКІ**

## Таленавіты брат нашага Бога

**21 кастрычніка ў Мінску адбылася прэм'ера фільма польскага рэжысёра К. Занусі "Брат нашага Бога" (1997). Паказ карціны і сустрэчу з рэжысёрам арганізавалі: Польскі інстытут, мінскі "Кінаклуб", кінатэатр "Піянер".**

**"Фільм "Брат нашага Бога" зроблены на аснове п'есы, напісанай пяцьдзесят гадоў таму правінцыйным польскім святаром Каралём Вайтылам, у якім наўрад ці хто мог убачыць будучага Папу Рымскага, — казаў К. Занусі. — У свой час мяне ўразіла глыбіня думак гэтага маладога аўтара, які ўзняў пытанне тыраніі розуму". Кажуць, падчас прэм'еры стужкі ў Ватыкане Папа вельмі хваляваўся, баючыся, што тэкст будзе не падыходзіць для канца стагоддзя. Думаю, мінскія гледачы ўсё разумелі, бо праблема пошуку чалавекам Бога і самога сябе актуальная якраз пад заслону XX стагоддзя. Сёння К. Занусі з'яўляецца кансультантам ватыканскай камісіі па справах культуры. "Толькі не лічыце мяне саветнікам Папы па пытаннях культуры — ён і сам добра разбіраецца".**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

# Свята без... далягляду

### З 1 ПА 4 КАСТРЫЧНІКА Ў БРЭСЦЕ ПРАХОДЗІЎ ТЭАТРАЛЬНЫ ФЕСТЫВАЛЬ "БЕЛАЯ ВЕЖА"

Цяжка пераацаніць леташні поспех берасцейскага фестывалю. З суладдзя дзвюх паралельных праграм (іх склалі спектаклі лялечныя і драматычныя) пераканаўча вынікала адметная канцэпцыя берасцейскіх тэатральных спатканняў. (Між тым, нават акрэсленасцю мэт можна пахваліцца далёка не кожны міжнародны тэатральны фэст). Лялечнікі і драматычныя артысты, не ўнікаючы асабліваcцяў свайго мастацтва, мяняліся прыёмамі, спосабамі існавання на пляцоўцы, ядналі, здавалася б, самую прыроду лялек і жывога, трапяткога, чуйнага чалавека.

Сёлетняя "Белая вежа", відавочна, будавалася паводле леташніх прынцыпаў і перадусім абяцала спектакль леташніх прызёраў з Вільні, гадаванцаў Альгірдаса Латэнаса (іх студэнцкі спектакль "Іванаў" А. Чэхава, ганараваны гран-пры фестывалю, цяпер увайшоў у рэпертуар знакамітага Нацыянальнага маладзёжнага тэатра, на чале якога стаіць спадар Латэнас). Брэст, аднак, пычакаў зусім іншы тэатр з Літвы, — Каўнаскі акадэмічны драматычны са спектаклем паводле Джавані Бакача "Дэкамерон". Альгірдас са сваёй нядаўняй прэм'ерай паводле Атола Фугарда "Падарожжа ў Меку" спасләуся на хваробу вядучага артыста; аднак удзельнікі з Каўнаса, замяніўшы калег, не спраўдзілі фестывальных чаканняў.

Адмовіўся наведаць берасцейскі тэатральны фэст і тэатр з Арла са спектаклем "Без віны вінаватыя" А. Астроўскага ў рэжысуры Барыса Галубіцкага (вядомы спектакль, знаны рэжысёр, у галоўнай ролі — Вера Васільева). Як тлумачылі ў аргкамітэце, "у сувязі з адсутнасцю фінансавання з боку адміністрацыі Арлоўскай вобласці".

Лялечная праграма, дзякуючы адметнаму фінансаваму крызісу, не дачакалася ўдзелу туркаў, італьянцаў ды бразільцаў. Тэатр лялькі, акцёра, маскі "Арлекін", уладальнік леташняга гран-пры ў лялечнай праграме, прывёз "Прынцэсу на гарошыне" паводле Андэрсана, але ўсё самае набалелае ды прынцыповае ў спектаклі вырашалі не прынц з прынцэсаю, а тры цудоўныя феі ў цёмным лесе. Вырашалі вельмі прыгожа, але дужа доўга. Так што ці не тры чвэрткі спектакля заняла экспазіцыя — чараванне фей, а нейкую рэштачку часу — прыгода з гарошынай.

Яднання відаў мастацтва ды ўзаемаўплываў з узаемапрынікненнямі на сёлетняй "Белай вежы" не назіралася. Тэатр юнага гледача мусіў прадставіць сваіх "Шчаслівых жабракоў" ля ўласна Белае вежы, на адметна і з году ў год непрыстасаванай ні для якіх тэатральных паказаў пляцоўцы (як сама Белая вежа яшчэ ніколі не стасавалася з эстэтыкай спектакляў, чым фонам ставалі яе муры). Найвыбітнае відовішча паводле Карла Гоцы ў рэжысуры Мікалая Шыйко, выканаўчыя нюансы акцёраў, пластычны малюнак мізансцэн і роляў і г.д. міжволі цярпелі ад восеньскага холаду ды пабочнага шуму...

Спектакль "Шчаслівыя жабракі", паўтораны тюгаўцамі ў сценах Брэсцкага тэатра драмы і музыкі, пераўзышоў усе чаканні: старшыня журы Лілія Давідовіч, знаная Купалаўская "зорка", нават і не хавала свайго шчырага захаплення акцёрскім гартам ды рэжысёрвай класнасцю. Гран-пры фестывалю, аднак, журы аддало спектаклю Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі "Ваўкі і авечкі" А. Астроўскага ў рэжысуры А. Каца, які на самай справе ўразіў рэжысёрскім абыходжаннем з класічнай, нават хрэстаматыйнай драматургіяй. Персанажы мусілі існаваць і выяўляць свае класічна-запаволеныя пачуцці-перажыванні ў тэмпа-рытме тэлевізійнага кліпа. Работы С. Кузьміной, В. Саладзілава, Р. Янкоўскага, В. Быкава, А. Перавожкінай, У. Шэлестава, — ды што там, усіх, хто заняты ў спектаклі, вымагаюць разваг пра ансамбль, пра найноўшае гучанне класікі, пра сугучнасць часу і да т.п. Да ўсіх вартасцяў дадаецца яшчэ адна, бадай, галоўная і важкая: публіка... смяецца. Спектакль поўніцца адметным гумарам, падтэкстамі прачытваюцца без вялікіх намаганняў, як той казаў, ведаючы сваё месца і пераканаўча "гуляюць" і падкладзеныя тлусцінкі на клубах Расціслава Янкоўскага, і шматлікія пакуначкі й вандзэлачкі ў ягоных руках, і чырвоныя адвароты на ботах, і зброя пляменніка Мурзавецкай у выкананні В. Быкава, якога акцёр прадстаўляе адметна характарна — бесхарактарным, і ўборы паненкіперастаркі Мурзавецкай, якая ў выкананні Святланы Кузьміной выдае на адметна моцную натуру...

Малы тэатр (кіраўнік Ігар Забара) прывёз берасцейцам свой знакаміты "Арт" — спектакль, які, нягледзячы на цану білетаў, да сёння перажывае аншлагі ў вялікай зале Купалаўскага тэатра. І ў Брэсце прапоўненая зала паспяхова... маракавала над пытаннем пра існае мастацтва ды існае сяброўства, трактаванае рэжысёрам Мікалаем Пінігіным ды акцёрамі-паплечнікамі Ігарам Забарам, Віктарам Манаевым, Сяргеем Жураўлём.

"Вольная сцэна" (неадназова аспрэчаная назва, аднак, прыжылася сярод публікі ды прэсы, — так, што яны самі не пажадалі адмовіцца ад яе!) паўстала на фестывалі ў "Развітанні з Радзімай" Алены Паповай (рэжысура Уладзіслава Осіпава). Кіеўскі дзяржаўны тэатр драмы і музыкі ўзрадаваў гледачоў "Белай вежы" паводле Луіджы Пірандэла "Трохі віна..." (адмысловая рэжысура і інсцэніроўка Д. Багамазава). Тэатр харэаграфіі з Бона, прадстаўлены тэатральнаю "зоркаю" Карлам Ванекам, захапіў сваімі "Яблычнымі гульнямі" з празрыстымі дачыненнямі мужчын і жанчын, асвечанымі біблейскім грэхападзеннем. Люблінскі драматычны тэатр імя Ю. Астэрвы азадачыў аўдыторыю філасофіяй "Шлюбу" Вітольда Гамбровіча ў рэжысуры Марцэля Каханчыка. Брэсцкі тэатр драмы і музыкі выставіўся на фестывальны конкурс з "Цыганскім каралём" У. Караткевіча — А. Дударава ў пастаноўцы Ю. Лізянгевіча. Група Ганны Вестфале "Амальгама" з Рыа-дэ-Жанейра прывезла праз акіян "Апельсіны жадання", аўтарскую пластычную кампазіцыю Ганны Вестфале пад блюзы васьмідзесятых.

..."Белая вежа-98" будавалася з вялікім арганізатарскім жаданнем, але без яўна акрэсленага мастацкага далягляду. Горад насампраўдзе атрымаў тэатральнае свята, але яно (свята) ужо два гады запар ладзілася як канцэптуальнае і адметна пошукавае мерапрыемства...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**



*На здымку: уладальнікі Гран-пры фестываля "Белая вежа" лялечнікі з Віцебска.*

*Фота А. ХІТРОВА, БЕЛТА.*

ВЫСТАВЫ

# Любіў сусвет і родную зямлю

### ДА 110-ГОДДЗЯ Язэпа ДРАЗДОВІЧА

"Вечны вандроўнік" — пад такой назвай у чытальнай зале аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі арганізавана выстава, прысвечаная юбілею самабытнага беларускага мастака Язэпа Драздовіча. Назва ўзята з аднайменнай кнігі вядомага вучонага, даследчыка жыцця і творчасці Я. Драздовіча Арсена Ліса.

На выстаўцы экспануюцца матэрыялы з асабістага архіва мастака і краязнаўцы. Яго рукапісны архіў быў набыты бібліятэкай у 1965 годзе ад нашчадкаў мастака, а ў 1966-ым сябра Драздовіча П. Сергіевіч перадаў у бібліятэку карціны, графічныя замалёўкі, разьбу па дрэве. У тыя гады творчасць Язэпа Драздовіча была мала вядомая нашай грамадскасці і афіцыйна амаль што не прызнавалася, таму ўсе спробы бібліятэкі перадаць яго палотны, скульптурныя і этнаграфічныя матэрыялы ў музеі Мінска былі безвыніковымі. І толькі ў 1977 годзе, калі ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі быў створаны Музей старажытнабеларускай культуры, гэтыя матэрыялы занялі там пачэснае месца сярод іншых экспанатаў.

У бібліятэцы ж засталіся толькі альбомы малюнкаў, разрозненыя малюнкі невялікіх памераў, краявіды, партрэтныя накіды, эскізы, літаратурныя творы, фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя мастаком у розныя гады, і іншыя, што і складаюць фонд "Язэп Драздовіч" ды налічваюць 79 адзінак захавання.

Выставу адкрываюць біяграфічныя матэрыялы: пастанова Мінскай дваранскай дэпутацкай зборні аб дваранскім паходжанні роду Драздовічаў, генеалагічная табліца роду, састаўленая мастаком, пасведчанне аб нараджэнні, аўтабіяграфія і іншыя матэрыялы асабістага характару, фотаздымкі розных гадоў, друкаваныя працы аб Драздовічу даследчыкаў яго творчасці.

Вандруючы па розных кутках Беларусі, мастак маляваў краявіды роднага краю, рабіў замалёўкі цэркваў, каплічак, гарадзішчаў, партрэтныя накіды, малюнкі, якія адлюстроўваюць побыт беларускай вёскі. Вабілі Драздовіча і таямніцы сусвету, шмат зрабіў ён кампазіцый на касмічную тэматыку. Гэтыя розныя па жанры малюнкі шырока прадстаўлены на выставе. Сярод іх — "Прырода Луны", "Жыццё на планеце Венера", малюнкі скарынаўскага цыкла, "Чараўніца", "Пралля" і шмат іншых.

Талент Драздовіча быў шматгранным, займаўся ён і літаратурнай працай (яго імя ўвайшло ў бібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі") — пісаў вершы, апавяданні, паэмы, артыкулы. На выставе можна пазнаёміцца як з аўтографамі яго літаратурных твораў, так і з апублікаванымі вершамі ў газеце "Сялянская ніва", у часопісах "Хрысціянская думка", "Маланка". Тут можна ўбачыць таксама арыгінал знакамітага дзённіка мастака, што друкаваўся ў "Маладосці".

Выстаўлены сшыткі з запісамі народных песень, прыказак, афарызмаў Піншчыны і Дзісеншчыны, якія Драздовіч збіраў на працягу амаль усяго жыцця, лексічныя матэрыялы.

Раздзел перапіскі прадстаўлены пісьмамі Драздовіча да маці і братоў, а таксама да Б. Эпімах-Шыпілы. Экспануюцца тут пісьмы вядомых беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры да Драздовіча. Сярод іх нельга не адзначыць пісьмы Я. Купалы, М. Танка, Б. Эпімах-Шыпілы, П. Сергіевіча, К. Буйло, А. Грыневіча, К. Сваяка.

Шмат цікавага чакае наведвальнікаў юбілейнай выстаўкі, прысвечанай таленавітаму сыну беларускай зямлі.

**Таццяна ЖУК,**
**галоўны бібліятэкар аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў НАН Беларусі**

МЕРКАВАННЕ

***Галоўны персанаж вядомай казкі "Прыгоды Бураціна" настойліва шукаў поле цудаў і залаты ключык, пры дапамозе якіх хутка вырашыліся б усе ягоныя жыццёвыя праблемы. Але, патрапіўшы ў краіну дурняў, нарэшце ўсвядоміў, што лёгкага хлеба не бывае. Праўда, да таго пацярпеў пэўныя матэрыяльныя і маральныя выдаткі.***

***Дзесьці напрыканцы 30-х гэтая надзіва павучальная казка была ўпершыню экранізавана савецкім кінематографам. Потым з'явіліся і іншыя экранізацыі, але першая сталася вельмі адметнай. У фінальных кадрах аўтары крыху адышлі ад першакрыніцы. Паводле іх версіі той цудоўнай краінай, якую шукалі героі фільма і куды паспяхова патрапілі, была сталінская Краіна Саветаў. Хто ведае, як потым склаўся іх лёс у той краіне. Мажліва, што вусаты правадыр накіраваў шаноўных гасцей на адпачынак у які-небудзь Артэк, а мо ў менш цёплыя і не вельмі аддаленыя месцы. Так ці інакш Бураціна са сваімі сябрамі, адчыніўшы чароўныя дзверы, патрапіў у краіну вялікіх разумнікаў, з якімі і сёння, праз 60 гадоў з таго часу, шмат турбот усяму беламу свету. Многія з сяброў Бураціна, на нашу думку, па сваіх якасцях павінны былі прыйсціся ў СССР да двара і нават пакінуць нашчадкаў. Адносна ж самога Бураціна пытанне складанае. Наўрад ці гэты драўляны чалавечак з прычыны сваёй неардынарнасці мог лёгка ўпісацца ў "сістэму". Але нашчадкаў гэты святы ў сваёй прастаце шукальнік цудаў тым не менш пакінуў. Як мы сёння бачым, многія адметныя ягоныя рысы сталі тыповымі для большыні насельніцтва амаль 1/6 зямной сушы.***

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

# У пошуках залатога ключыка

I

Хоць і вельмі ўжо заштампаваныя гэтыя вобразы — "поле цудаў" і "краіна дурняў", але пакуль нам без іх аніяк не абысціся. Яны сваёй надзіва ўчэпістай энергіяй нябачна прысутнічаюць ва ўсіх праявах нашага жыцця. Найперш — у абсурдных падзеях, што бясконца абрыньваюцца на нас, у бессмяротнасці міфаў і ілюзій, якія з'яўляюцца стрыжнем практычна ўсіх нашых сучасных ідэалагічных канструкцый — як левых, так і правых. Адносна апошніх гэта яскрава адлюстравалася ў сакрушальным фіяска праваліберальных эканамічных дактрын на непраходным расійскім цаліку, дзе, як аказалася, народ "пока не готов к восприятию цивилизованных ценностей". Тыя "ценности" былі настолькі неадэкватна ім успрынятыя, што ў выніку нядаўна вялікая і грозная "імперыя зла" практычна пастаўлена на калені перад "мировым сообществом".

Усё гэта, вядома, закранула і наш "стабільны" аазіс пад назваю Беларусь, што моцна праяўляецца (хоць нас штодзённа пераконваюць у супрацьлеглым) у нашай дэзарыентаванасці. Таму, відаць, наш псіхалагічны стан сёння гранічна пераўзбуджаны і мы ўсё больш трацім раўнавагу, што выяўляецца ў нематываванай агрэсіўнасці на ўсіх паверхах нашай груваcткай сацыяльна-палітычнай будыніны. Ад якой-небудзь гандляркі Тэклі да самых высокіх уладных чыноў. Мы доўга і зацята чакалі значных вынікаў пры, здавалася б, бясспрэчных арыенцірах і вельмі балюча, раздражнёна перажываем сёння іх адсутнасць. Аднак не можа быць сенсацый пры зборы ўраджаю на полі, мала ўгноеным і так-сяк уробленым. Прычым зусім не з-за нашай уласнай ляноты і неахайнайсці, бо беларусы ўсё ж працавіты і адказны народ. Рэч у дзіўнай, надзвычай своеасаблівай культуры духоўнага і палітычнага "землеробства", якое ўжо многія дзесяцігоддзі грунтуецца найперш на згаданых намі міфах і ілюзіях, і толькі потым — на вопыце і ведах продкаў, на прагматызме і рэаліях...

II

З гэтай міфалогіяй адныя праблемы. Жывучыя нашыя міфы, як тыя каты Базіліа. Як пісаў нехта з беларускіх даследчыкаў міфалогіі, сакрэт трываласці міфаў, відаць, у шчаслівым ігнараванні ўсялякай логікі. На яго думку, у міфаў чыста эмацыйны каркас, а сама іх прырода — наркатычная. Пры дапамозе іх лёгка ўтрымліваць свядомасць у эйфарыі, не перагружаючы сур'ёзнымі высілкамі. Гэта ж вельмі зручна — замест грунтоўнага аналізу імгненна пераводзіць усё ў расчуленасць і сентыментальнасць. Здабываць сур'ёзныя абгрунтаваныя аргументы — справа цяжкая і патрабуе капітальных ведаў. Нашмат прасцей жыць у ілюзорным і экзальтаваным стане, бы тая засядзелая ў дзеўках кабета. Але ў такім выпадку непапраўна псуецца характар...

Беларуская нацыя ў сярэдзіне XX стагоддзя старанна засвойвала псеўданавуковыя міфы, тэарэтычнай базай для якіх былі вялікадзяржаўны расійскі шавінізм, а таксама вульгарныя сацыялізм і матэрыялізм. Іх даволі шмат. Напрыклад, што Беларусь — родам з Кіеўскай Русі, а беларусы — галіна трыадзінага "древа". Мала нам было сваіх, дык мы актыўна засвойвалі і міфы суседскія. Спытайцеся ў любога чалавека, хто такія Аляксандр Неўскі ці Дзмітрый Данскі. Адказы будуць адназначныя: першы — пераможца тэўтонаў, сімвал рускага патрыятызму, другі — вызвольнік ад татараў, пераможца на полі Куліковым і абодва — найвялікшыя героі. На стварэнне міфаў вякамі працавалі дзяржаўны апарат, гістарыяграфія, мастацтва. А ў СССР — дык і цэлая ідэалагічная машына... Але тая ж расійская гістарычная навука сёння ўжо мае смеласць вуснамі сваіх не горшых даследчыкаў сцвярджаць, што першы дзеля таго, каб атрымаць ад татараў тытул вялікага князя, быў ці не самым жорсткім катам сваіх землякоў. А што да другога, то каб гэтаму князю пры жыцці нехта сказаў, што ён — вызвольнік ад татараў, то яго, мусіць, схапіў бы паралюш ад жаху за такое кашчунства. Бо перамог ён на полі Куліковым "самазванца" і "ўзурпатара" Мамая з блаславення "легітымнага" татарскага вялікага хана.

Пералік такіх прыкладаў можна доўжыць бясконца. Аднак аўтар зусім не ставіць перад сабою мэту цалкам спляжыць усю айчынную і расійскую міфалогію. Без міфаў не можа адбыцца ні адна нацыя ў свеце. Размова ў дадзеным выпадку ідзе пра міфыпаразіты, якія многія стагоддзі атручвалі грамадства, перашкаджаючы яму развівацца ў працэсе сваёй эвалюцыі без "вывіхаў", збіваючы з дакладных духоўных арыенціраў. Насенне таго ж камунізму магло лёгка прарасці толькі на падрыхтаванай глебе. Пэўная парадаксальнасць — у вельмі ўжо актыўнай запатрабаванасці грамадства ў такой "атруце". Мусіць, на нейкім этапе свайго жыцця яму, як кажуць, для балансу, проста неабходна пэўная порцыя духоўнага яду. Адрозна ад горкай праўды, якая магла б быць сапраўднымі лекамі ў сённяшнім нашым хваравітым стане, гэтая "міфаатрута" прыемная на смак і, як мы адзначалі, валодае наркаэфектам, што прытупляе ўспрыманне невясёлай рэчаіснасці...

III

Духоўных лекаў грамадству нашаму сёння бракуе. Затое не бракуе сенсацый. Час, у якім мы жывём, настолькі насычаны сенсацыйнымі падзеямі, што падчас іх творчай селекцыі проста апускаюцца рукі. Што ні факт — сенсацыя, што не палітык — суперзорка! Прынамсі, наш час не параўнаць у гэтым плане з савецкім. Тады сенсацыйныя падзеі калі і былі, то іх не вельмі любілі і проста замоўчвалі. Выходзіла, што іх быццам бы і не было — нешта накшталт: "Все хорошо, прекрасная маркиза!" Сёння ж сенсацыі нават пачынаюць паціху прыядацца — іх столькі, што наша бедная свядомасць іх проста не ў стане засвоіць. І тым не менш восеньскія падзеі ў Расіі многіх проста ашаламілі...

Сёлетні 1998 год (ды і папярэдні — 1997) праходзіў пад знакам яшчэ большага ўшчыльнення інтэграцыі Беларусі і Расіі. У сітуацыі татальнага крызісу расійскіх фінансаў і эканомікі, які выклікаў сур'ёзны палітычны крызіс, беларусам, кіруючыся здаровым сэнсам, здавалася б, не шкодзіла б унесці пэўныя карэктывы ў аб'яднальную палітыку. Але драматычныя падзеі ў Расіі не толькі не спынілі інтэграцыйных працэсаў, а наадварот, падштурхнулі іх. У нас зноў рашуча актывізаваліся сілы, якія выступаюць за поўную і неадкладную інкарпарацыю Беларусі ў Расіі.

Праўда, рэальнасць прымусіла аб'яднальны імпэт усё ж крыху абмежаваць. У разгар крызісу ў Расіі, заявіўшы пра гатоўнасць падтрымаць саюзніцу любымі сродкамі, Беларусь пайшла на даволі прагматычны крок — па сутнасці зачыніла сваю мяжу з суседкаю з прычыны татальнага вымывання нашых тавараў, асабліва харчовых. Праўда, неўзабаве пасля візіту новага кіраўніка расійскага ўрада Яўгена Прымакова, прыадчыніла... Ды тэндэнцыя, як кажуць, навідавоку. Няўстойлівасць расійскай дзяржаўнай машыны, канешне, вельмі небяспечная для нашага ўнутранага рынку. Але саюзныя абавязацельствы могуць стаць, як гэта ўжо не раз бывала, важкім аргументам, каб, напрыклад, з прычыны тэрміновай аплаты даўгоў таму ж Газпраму пакінуць сваіх цярплівых суайчыннікаў без масла, ці мяса...

Сам жа факт узмацнення інтэграцыйнай рыторыкі вытлумачаецца проста. На думку нашых заўзятых прыхільнікаў "аншлюса", якраз крызіс у РФ моцна падрывае ўладныя пазіцыі цяперашняга "начальніка" Расіі Барыса Ельцына і ягонай каманды. Крызіс гэты дае відавочны карт-бланш уплывовым левым аднадумцам беларускіх інтэгратараў. Расійскія марксісты-ленінцы, на чале з маючым мёртвую палітычную хватку бульдога — "жалезным Генадзем", згадаўшы сваю плённую 80-гадовую "руководящую" практыку, зноў актыўна імкнуцца наверх. "Залаты ключык" абсалютнай улады над Расіяй, выпушчаны імі сем гадоў таму, можа вось-вось апынуцца зноў у іх руках. Гэтыя "натруджаныя" рукі карпатліва майструюць сёння элементы і дэталі тае рэі, на якую спадзяюцца ў бліжэйшы час "вздёрнуть" галоўнага, на іх думку, разбуральніка СССР. Ды і хто б ні прыйшоў пасля "цара Барыса" на расійскі трон, ён, як усе дагэтуль, жорстка распне папярэдніка, жывога ці мёртвага. Такая ўжо традыцыя. Не выратуюць і самыя важкія гарантыі недатыкальнасці, нават канстытуцыйныя...

Праўда, калі цвяроза задумацца, то не зусім зразумела, навошта сёння расійскім левым зусім нялёгкі "залаты ключык" улады. Тая ж КПРФ ужо даўно і паспяхова выконвае ролю сістэмнай апазіцыі, значную частку апазіцыйных высілкаў якой фінансуюць "пракапіталістычныя" ўлады. Жыві і радуйся! Ды не, вельмі ўжо хочацца самім мець доступ да запаветных дзвярэй... Што ж там за імі гэткае спакусліва прыцягальнае, калі так зацята, бескампрамісна, топчучы ўсялякую мараль і ўсялякія прынцыпы, бы тыя матылькі на агонь, імкнуцца туды людзі розных расаў, веравызнанняў, нацыянальнасцяў, узросту?

Так ці інакш, расійская гісторыя (а за ёю, вядома, і беларуская!), мусіць, як ніякая ў свеце, выключна дакладна паўтарае канфігурацыі той неўтаймоўнай спіралі, у якой заблыталася ўжо не адно пакаленне нашых не вельмі шчаслівых на начальства суседзяў. Няўхільна паўтараюцца нават дэталі. Дастаткова згадаць лёс першага цара Барыса Гадунова. Зразумела таксама, што наўрад ці расійскія палітычныя рэваншысты задаволяцца адной ахвяраю. Дзеля прынцыпу яны і астатніх белавежскіх зуброў хоць пад зямлёю выкапаюць. Вельмі ўжо любяць нашчадкі Уладзіміра Ільіча сімвалічныя жэсты!..

IV

У звязку з апошнімі падзеямі ў Расіі зноў пачаў навязліва мусіравацца ў нашых і маскоўскіх СМІ рознага палітычнага адцення яшчэ адзін міф — эфектная і прыгожая ідэя яраснага і ліхога прарыву "пад шумок" на расійскую палітычную прастору беларускага прэзідэнта. А там ён, маўляў, "одной левой сделает" усіх палітычных канкурэнтаў у барацьбе за быццам бы жаданую яму "шапку Манамаха". У тым ліку і самага ўнушальнага прэтэндэнта на ролю "выратавальніка Расіі", грознага, як Карабас-Барабас, мажнога данскога казака з магутным басам. "Галоўны пажарнік (як ён сам сябе называе) наўпрост пакуль не выяўляе свае крамлёўскія прэтэнзіі... Сканцэнтраваўшы ў сваіх руках рэальную ўладу над "сціплай" (14-й) часткай Расіі — Краснаярскім краем, гэты пакуль што надзіва ўдачлівы палітычны тэрмінатар цярпліва, бы той сцярвятнік, чакае свайго часу. Зрэшты, калі быць справядлівым, не ён адзін.

Не верыцца, што тыя, хто ўсяляк штурхае беларускага прэзідэнта мэтэорам праімчацца па бяскрайніх расійскіх стэпах і рашуча пакарыць іх, зусім не разумеюць мажлівыя наступствы такой спробы. Відаць, хоць і знаходзяцца ў непераходнай эйфарыі ад усялякіх ілюзіяў і міфаў, нешта разумеюць, бо часта робяць нечаканыя і невытлумачальныя паўзы ў сваім імпэце. Але ўрэшце, мусіць, моцна разлічваюць на плячах энергічнага, з велізарнаю воляю да ўлады Аляксандра Рыгоравіча прарвацца і самім на палітычны Парнас сваёй "alma mater". Мусіць, цеснавата, ды і сумнавата ім стала на нашых неўнушальных 208 тыс. кв. км. Не разгарнуцца з гэтымі млявымі беларусамі.

Мы ўжо пісалі пра абсурднасць і небяспечнасць такіх планаў не толькі для асабістага лёсу пэўных фігур з беларускай палітычнай эліты, але і лёсу нашай краіны. Размова, на нашу думку, ідзе пра свядомае жаданне разбурыць жывыя і рэальныя, не скасобачаныя пакуль пэўнай ідэалогіяй, стратэгічныя перспектывы адносінаў паміж незалежнымі Беларуссю і Расіяй, улічваючы бескампрамісны характар і асабістыя якасці большыні кандыдатаў на расійскі трон. Найперш, вядома, згаданых намі грознага Карабаса з генеральскімі пагонамі, жалезнага бальшавіцкага Бульдога, а таксама бліскучага маскоўскага Ката Базіліа — тамтэйшага мэра... Расійскія шукальнікі ўлады і тыя сілы, што за імі стаяць, рэальных канкурэнтаў ой як не любяць! Яны нядрэнна ўсведамляюць, што, напрыклад, у выпадку набыцця грамадзянамі Беларусі права выбірацца на прасторах наваспечанага саюза расійскія прэтэндэнты на Крэмль атрымаюць вельмі небяспечнага для іх, выдатна падкаванага ў палітычных баталіях саперніка, які "залаты ключык", хоць і меншага памеру, ужо добра навучыўся трымаць у руках...

Найбольш уплывовыя з тамтэйшых крыптакратаў усё болей раскручваюць у Расіі вялізны палітычны махавік і іх ужо ніштo і ніхто не спыніць, нават такі шаноўны спецыяліст у лінгвістыцы, дыпламатыі і разведцы, як Прымакоў. Не дай Бог сёння каму пабочнаму пад той махавік патрапіць! Там наўрад ці будуць разбірацца ў ступені сваяцкіх адносін, нават самых крэўных. На расійскім палітычным подыуме моцна спляліся такія супярэчлівыя энергіі і інтарэсы, такія часам узаемавыключальныя жаданні і матывацыі, а самае галоўнае — задзейнічаны такія велізарныя грошы, што паблізу запаведных "дзвярэй" нават блізка праходзіць небяспечна — жартаваць не будуць ні з кім...

V

Вядома ж, тыя, хто рыхтуе сёння плацдарм будучым расійскім Напалеонам, галоўнай сваёй мэтай бачаць забяспечыць сабе спакойную будучыню, добра "адмыўшы" і надзейна захаваўшы ўсё нарабаванае ў расійскага народа. Але і гэта таксама ілюзія. Той жа Лебедзь, пра якога так многа гавораць сёння ў Расіі, ужо не раз паказваў свой круты нораў. Гэты жорсткі, прагматычны дзеяч добра разумее, што галоўным складнікам яго трывалага і працяглага палітычнага поспеху можа быць толькі вяртанне нарабаваных алігархамі ў Расіі грошай...

Што ж да Прымакова, палітычнаму доўгажыхарству якога мог пазайздросціць нават сам Мікаян, то ў дачыненні да Беларусі гэты абачлівы палітык заўсёды праводзіў хоць і выразна імперскую, але ўсё ж асцярожную палітыку. Добра адчуваючы сучасныя геапалітычныя тэндэнцыі, Прымакоў, як сапраўдны ас палітычнай эквілібрыстыкі, вымушаны ўлічваць інтарэсы не толькі Расіі, але і так званай сусветнай "закулісы", ведаючы яе складанае стаўленне і планы адносна беларускага кіраўніцтва.

*(Працяг на стар. 12)*

## *Ва Ушачах гучалі песні*

**Тамару Барадзёнак ва Ушачах ведаюць, бадай, усе. Ведаюць і паважаюць. Не толькі як старшую медсястру дзіцячага садка-ясляў N I, але яшчэ як і паэтку, аўтарку кніжак вершаў і гумарэсак. А многія яе вершы з дапамогаю мясцовых прафесійных музыкантаў Сяргея Парашкіна, Міколы Віткоўскага, Ігара Сідарчука, Алега Іванова сталі песнямі.**

**Вось яны і гучалі на творчым вечары Т. Барадзёнак, які прайшоў у РДК. Перапоўненая зала адгукалася на кожную дружнымі апладысментамі. Поспех быў незвычайны. Акампанавала выканаўцам выкладчыца школы мастацтваў Святлана Міхалевіч, спявалі Іна Папок і Інеса Клімава, Марына Карэйша і Галіна Рудзёнак, вакальны ансамбль РДК, група супрацоўніц дзіцячых садкоў-ясляў, дзіцячы гурт Матырынскай базавай школы.**

**Пранікнёнае слова пра Т. Барадзёнак, пра ўшацкіх аматараў роднай песні сказаў сакратар Віцебскага абласнога адзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Алег Салтук.**

**Вечарына прысвячалася святу маці. Яно было праведзена дзякуючы падтрымцы кіраўніцтву Ушацкага райвыканкама і шчырымі клопатамі метадыста РДК Людмілы Смысловай.**

**Б. БЕЛЯЖЭНКА**

## *Юрый Шаўчук у Мінску*



**18 кастрычніка ў Палацы спорту адбыўся канцэрт Юрыя Шаўчука. Прысутныя маглі пачуць яго новыя песні, з праграмы**



**"Мир N 0", а таксама разам з артыстам выканаць яго старыя шлягеры. Бадай не менш цікавай за выступленне Ю. Шаўчука была рэакцыя слухачоў...**

*Фота А. ПРУПАСА*

## *Госця Ліды — спадарыня Вольга*

**14 кастрычніка, якраз у Дзень маці, у Лідскай мастацкай галерэі адбылася сустрэча з Вольгай Іпатавай. У невялікай зале галерэі, дзе сабраліся аматары беларускага слова, прайшла нязмушаная размова. Спадарыня Вольга распавяла аб сваіх кнігах, аб сваім стаўленні да беларускай мовы, наогул да ўсяго беларускага, прачытала некаторыя свае вершы. Мясцовыя аўтары прачыталі свае вершы. Лідчына і наогул Гарадзеншчына — не чужыя для Вольгі Іпатавай, бо тут яе карані. У адной з яе апошніх кніг "Паміж Масквой і Варшавай" (яна выдадзена на беларускай і нямецкай мовах) пра наш горад — некалькі старонак. Пісьменніца згадвае слаўную гісторыю Ліды. Лідская харугва ваявала пад Грунвальдам у 1410 годзе, Ліда атрымала Магдэбургскае права 17 верасня 1590 года. Ліда мела немалое значэнне ў колішнім Вялікім княстве Літоўскім. І сёння ў Лідзе ёсць людзі, якія збіраюць гістарычныя звесткі аб нашай мінуўшчыне і сучаснасці і выдаюць гістарычны часопіс "Лідскі летапісец", беларускае слова можна прачытаць на старонках альманаха "Ад Лідскіх муроў", што з удзячнасцю адзначыла ў сваім выступе і спадарыня Вольга.**

**Сустрэча з Вольгай Іпатавай была, як заўсёды, наладжана Лідскімі суполкамі Таварыстваў беларускай мовы і беларускай школы.**

**Лілія САЗАНАВЕЦ**

***У час паміж другой і трэцяй Пунічнымі войнамі сенатар Кратэс з Мала ўваліўся на Палаціне ў адтуліну прыбіральні і зламаў сцягно. Небарака не змог выконваць свае грамадскія абавязкі і бавіў час тым, што пачаў учыняць у сябе дома бяседы, на якіх ён і яго высокаадукаваныя госці абмяркоўвалі і падрабязна каментавалі вершы кагосьці са сваіх жывых і памерлых знаёмых і сяброў, і ў выніку такіх чытанняў і вытлумачэнняў вершы рабіліся вядомымі ўсім.***

***Так, па сведчанні Светонія, у Рыме з'явіліся першыя літаратурныя крытыкі, называныя тады граматыкамі.***

***З тых часоў тое-сёе змянілася, тое-сёе засталося нязменным. Прынамсі, колькасць асоб, якія займаюцца каментаваннем літаратурных твораў, не паменшылася. Згодна статыстычным дадзеным, восем гадоў таму ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі было 125 крытыкаў. Сёння, відаць, яшчэ больш. А колькі тых, хто друкуе водгукі і рэцэнзіі, не з'яўляюцца сябрамі згаданага саюза! А калі прыпомніць, што амаль кожны паэт, празаік і драматург час ад часу ці пастаянна выступае і ў жанры крытыкі, то мы маем шыкоўную карціну росквіту гэтага жанру на айчынных літаратурных палетках.***

***Аднак чамусьці не канстатуецца гэты росквіт ні на старонках друку, ні ў прыватных гаворках. Наадварот — не змяншаецца паток нараканняў на недасканаласць беларускай літаратурнай крытыкі. А дзе ж яшчэ і абмеркаваць гэтыя прэтэнзіі, як не ў "Гарбатні" нашага аддзела крытыкі!***

***У гутарцы за гарбатай бралі ўдзел паэт Леанід ГАЛУБОВІЧ, літаратуразнаўцы Іван ЧАРОТА і Пятро ВАСЮЧЭНКА, рэдактар аддзела крытыкі часопіса "Нёман" Ірына ШАЎЛЯКОВА і гаспадыня "Гарбатні" рэдактар аддзела крытыкі "ЛіМа" Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.***

*ЗА ГАРБАТАЙ*

# Рытуальная злосць ідэальнага крытыка

**Людміла Рублеўская.** Сёння крытыка ўсіх постсавецкіх краін перажывае сіндром пераацэнкі спадчыны літаратуры сацрэалізму. Меркаванняў наконт гэтага працэсу — і яго правамернасці — мноства. Усе вы, мабыць, памятаеце "ружоватуманную" дыскусію, што нядаўна адбывалася на старонках "ЛіМа", справакаваная публікацыяй Сяргея Дубаўца "Ружовы туман". З другога боку, можна канстатаваць, што ў нас існуе ўжо літаратура, так бы мовіць, найноўшая — тая, якую часам не заўсёды абгрунтавана ўсю ставяць пад адзін "постмадэрніцкі" дах. Літаратура гэтая актыўна асвойвае формы, даўно асвоеныя ў іншых літаратурах, і часта гэты фармалізм уяўляе з сябе ўсяго толькі апазіцыю ідэалагізаванай літаратуры. І гэтая "найноўшая" літаратура застаецца без аб'ектыўнай крытычнай ацэнкі. Трэба зазначыць, што і ідэалагізаваная ("ружоватуманная") літаратура, і фармалістычныя эксперыменты маладых "завязаныя" ў нас на нацыянальным пытанні: як жа прызнаць народнага пісьменніка Ікс пісьменнікам ледзьве сярэдняга ўзроўню, калі гэта можа скампраметаваць усю беларускую літаратуру, і як жа сказаць маладому Ігрэку, што ён графаман, калі ён піша па-беларуску і, да таго ж, уносіць у айчынную літаратуру "новыя павевы". А калі яшчэ згадаць усемагчымыя суб'ектыўныя, асабістыя прычыны — праславутую літаратарскую "кланавасць", рэакцыю "на імя" ці яго адсутнасць і г. д. Ці існуе магчымасць больш-менш аб'ектыўна вызначаць мастацкую вартасць твора, ці існуе на Беларусі крытыка ў якасці справядлівага арбітра, а не толькі каментатара і тлумачальніка? Бо, згодна выказванню Яна Мукаржоўскага, знакамітага чэшскага даследчыка, між творам і грамадствам стаіць публіка, а між творам і публікай — крытык. Значыць, без ацэнкі пасрэдніка-крытыка твор не можа ўвайсці ў гісторыю літаратуры?

**Іван Чарота.** Згодна статыстыцы, незалежна ні ад якой крытыкі і волі магутных выдавецкіх карпарацый толькі адзін працэнт з усёй выдаваемай літаратуры мае здольнасць "пражываць" больш як дзесяць гадоў. Значыць, з кожнай сотні кніжак мае шанц застацца "ва ўжытку" хоць на дзесяцігоддзе толькі адна, што б на працягу тых дзесяці гадоў ні ўчынялі для таго, каб "раскруціць" тую ці іншую кніжку. Памятаеце, як спрабавалі "ўвесці ў вечнасць" "Дзяцей Арбата" Анатоля Рыбакова? Мільённыя тыражы, у сродках масавай інфармацыі адно: "раман веку", "раман веку"... Але мінае літаральна некалькі месяцаў, і ўсе пачынаюць разумець: няма ніякага рамана веку. А крытыкі ж прыклалі колькі сіл, каб даказаць адваротнае! Крытыка не можа ўплываць на тое, трапіць нейкі твор ці не трапіць "у аналы", яна можа ўплываць толькі на тое, што ў бягучым часе на тым ці іншым творы будзе засяроджана ўвага. Аналагічныя з'явы былі і ў беларускай літаратуры.

**Пятро Васючэнка.** Згадаем сітуацыю ў Еўропе на пачатку ХХ стагоддзя. Увесь рэгіён быў зараджаны пасіянарнай актыўнасцю. У Польшчы, якая пасля ста гадоў зняволення аднаўляла незалежнасць, існавала некалькі літаратурных школ, нібыта адрозных па творчым прынцыпе. Існавала групоўка так званых пазітывістаў, у якую ўваходзілі Сянкевіч і Ажэшка, існавала кракаўская група "Маладая Польшча" — рафінаваныя авангардысты. Існавалі прыхільнікі польскага месіянізму. Але ўсе яны сыходзіліся на адным падмурку — добра пісаць дзеля ідэі польскага Адраджэння. На Беларусі падчас "нашаніўскага" перыяду Адраджэння не сфармаваліся літаратурныя школы, групоўкі, але спроба іх стварыць была. Быў Максім Багдановіч, паэт нібыта "чыстае красы", быў Купала, быў Ластоўскі, былі "нашаніўцы", якія цалкам адмаўлялі досвед мадэрнізму, былі і так званыя "парнаснікі", што захапляліся ім, але зноў жа галоўны крытэрый быў — працаваць на нацыянальнае Адраджэнне, і ў гэтым сэнсе любая групоўка, любая школа — ідэалагізаваныя.

**Л. Рублеўская.** Працытую Сяргея Дубаўца: "Лжывая вартасць уласна савецкіх твораў тлумачылася лжывай ідэалогіяй". Значыць, калі ідэалогія, "пад дахам" якой ствараўся твор, ілжывая, і вартасць твора лжывая?

**І. Чарота.** Дарэчы, Пётр Васільевіч сыходзіцца з Дубаўцом, калі сцвярджае, што галоўнае, — калі добрая літаратура працуе на ідэю нацыянальнага адраджэння. Мне здаецца, што гэты крытэрый не павінен існаваць. Думаю, для многіх будзе парадаксальным такі прыклад: у самыя жорсткія савецкія часы, калі забаранілі друкаваць трэцюю кнігу шолахаўскага "Ціхага Дона", абвінавацілі аўтара ў контррэвалюцыі, Фадзееў, адзін з першых ідэолагаў таго часу, піша: "Ціхі Дон" — кніга, вядома, ж, контррэвалюцыйная, але напісана гэтак, што трэба схіліць галаву". Не пра ідэю гаворка — пра літаратуру!

**П. Васючэнка.** Добрая літаратура — гэта, як правіла, і добрая ідэя.

**Ірына Шаўлякова.** Вы аперыруеце паняццямі "добрая — дрэнная" літаратура. А гаворка якраз пра рэлятывізм, адноснасць гэтых паняццяў. На Захадзе ёсць літаратуразнаўцы, якія імкнуцца планку мастацкай вартасці зрабіць абсалютна безадноснай, рухомай, калі любы твор можа быць абвешчаны і геніяльным, і бяздарным. На адной з "гарбатаў" згадвалася пра "рытуальную злосць" крытыка. Мы прывыклі да эсэістычнай крытыкі, калі аўтар выказвае суб'ектыўныя меркаванні. Але мне здаецца, што ў крытыцы ўсё-ткі любы суб'ектывізм павінен быць аб'ектывізаваны.

**І. Чарота.** У Меражкоўскага ёсць цікавае выказванне пра суб'ектывізм. Вы ніколі не пераканаеце кошку, што фіялка пахне лепш за валяр'яну. Наконт рытуальнай злосці крытыка. Ёсць пэўныя ўзроставыя асаблівасці. Калі ў літаратуру прыходзіць малады крытык, найперш ён праходзіць рэгістрацыйны ўзровень: яму трэба засведчыцца, зарэгістравацца самому, і ў сваіх рэцэнзіях ён проста рэгіструе прачытанае. Пасля ў крытыка з'яўляецца тая рытуальная злосць, з'яўляецца тое, што ён лічыць сваім стылем. Памятаю, як у адной рэдакцыі мне замаўлялі рэцэнзію і прасілі: "Толькі не трэба фельетоннасці". Я тады не разумеў: як гэта рэцэнзія без "перцу"? Гэта ж нецікава... Але гадоў праз пятнаццаць усвядоміў. Калі сам дайшоў да ўзросту рэдактара, які мне гэта казаў. Так што рытуальная злосць можа быць і знешняй.

**І. Шаўлякова.** Мне пасля даклада на радзе Саюза пісьменнікаў пра беларускую паэзію апошняга часу было сказана: "Добра гаварыла, але злосці малавата".

**Леанід Галубовіч.** Мы тут усе гаворым: добрая паэзія, дрэнная паэзія, добрая проза, дрэнная... Гэта фармальнае, гэта пошукавае... Мы ўсе гатовы быць крытыкамі. Але хто мае права ім быць? Крытык вызначае ўзровень пісьменніка: гэты варты Нобелеўскай прэміі, гэты — Куляшоўскай... А хто вызначае ўзровень самога крытыка?

**І. Шаўлякова.** Самі творцы.

**Л. Галубовіч.** Адзін прыйдзе і скажа: Ірына Шаўлякова — выдатны крытык. Другі скажа: я яе і слухаць не буду.

**І. Шаўлякова.** І гэта нармальна. Нашы постмадэрністы будуць хутчэй чытаць не паважаных Гніламёдава ці Каваленку, а Валянціна Акудовіча.

**Л. Галубовіч.** У кожны перыяд часу ў літаратуры павінна быць нейкая асоба ў крытыцы, да якой прыслухоўваюцца. Такім быў Рыгор Бярозкін. Калі ўжо Бярозкін нешта казаў пра паэзію, то з яго думкай пагаджаліся... Каго вы можаце сёння назваць з беларускіх крытыкаў, хто мог бы нешта пэўнае сказаць пра паэтычную кніжку і тым самым для ўсіх нас вызначыць узровень яе аўтара?

**П. Васючэнка.** Ёсць тры варыянты. Першы: ідэальны крытык — таленавіты чытач. Другі варыянт — кваліфікаваны чытач з філалагічнай падрыхтоўкай. Трэці варыянт — калега па пісьменніцкім цэху.

**Л. Галубовіч.** Ты абмінуў галоўнае ў маім пытанні: ці ёсць у сённяшняй беларускай літаратуры асоба крытыка, слова якога было б важкае для ўсіх — і для Вішнёва, і для Галубовіча, і для Васючэнкі?

**І. Чарота.** Тут ідэалізуецца асоба Бярозкіна. Аўтарытэт Бярозкіна існаваў у літаратарскім асяроддзі, але значна меншым чынам уплываў на чытача. Аўтарытэт крытыка ствараюць менавіта самі пісьменнікі. Для нас меркаванне таго ці іншага крытыка нешта значыць, а чытацкая аўдыторыя, магчыма, нават імёнаў гэтых крытыкаў не ведае.

**П. Васючэнка.** Ідэальнага крытыка няма, не было і ніколі не будзе.

**Л. Рублеўская.** Дарэчы, гадоў пятнаццаць таму ў вёсцы Вароніна жыў паэт Леанід Галубовіч, які рэгулярна на старонках "ЛіМа" друкаваў агляды паэтычных публікацый. І хаця сёння Леанід Галубовіч сцвярджае, што ніхто не можа ўзяць на сябе смеласць быць суддзёй у літаратуры, тады ён выступаў у ролі менавіта такога суддзі, меркаванне якога было для ўсіх важным, і ацэнкі ён даваў вельмі смелыя.

**П. Васючэнка.** Вісарыён Бялінскі, самы знакаміты рускі крытык, па словах сённяшніх даследчыкаў, быў вялікім блытанікам. Не прызнаў Шаўчэнку, Дастаеўскага... Наш Адам Бабарэка быў скрозь суб'ектыўны, выдумляў тэрміны, ад якіх валасы падымаюцца і да якіх "бумбамлітаўцам" трэба яшчэ дадумацца.

**Л. Галубовіч.** Нягледзячы на тое, што Бялінскі абмінуў Шаўчэнку, не ўгадаў Дастаеўскага, усё-ткі Дастаеўскі і Шаўчэнка ёсць.

**І. Чарота.** Але і самога Бялінскага мы ведаем.

**П. Васючэнка.** Можа, таму, што Бялінскі яго не ўгадаў, Дастаеўскі "злейшы" стаў і большага дасягнуў.

**І. Шаўлякова.** Нам не хапае разнастайнасці крытычных школ, апазіцыі ўнутры самой крытыкі. Аўтар не можа знайсці "свайго" крытыка, які б разумеў яго творчасць менавіта так, як хацелася б самому аўтару.

**Л. Галубовіч.** Можа, такія ўпадніцкія настроі ўзнікаюць у нас таму, што адчуваецца стомленасць стагоддзя. Якімі б мы самі маладымі ні былі, але канец стагоддзя — ціснe і на нас. Канчаецца нейкая ўмоўная фармацыя чалавечага жыцця. Тым больш у нашай стыхійнай палітычнай сітуацыі: грамадства ў хаосе, літаратура наогул "змялася", мы не

задавальняем нашы творчыя амбіцыі. Нам прыкра, што мы пішам, выкладваемся, гаворым, а нас ніхто не чуе. Усё, як у вакууме... Ці не так?

**І. Чарота.** У сувязі з гэтым успамінаецца адзін "барадаты" анекдот, не зусім, выбачайце, літаратурны. Руская армія ў Туркестане. Сядзяць афіцэры: "Скушно-с, поручик..." — "В рояль, что ли, наср..." І тут тое самае. Прычына не ў тым, што няма злоснага крытыка, а ў тым, што сам літаратурны працэс недастатковы.

**Л. Галубовіч.** А вазьмі ты рускі літаратурны працэс, часопісы "Новый мир", "Знамя", выступленні крытыкаў іхніх, Басінскага, Курыцына і г. д. Яны ж заняты толькі тым, што адзін аднаго паліваюць гразёю. У нас гэтага і блізка няма, аднак ад гэтага сітуацыя не мяняецца: ні ад таго, што ў іх крычаць, ні ад таго, што ў нас маўчаць.

**Л. Рублеўская.** Нядаўна адзін маскоўскі літаратар мне казаў, што ў нас пануе кампліментарная крытыка, а ў Расіі станоўчая рэцэнзія — гэта выключэнне.

**Л. Галубовіч.** Ну чаму ж. Я чуў, што ў іх за долары можна заказаць рэцэнзію на любую кнігу.

**П. Васючэнка.** Гэта неад'емная частка літаратурнага жыцця Расіі.

**Л. Рублеўская.** Дык трэба, каб пісьменнікі былі багатыя і маглі заказваць на сябе рэцэнзіі. У нас такіх няма.

**П. Васючэнка.** Рэцэнзіі заказваюць не пісьменнікі, а багатыя грамадзяне, якія пішуць і друкуюцца.

**Л. Галубовіч.** Вунь Глобус у нас — хіба ён не багаты? Дык чаму б яму за тыя гады, як займаецца бізнесам, не вылепіць у ціхамірнай, балотнай Беларусі сваю постаць і не засланіць ну... няхай не Быкава, а ўсякіх галубовічаў — аднОй левай... Але ж ён гэтага не робіць!

**І. Чарота.** Бо разумее, што ў згаданы адзін працэнт ён усё роўна не трапляе.

**Л. Галубовіч.** Глобус — таленавіты чалавек.

**І. Чарота.** Але ўсё роўна з тых 99 працэнтаў.

**Л. Галубовіч.** Часам прыходзіць у галаву: каб мне б тыя Глобусавы грошы, я б тут "раскруціўся"! Але пасля разумею, што нічога б я не змяніў. Як там у песні: "Каким ты был — таким остался..."

**І. Шаўлякова.** Цікава, што нашых крытыкаў дакараюць у кампліментарнасці. А паспрабуй хто напішы разгромную рэцэнзію! Яе "герой" табе не тое што рукі пасля не падасць, хаця б біцца не кінуўся.

**І. Чарота.** Нам не хапае не злоснай, а шчырай крытыкі.

**П. Васючэнка.** У мяне гэты тэрмін выклікае крыху недавер. Некалі быў такі трэнер мінскага "Дынама" Эдуард Малафееў, які прапаведваў "шчыры футбол" і які пасля паспяхова лясНуўся на еўрапейскіх турнірах. Крытыка павінна ў першую чаргу быць кваліфікаванай.

**І. Чарота.** Якраз гэтага ў нас хапае. Нідзе такога няма, нават у бліжэйшых літаратурах, каб у жанры крытыкі выступалі акадэмікі, дактары навук і г. д. Але няправільна зразуметыя задачы крытыкі — быць шчырым і сцвярджаць ісціну.

**Л. Рублеўская.** Менавіта таму, што ў нас крытыку пішуць акадэмікі, дактары і кандыдаты, часам замест крытыкі мы маем літаратуразнаўства, а замест рэцэнзіі — кавалак дысертацыі.

**П. Васючэнка.** Ну, не ўсе дактары і акадэмікі такія зануды.

**Л. Галубовіч.** Сёння пісьменнік шукае ў рэцэнзіях не сутнасць, а — згаданае яго імя ці не згаданае. Ды ён, можа, і не спадзяецца, што ты будзеш капацца ў яго аповесці. Яму важна, што ён ёсць у пераліку. Сама больш званкоў за ўсё сваё жыццё я атрымаў пасля апублікавання зацемкі, дзе пералічваў тых, хто, на маю думку, мае свой стыль і вызначае *для мяне* беларускую літаратуру. Колькі крыўдаў было, што я кагосьці не назваў ці назваў не так як след... Праўда, былі й падзякі... Напрыклад, тэлефанаваў Прануза...

**І. Шаўлякова.** Рэцэнзія ўсё-ткі павінна перш за ўсё быць кваліфікаванай, каб у ёй называлася ўсё сваімі "імёнамі".

**Л. Галубовіч.** Па-першае, кожнага графамана графаманам не назавеш — стомішся... Па-другое, графамана трэба ахоўваць, бо ён яшчэ і чытач. Без яго літаратура памрэ. Здараецца, я і пра сябе думаю — а ці не графаман ты, дзядзька? Прачытаеш некаторыя рэчы — сапраўды графаман, бо часам пішаш дзеля капейкі, каб купіць хлеба і курыва...

**І. Чарота.** Усе, хто піша, маюць гэтую манію.

**Л. Галубовіч.** Я не хачу ні славы, ні Нобелеўскай прэміі, я хачу, каб мне заплацілі ганарар.

**Л. Рублеўская.** А Дастаеўскі ў такім выпадку чаму пісаў? Бо яго крэдыторы даймалі. І як у такім выпадку можна адрозніць графамана ад "нармальнага" пісьменніка?

**Л. Галубовіч.** Калі мяне прынялі ў саюз, я прыехаў у вёску, і там мне кажуць: "Ну, цяпер будзеш мець грошы". Сапраўды, мяне ўжо і міліцыя перастала чапаць. А з другога боку, некаторыя ўяўляюць цябе ледзь не святым — ну, такім, што вось ты нічога не хочаш, усё аддаеш людзям... Альтруіст з пяром...

**І. Шаўлякова.** І ўсё-ткі, няўжо не існуе ніякіх крытэрыяў у ацэнцы вартасці літаратурнага твора?

**Л. Галубовіч.** Ну, вось помнім жа мы чамусьці куляшоўскае: "Камуністы — гэта слова, як са сталі, камуністы — гэта слова, як з агню". Іншае і ўзгадаць цяжка, а гэта ўрэзалася ў памяць. Пэўна, зроблена добра, майстравіта. Нешта ёсць у гэтым вершы.

**П. Васючэнка.** Ты гэта помніш, таму што па школьнай праграме вучыў.

**І. Чарота.** Каб табе, Леанід, далі выбіраць, што вучыць, ты б гэтага верша ніколі не выбраў.

**Л. Галубовіч.** Мо й гэты завучваў бы, бо ён лёгка аддаецца памяці. Пасля, што такое — ідэалагічны твор? Хіба Быкаў — не ідэалагічны пісьменнік? Абсалютна ідэалагічны. Калі нехта ў ружовым тумане, дык Быкаў — у якім?

**І. Чарота.** У бел-чырвона-белым.

**П. Васючэнка.** Вы так лёгка ўсе з гэтым пагадзіліся... Гэта ж ніяк не абсалютна.

**Л. Галубовіч.** Асабіста я не магу аддзяліць Быкава ад яго ўласнага "ружовага туману", у якім ён стварае свайго чалавека.

**І. Шаўлякова.** Ідэалогія Быкава можа быць супрацьлеглай "ружоватуманнай", тым не менш яна, як сістэма поглядаў і перакананняў, ёсць таксама "ідэалогія".

**П. Васючэнка.** Я меў на ўвазе "Сотнікава".

**Л. Галубовіч.** З-за чаго я халодны да Быкава, дык з-за ягонага структуралізму. Я не за сацыялістычны рэалізм, не бойцеся. Я пра тое, што ў Быкава амаль арыфметычна прадуманая псіхалогія герояў.

**П. Васючэнка.** Успомніце "Сотнікава". Колькі там варыянтаў, іпастасяў Сотнікава і колькі Рыбака. Як перамяшаліся Юда і Хрыстос.

**І. Чарота.** Тут зблытаныя два паняцці — ідэалогія і метадалогія. Канешне, Быкаў — адзін з самых ідэалагізаваных за апошні час пісьменнікаў. А пралічанасць твораў — гэта тычыцца яго творчай метадалогіі.

**І. Шаўлякова.** Калі б творчасць Быкава ацэньваў крытык-сентыменталіст, для яго гэта аднaзначна дрэнная літаратура. А для канструктывіста — класіка.

**П. Васючэнка.** Большасць твораў Быкава — таямнічыя, з цьмянай варыянтнай канцоўкай.

**Л. Галубовіч.** А за што тады яму камунякі давалі Дзяржаўныя і Ленінскую прэміі, Героя Сацпрацы? А цяпер Нобелеўскую хочуць...

**П. Васючэнка.** Шведскія акадэмікі хочуць?

**Л. Галубовіч.** Да іх яшчэ трэба "дастукацца". Я за тое, вядома, каб яму гэтую прэмію далі. Прэстыж дзяржавы. Хаця — калі б быў выбар за мной, хутчэй бы пагадзіўся б на Разанава. Фігура, якая працавала б на перспектыву развіцця і нацыі і яе літаратуры.

**П. Васючэнка.** Я не магу пагадзіцца з вамі. Я колькі разоў перачытваю "Сотнікава", але не магу зразумець, хто такі Сотнікаў — герой альбо антыгерой... І так у многіх творах. Мора загадак і ніякай пралічанасці. Пралічана толькі адно: дыстанцыйная сітуацыя. Ёсць жорсткі сюжэтны каркас. Ты пойдзеш, цябе чакае выбар, ты памрэш.

**Л. Галубовіч.** А я спецыяльна вам Быкава "закінуў", каб паглядзець, наколькі шчырая наша крытыка.

**І. Чарота.** Тут вось што істотна. Гэтая амбівалентнасць, якую вы, Пётр Васільевіч, яму прысвойваеце, ад самога Быкава сыходзіць ці ад вас? Бо я часта сутыкаюся з такімі інтэрпрэтацыямі тэкстаў, калі тлумачыцца тое, чаго ў тэкстах няма зусім.

**П. Васючэнка.** А тут, Іван Аляксеевіч, няма пра што спрачацца. Заўсёды піша не пісьменнік, а нешта піша пісьменнікам. Вы гэта цудоўна ведаеце. І гэта "нешта" робіць яго творы амбівалентнымі.

**Л. Галубовіч.** Ніхто за пісьменніка не піша. Вось гэтая мая рука піша, і ўсё, і піша толькі пра тое, што я перажыў.

**П. Васючэнка.** Піша тваёю рукою нешта...

**Л. Галубовіч.** Ніякае не нешта, а — я сам!

**І. Шаўлякова.** Проста тое, што спадар Пятро называе "нешта", вы называеце "перажытым". Праблема тэрміналогіі.

**П. Васючэнка.** Безумоўна, згаданае "нешта" выходзіць за межы тваёго "я". Калі гэта твой вопыт, гэта ўжо не ты.

**Л. Рублеўская.** А ці бывае неідэалагізаваны твор? Калі пісьменнік свядома піша неідэалагізаваны твор, ён усё роўна гэтым прапаведуе нейкую ідэю. А згодна Дубаўцу, паўтаруся, адразу трэба вынікаць якасць ідэалогіі — ілжывая яна ці не, а з гэтага будзе вынікаць вартасць твора.

**Л. Галубовіч.** Асноўныя ідэалогіі нашага часу — нацыяналізм і касмапалітызм. Калі нацыяналізм — на мой погляд — змест чалавечага жыцця, то касмапалітызм — гэта пошук формы. Думаю, наступнае стагоддзе дасць адказ — ці прыцягнуцца, ці яшчэ больш разыдуцца гэтыя два разнародныя полюсы.

**П. Васючэнка.** Тэрмін "касмапалітызм" скампраметаваны. Я б прапанаваў тэрмін "універсалізм".

**Л. Галубовіч.** Ды якая розніца? Хоць гаршком назаві...

**П. Васючэнка.** Па-другое, вядома, што да універсалізму няма інакшага шляху, як праз нацыянальнае. У спіс найвялікшых майстроў слова XX стагоддзя ўключылі Джойса. А пра што пісаў ён усё жыццё? Пра адзін дзень у Дубліне. Прычым пісаў, вандруючы па ўсім свеце, будучы касмапалітам. Можна паяднаць нацыяналізм і універсалізм і не ў XXI стагоддзі.

**Л. Галубовіч.** Ты кажаш, іншага шляху няма. А чаму тады ідзе такая жорсткая барацьба між нацыянальным і касмапалітычным?

**П. Васючэнка.** У мяне няма супярэчнасці між гэтымі паняццямі?

**І. Шаўлякова.** Думаецца, што супярэчнасць паміж гэтымі паняццямі — актуальная праблема "бумбамлітаўцаў", якія хочуць адразу апынуцца "ў кантэксце", у сусветнай літаратуры.

**П. Васючэнка.** Тут найперш гаворка — пра адсутнасць школы. Як з'яўляліся сапраўдныя авангардысты? Калі яны авалодвалі ўсімі прыёмамі сучаснага ім мастацтва. Тады можна задавацца пытаннем, чаму Малевіч намаляваў "Чорны квадрат", калі ён мог намаляваць нацюрморт, краявід, агаленую натуру.

**Л. Галубовіч.** Усе прычапіліся да гэтага "чорнага квадрата". Хто ж яго ўвёў ва ўжытак, скажыце мне?

**П. Васючэнка.** Ён сам "увёўся".

**І. Шаўлякова.** Але без пасрэдніцтва крытыкі ці быў бы той чорны квадрат?

**І. Чарота.** Я ў падобных дыскусіях звычайна пытаюся: растлумачце мне, калі ласка, чым зялёны квадрат горшы за чорны.

**П. Васючэнка.** Ёсць яшчэ "Чырвоны квадрат".

**І. Чарота.** Я ведаю. Тады я кажу: растлумачце мне, калі ласка, чым чорны квадрат лепшы за чырвоны круг? Ніхто не можа растлумачыць.

**І. Шаўлякова.** Пры жаданні можна патлумачыць на сімволіцы колераў... Яшчэ чым?..

**П. Васючэнка.** Вы ж самі ведаеце адказ. Гэта — рытарычнае пытанне. Гэта не твор, а прыём, поза.

**І. Чарота.** А я таму і пытаюся, што мы разглядаем яго ў мастацтве, а гэта — па-за мастацтвам.

**І. Шаўлякова.** Гэта прыём ператварэння мастацтва ў фікцыю.

**І. Чарота.** А для мяне ёсць размежаванне — што мастацтва, а што гульня.

**П. Васючэнка.** А як быць з Сімяонам Полацкім, які аб'ядноўваў мастацтва і гульню?

**Л. Рублеўская.** Значыць, нашы "Тазікі беларускія" — мастацтва ці не?

**І. Чарота.** Для мяне — ніяк не.

**П. Васючэнка.** Дзіцячы ўзровень. Пакуль што.

**Л. Галубовіч.** Гэта творчасць. Там розны яе ўзровень, але гэта творчасць.

**І. Шаўлякова.** Трэба разумець, што спадар Леанід раздзяляе творчасць і мастацтва? Дарэчы, ад дзіцячай творчасці, як сказаў спадар Пятро, гэта таксама знаходзіцца далёка. Дзіцячая творчасць не пераследуе карыслівых мэт уваходу ў літаратуру. Я правадзіла б тут паралелі не з "абэрыутамі", з якімі часам параўноўваюць "бумбамлітаўцаў", а з пэўнай часткай "маладнякоўцаў", з горшай часткай, калі ў складзе "Маладняка" было каля пяцісот чалавек...

**Л. Рублеўская.** Гэта настолькі ўмоўна... Памятаю, у Літінстытуце наш кіраўнік семінара крытык А. Міхайлаў зрабіў эксперымент: раздаў кожнаму студэнту па аркушыку з тэкстамі двух вершаў без подпісаў і папрасіў кожнага вызначыць, што ўяўляюць з сябе гэтыя творы — ці гэта "паўнацэнныя" вершы, ці гэта нечы жарт, ці гэта плён графамана... І, ведаеце, мы не змаглі вызначыць, разгубіліся. Хаця сярод маіх аднакурснікаў былі яшчэ якія інтэлектуалы. І я дасюль не ведаю адказу, бо наш кіраўнік так нічога нам і не патлумачыў.

**Л. Галубовіч.** Зараз інтэлектуалізм заняў пэўную нішу ў літаратуры. Найбольшым аўтарытэтам валодаюць тыя пісьменнікі, што найбольш валодаюць згаданай якасцю. Інтэлектам нават сталі падмяняць мастацкасць.

**П. Васючэнка.** Самы чытэльны дзіцячы пісьменнік XX стагоддзя — Толкіен — акадэмік. Ён стварыў чароўны казачны свет, хаця і замешаны на філасофіі. Ёсць інтэлектуалізм, як запас ведаў, і ёсць інтэлектуалізм, як жорсткая будова твора. Мне здаецца, праблема ў іншым. Я толькі што вярнуўся з Кракава, з кангрэса славістаў. Гэта было нешта ашаламляльнае. Тысяча сто філолагаў з сарака дзвюх краін. І ўсе займаюцца тым, што чытаюць мастацкія творы, тэксты. Прычым гэта ж была толькі эліта навукі. Я пагля дзеў, якія яны аднолькавыя. Нават калі спрабуюць прарвацца праз сваю аднолькавасць, то прарываюцца аднолькава. Адзін разумнік расчытвае раман Пушкіна "Яўгеній Анегін" і робіць высновы, што, пэўна, Анегін быў гомасексуалістам і меў сувязь з Ленскім.

**І. Чарота.** Гэта стандарт часу, а не прафесійны.

**Л. Галубовіч.** Раней, мне здаецца, творца мог уплываць на развіццё падзей у грамадстве, а цяпер падзеі ў грамадстве ўсё больш уплываюць на самога творцу.

**Л. Рублеўская.** Гэта была ілюзія.

**І. Шаўлякова.** Заўсёды грамадства ўплывала на творцу.

**І. Чарота.** Хоць у Расіі і было сказана,- што "паэт у Расіі больш чым паэт", але паэт там ніколі не браў на сябе такіх функцый. А ў нас менавіта паэты ўзялі на сябе функцыю "выхавання грамадства". І хочуць захоўваць яе да апошняга часу. Нягледзячы на тое, што апошнія пяць-шэсць гадоў грамадства абсалютна не рэагуе на гэты статус паэтаў.

**П. Васючэнка.** З аднаго боку, гэта жахліва... А з іншага боку, як бы і нічога.

**І. Чарота.** Бо паэт павінен быць паэтам. А калі ён бярэ на сябе функцыі месіі, народ не хоча яго ў гэтай функцыі прымаць.

**Л. Галубовіч.** Калі сапраўды творца ёсць, то ён і ёсць Творца.

**І. Чарота.** Для мяне адназначна адно. Лёс кожнага народа вырашае Бог. Вы, пэўна ж, чулі пра асірыйцаў?

**Л. Рублеўская.** А што, яны яшчэ жывыя?

**І. Чарота.** Я сустракаўся з прадстаўнікамі іх на замежнай канферэнцыі. Была ж магутнейшая цывілізацыя! А цяпер — засталіся асобныя рассеяныя па свеце яе прадстаўнікі. Бог адпусціў пэўны адрэзак часу гэтаму народу. Беларусам таксама ён прызначыў пэўную долю. Якую ніхто змяніць не можа.

**Л. Рублеўская.** І ўсё-ткі, з якога асяродка з'явіцца ідэальны крытык? Гэта мусіць быць навуковец, ці пісьменнік, ці крытык мусіць быць асобная прафесія?

**П. Васючэнка.** Ідэальнага крытыка знайсці вельмі проста. Не трэба забываць, што ён — прафесіянал, і есці хоча. На ўсе Злучаныя Штаты Амерыкі адзін прафесійны крытык, які зарабляе хлеб толькі з крытыкі. Трэба завесці штатную адзінку крытыка ў тым жа "Нёмане" ці "Полымі" і выплачваць яму не ганарар за рэцэнзіі, а проста аклад. І раз на месяц ён у вас будзе друкаваць свае рэцэнзіі ці артыкулы. Толькі знайсці чалавека з добрым густам, і ў нас будзе крытык — адзін на Беларусі.

**І. Шаўлякова.** Вы думаеце, ён будзе пісаць без ганарараў?

**П. Васючэнка.** А вы яму заробак плаціце, такі, як сабе.

**Л. Галубовіч.** А я табе скажу: калі ты будзеш пісаць шэсць месяцаў запар па артыкулу ў месяц з поўнай творчай выкладкай, то ты адмовішся ад гэтага акладу.

**П. Васючэнка.** Можна за месяц напісаць не шэсць, а дзесяць артыкулаў.

**Л. Рублеўская.** У "ЛіМе" працуе крытык з падобнай працаздольнасцю.

**Л. Галубовіч.** Так, Алесь Марціновіч. І я скажу, што ён пераўзышоў увесь ваш крытычны цэх у справе прапаганды беларускай літаратуры.

**І. Чарота.** Так, можна па-рознаму яго ацэньваць, але больш за яго ніхто ў плане прапаганды нацыянальнай літаратуры не зрабіў.

**Л. Галубовіч.** І я скажу, што ён можа пісаць не толькі інфарматыўна: для "Крыніцы" напісаў пра Каруся Каганца не горш, чым хто.

**І. Чарота.** Нельга выконваць функцыю крытыка "разавым уключэннем". Раз узяўся — дык працуй, пішы. А то мы ганарымся, што некалі напісалі дабрую рэцэнзію ці артыкул. Некалі адпаведныя функцыі выконвалі секцыі Саюза пісьменнікаў. На кожным пасяджэнні секцыі рабіўся агляд апошніх выданняў і публікацый, прычым даручаліся гэтыя агляды самым розным людзям, асабліва маладым, у якіх яшчэ хапае крытыцызму. Існавала самаўсведамленне руху літаратуры.

**Л. Галубовіч.** Літаратура наша ўсім, у тым ліку і крытыку, перастала балець.

**І. Чарота.** Зараз ніхто не мае ўяўлення пра працэс у асобных відах, жанрах.

**Л. Галубовіч.** Ну, вось крытыкі, прапаную вам назваць твор беларускай літаратуры, які вы прачыталі за лета і які вам запомніўся.

**П. Васючэнка.** Летам я не чытаю нічога. Нешта мне здаецца, што ты, Лявон, хочаш усё адміністраваць.

**Л. Галубовіч.** Не, усё-ткі скажы, якія творы апошняга часу ў беларускай літаратуры табе запомніліся. Крытык жа павінен сачыць...

**П. Васючэнка.** Перш за ўсё, ніхто, нікому і нічога не павінен.

*(Працяг на стар. 12)*

## Сустрэчы ў Горках

Пачатак кастрычніка ў Горках быў багаты на прэзентацыі кніжных навінак.

1 кастрычніка ў раённым Доме культуры адбылося знаёмства вучняў пачатковых класаў гарадскіх школ з новай кніжкай дзіцячых вершаў паэтэсы з Горак Ніны Кавалёвай "Есть у дождика подружка". Зборнік разлічаны на дзяцей рознага ўзросту: і самых маленькіх, і тых, хто ўжо чытае сам. На прэзентацыі дзеці чыталі вершы, гучалі словы ўдзячнасці тым, хто дапамог выдаць кніжку, — калектывам гархарчгандлю, племзавода, лясгаса, Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея.

З дапамогай музея быў выдадзены і зборнік вершаў А. Пісьмянкова "Журавель над студней" ("ЛіМ" ужо, дарэчы, аб гэтым пісаў). А. Пісьмянкоў прыехаў у Горкі, і ў горадзе адбыўся шэраг сустрэч аўтара з чытачамі. Прэзентацыя новага зборніка прайшла ў студэнтаў БСГА. Наведаў паэт і навучэнцаў Горацкага педвучылішча, дзе сустрэў вельмі ўдзячную аўдыторыю. Пабываў Алесь Уладзіміравіч і ў гарадской СШ N 4, і ў вясковай Копцеўскай сярэдняй школе.

М. СТУДНЕВА

## Вынік сарака гадоў

"Выбранае" — так назваў сваю чарговую кнігу вядомы паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі камсамола Беларусі Генадзь Бураўкін (жыццё ён дало выдавецтва "Мастацкая літаратура"). Змест аднатомніка склалі лепшыя творы з такіх паэтавых кніг, як "Майская просінь", "З любоўю і нянавісцю зямною", "Дыханне", "Выток", "Гняздо для птушкі радасці" і іншых, а таксама вершы, напісаныя апошнім часам. Адметнасць кнігі і ў тым, што ў ёй знайшлося месца творам для дзяцей, а Генадзь Мікалаевіч, як вядома, плённа працуе і на гэтай ніве, аб чым, у прыватнасці, сведчылі яго зборнікі "Тры казкі пра Зая", "Сінія арэлі". І, канечне ж, а гэта прынясе задавальненне аматарам музыкі, змешчаны тэксты папулярных песень.

Аўтар адмовіўся ад прадстаўлення твораў па зборніках, замест гэтага ў "Выбраным" ёсць абагульненыя раздзелы "1955—1964", "1965—1974", "1975—1984" і "1985—1995". А ў выніку прадстаўлена саракагоддзе, аб чым, дарэчы, нагдвае і падзагаловак кнігі: "1955—1995". А ў звароце "Сябра чытач!" Генадзь Мікалаевіч зазначае: "Аддаю табе ў рукі том выбраных твораў, напісаных за чатыры дзесяцігоддзі паэтычнай працы. У пэўным сэнсе гэта і справаздача, і споведзь. У вершаваных радках, якія, хачу верыць, затрымаюць тваю ўвагу, — мая біяграфія, маё жыццё: апаленае вайною дзяцінства, родная Полаччына, вандроўкі па блізкіх і далёкіх краях, дыпламатычная камандзіроўка ў Злучаныя Штаты Амерыкі, сустрэчы і горкія развітанні з людзьмі, палітычныя і чалавечыя захапленні і расчараванні". Тут жа ўдакладняе: "Можа быць, сёння нешта з пераажытага бачыцца і мне інача, чым тады, калі ўсё адбывалася; можа быць, сёння сёе-тое я напісаў бы па-іншаму і лепш, калі матчына слова дапамагала мне выказацца, мне так думалася, так адчувалася, так верылася..."

Таму ў кнігу побач з вершамі з ярка выражанай адраджэнскай скіраванасцю ўвайшлі і творы "рэвалюцыйнага гарту", як, для прыкладу, "Чатыры песні пра Эрнеста Чэ Гевару". Можна спрачацца накошт таго, ці трэба было іх, як і некаторыя іншыя творы, уключаць у кнігу. Але, відаць, нельга не пагадзіцца з паэтам: гэта — "мая біяграфія, маё жыццё..."

Кастусь ЛЯВОНЧЫК

## Вайскоўцы слухалі паэтаў...

Даўно сябруюць музеі Якуба Коласа і Петруся Броўкі з Цэнтральным домам афіцэраў. Па дамоўленасці з інструктарам па ваенна-шэфскай рабоце ЦДА Анатолем Вераб'ём музейцы ладзяць тут літаратурна-музычныя сустрэчы. Мерапрыемства падобнага кшталту прайшло і ў мінулую нядзелю. Кіназалу запоўнілі курсанты, суворыўцы, жаўнеры Мінскага гарнізона. Уступнае слова зрабіў А. Верабей, вёў сустрэчу супрацоўнік Літаратурнага музея Петруся Броўкі Міхась Пратасевіч.

Уважліва слухалі сённяшнія і будучыя абаронцы Айчыны Міколу Аўрамчыка і Уладзіміра Паўлава, якія прачыталі лірычныя і патрыятычныя вершы. Кампазітар Алег Чыркун пад свой акампанемент праспяваў некалькі песень, адна з іх — на словы прысутнага У. Паўлава.

На вясёлай хвалі гаварылі з удзячнымі слухачамі Анатоль Зэкаў і Іван Курбека. Зладжанай, бадзёрай музыкай і галасамі сустрэчу завяршыў народны ансамбль "Гарніца".

У. БУЛЫГА

ВІНШУЕМ!

# Віктару ЯРАЦУ — 50!



*Віктар Ярац родам з пасёлка Красны мост Рэчыцкага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, але ў 1968 годзе мусіў развітацца з гэтай вышэйшай навучальнай установай. І не па сваёй волі. Разам з іншымі нацыянальна свядомымі студэнтамі ён выступаў за тое, каб выкладанне ва універсітэце, найперш на філалагічным факультэце, вялося па-беларуску. І, як і тыя, хто разам з ім дазволілі сабе такую смеласць, папляціўся. Давялося працягваць вучобу ў тагачасным Гомельскім педагагічным інстытуце імя В. Чкалава, куды В. Яраца перавялі ў 1968 годзе. А скончыў у 1970 годзе ўжо Гомельскі дзяржаўны універсітэт, які быў адкрыты ў 1969 годзе на базе згаданага педагагічнага інстытута. Некалькі месяцаў загадваў сельскагаспадарчым аддзелам рагачоўскай раённай газеты "Камунар", у 1970—1971 годзе служыў у арміі. Пасля працаваў на Гомельскай студыі тэлебачання. У 1975 годзе скончыў аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры Гомельскага універсітэта. Працуе выкладчыкам гэтага універсітэта.*

*З першымі вершамі В. Ярац выступіў у газеце "Піянер Беларусі" яшчэ ў школьныя гады, але актыўна друкуецца з 1966 года. Выдаў некалькі кніг паэзіі, сярод якіх "Уваходзіны", "Добрыца", "Дняпроўскі бакен". Падрыхтавана да друку кніга "Беражанкі", рукапіс якой знаходзіцца ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Вядомы В. Ярац і як перакладчык твораў балгарскіх, літоўскіх, рускіх, украінскіх паэтаў. Важкія яго набыткі і ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства.*

*Вітаючы Віктара Уладзіміравіча ў дзень яго 50-годдзя, зычым яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў, а чытачам "ЛіМа" прапануем новыя творы юбіляра.*

Віктар ЯРАЦ

## На стыку вякоў

●

*Пад цяжкімі абцасамі сцежка і брук*
*ці прыгадваюць лёгкія крокі?*
*Прывітанняў світальных даверлівы гук,*
*дзе ж крынічаць твае вытокі?*
*І пытаеш і ў сонца, і ў золь: ці сагрэць*
*нечы ў свеце пагляд адзінокі,*
*каб дарожнай гаркоты*
*не парожні карэц*
*за бары адышоў, за аблокі?*

●

*Расплаўлена лета на чырвані-медзі*
*шырокіх дубовых лістоў.*
*То — востраў высокі,*
*дзе вогнішчы свецяць,*
*ці прывідны замак між голых палёў?*

*І мне — падарожніку*
*ў дзень заімглёны —*
*не змрочна ісці праз абдымкі смугі;*
*і голас гукае здалёку знаёмы*
*(там промні п'янелі — і ўпалі ў стагі).*

*І тут, перад гэтай расстайнай лістотай*
*(яе перагортваць да снегу вятрам),*
*усёю істотай гаворыш не ўпотай:*
*— Той голас вясновы зіме не аддам.*

*Ні скаргай, ні крыўдаю час, перавіты*
*травой безгалосай, усё ж не ўгняві,*
*калі над зямлёй — ні акенца блакіту,*
*і шчодра дуброва разносіць агні.*

## На зыходзе веку

*Плылі плыты. Гарэў агонь вячэрні.*
*Кіпела юшка, аж дражніла нюх*
*і камароў, і зор. Віроў вярчэнні*
*выносілі наверх глыбіняў дух.*

*У жорнах вадзяных малоліся*
*імгненні.*
*Самы павольны прыпынялі ход*
*у ямах, дзе дубовыя карэнні*
*час ад стваловў адломваў*
*з году ў год.*

*Памалу браўся над быстрой*
*пад кручай*
*яшчэ і не туман, а туманок.*
*І ўжо лугі заручныя агучваў*
*нядрэмны птах — трывогі слых і зрок.*

*Плылі плыты ракой пасляваеннай —*
*ім кожны бакен пра жыццё ківаў.*
*Тут немец спадзяваўся ўсё ж дарэмна,*
*што выручыць яго дняпроўскі вал.*

*На плёсах сосны, што глыталі ўволю*
*і дым кастроў, і дым парахавы,*
*студзілі дні нянавісці і болю,*
*нядаўні гнеў маланак агнявы.*

*А сёння — ні плытоў, ні параходаў,*
*і бакены маўчаць без аганькоў.*
*Па-іншаму вядуць гаворку воды —*
*яна аб чым на стыку двух вякоў?*

*...Каго сагрэе новае стагоддзе —*
*не варажы ўначы, дзе рэчкі ўздых*
*ля золкіх берагоў, якімі ходзяць*
*не толькі цені дрэў — калісь жывых...*

## Жнівень

*Праз ручай масток. Па ім хаджу*
*ў блізкі магазін па хлеб жытнёвы.*
*Колькі дзён тут не было дажджу,*
*а вада з ракі пайшла — і ў рове*

*затапіла ледзь не ўвесь масток,*
*па якім скачу ў рабочых ботах*
*на вачах у жаб, што майскі ўрок*
*квакання прыгадваюць з ляnотай.*

*І хмурнець не хочацца, калі*
*і арэшнік светлымі ліласткамі*
*лёгка, як арэшак на галлі,*
*тут з душы цяжкі скідае камень.*

*Не скажу нікому, несучы*
*свежы бохан праз масток дадому,*
*дзе схаваны ад гаркот ключы,*
*пра чыю ручай пытае стому.*

## Гарачы пясок

1

*Ліст нясмелы ляціць з вышыні*
*на пясок на сыры надмагільны*
*над ракой, дзе калінаў агні*
*свецяць горача ў сонца і ў ліўні.*
*Свежы дзёран гняздо ля крыжа*
*той прытулак, што вечным завецца.*
*І сівее ў расстанні душа,*
*сірацеюць і позірк, і сэрца.*
*Толькі гучна крычыць варанё,*
*толькі гучна вятры на выгодзе*
*ўспамінаюць блуканне сваё*
*ў травах тых, дзе паснулі стагоддзі.*
*Ліст нясмелы, як росчырк пяра*
*на адлёт незваротны пад небам,*
*дождж патушыць... Журботы пара*
*ці загоіцца ранай пад снегам?*

2

*...Стаяў і я над тою жорсткай глінай,*
*над жвірам тым, што глушыць,*
*быццам гром,*
*калі з рукі цячэ на дамавіну —*
*цяжкі, глухі, са смольных дошак дом.*

*І цэлы свет сыходзіўся над ямай —*
*глыбей усіх прадонняў і глыбінь,*
*і светлы ліст плыў чорнай*
*тэлеграмай,*
*і хмарамі зацягвалася сінь.*

*І гукі ўсе*
*ў слязе імкнулі разам*
*сабраццаа, як пытанні да багоў,*
*якія не спяшаюцца з адказам*
*сыходзіць да прымоўклых берагоў.*

*І я нямеў, як след нямы і золкі,*
*як ліст, што пакідае вышыню...*
*Пячэ пясок - не порах, не асколкі —*
*сыры пясок (ён гарачэй агню).*

●

*Між гэтых ясеняў, бяроз і траў,*
*якім працягваць род і ў новым веку,*
*адзін радок за лета напісаў:*

*— Мацней жальбу адчуў*
*па чалавеку.*

## Вёска

*Прыязджаюць дзеці з гарадоў у вёскі*
*на дапатопным,*
*бітым-перабітым "Запарожцы",*
*на рыпсавым запыленым аўтобусе,*
*на "Жыгулях", "Таётах"*
*і "Фольксвагенах",*
*на матацыклах, "Волгах" і мапедах.*
*І вёска бачыць: хто на чым прыехаў —*
*той гэтак і жыве ў тых гарадах.*
*Жывуць па-рознаму*
*ды ўсе за бульбай едуць,*
*за свежынай, калі ў марозны дзень*
*вяпрук ляжыць абсмалены, абмыты*
*сярод двара на залатой саломе,*
*за яблыкамі раннімі і познімі,*
*за грушамі, гароднінай, якімі*
*баулы-сумкі і мяхі, і скрынкі*
*грузіць старающа паўней-паўней.*
*І вёсцы не шкада:*
*— Няхай бяруць!*
*Маршчыны ля вачэй, сівыя скроні*
*і рукі, спрацаваныя за век,*
*ёй застаюцца. І яшчэ —*
*чаканне:*
*— Калі ж прыедуць дзеткі*
*зноў адведаць?*

## Лодка

*Пад небам гучным руплівыя продкі*
*кожнай вясною прасмольвалі лодкі.*

*Пад небам золкім на беразе прадкаў*
*чыя сёння ў лёд урастае лодка?*



ПОШТА

Уладзя ПРОН

## Адчай

*Час імклівы,*
*жыццё пралятае,*
*Табе новы дзесятак ідзе.*
*Не сумуй, бо ніхто з нас не знае,*
*Куды лёс нас няўмольны вядзе.*
*Кажаш, многа усякай брыдоты*
*На дарозе цярністай стаіць,*
*Што не маеш ніякай ахвоты*
*Сам адбіцца і нешта змяніць.*
*Дык збяры ты апошнія сілы —*
*Не ў магілу ж жывому ісці, —*
*Можа, ёсць чалавек яшчэ мілы,*
*Паратунак пасобіць знайсці.*
*Што адчай? —*
*Як і шчасце-імгненне.*
*Дык чаго ж табе ныць-гараваць:*
*Калі шчырае маеш сумленне,*
*То й сумленнае трэба шукаць.*

Віктар ШАШЛА

## Зорка

*Згарэла чароўная зорка,*
*Пагасла у чорнай начы.*
*І стала так сумна і золка.*
*І стала — хоць плач, хоць крычы...*

*Я думаў: шчаслівае лета,*
*Блакітам напоўніцца край.*
*Чакаў я кахання, як цвету,*
*І тут будаваў сабе рай.*

*Шляхамі, такімі сухімі,*
*Прыйшоў да гаючых крыніц.*
*І цешыўся разам я з імі:*
*Бо ў небе ж надзейка гарыць!*

*Было неразгаданым імя...*
*І што тут магло прадказаць,*
*Што пройдуць, развеюцца зімы*
*І зорка пачне паміраць?*

*Цяпер я у ветраным полі*
*Шукаю, шукаю вуглі,*
*Святла, што не ўбачу ніколі,*
*Ад некалі боскай зямлі...*

ПРОЗА

# З нядаўніх запісаў

Янка БРЫЛЬ



## Буйным шрыфтам

Выдадзеная пятнаццаць гадоў таму назад, вялікафарматная, з каляровымі ілюстрацыямі, буйным шрыфтам, разлічаным на пачынаючага чытача, а вельмі адпаведным і для чытача старога, добра-такі зачытаная ўнукамі за многія месяцы іх дачнага падрастання, кніга Максіма Танка “Ехаў казачнік Бай”.

Унукі, сваім натуральным ходам, павырасталі, усё радзей знаходзяць час для дачнай раскошы, а дзеду, што з бабуляй, міжнародна-казачным ладам, у адзіноце чакаюць, употай лічаць дні, калі ў іх зялёную адзіноту завітае былая найраднейшая шумеча, — дзеду захацелася гэтую кнігу перачытаць.

Можа, нават не так унукаў успамінаючы, пачаўшы яшчэ з таго часу, калі не самі яны, а ён ім чытаў, як успамінаючы сваё юнацтва, у якое — Бог мой, больш за шэсцьдзесят гадоў прайшло! — можна сказаць і так: уварвалася новае паэтычнае слова:

***Смяюцца і дзеці, і куры, і коні,***
***Як ён у шарахаўкі звонкія звоніць;***
***Смяюцца асверы, і стрэхі, і хаты,***
***Як пойдзе скакаць пад цымбалы Кудлаты.***
***Здаецца, няпраўда, што людзі гавораць,***
***Што быў ён раней абібокам і хворым.***

Гэта, вядома, з “Казкі пра мядзведзя”. А вось і з “Казкі пра Музыку”:

***А іграў ён заўсёды***
***Весела.***
***Нават дрэва, пачуўшы яго,***
***Хоць бы нізка да долу***
***Галіны плакучыя звесіла,***
***Зашуміць, засмяецца.***
***Атрасаючы пыл,***
***Закалышацца вецер,***
***І заскачуць,***
***Як зайцы,***
***Па полі снапы.***

Адчуванне сапраўднай паэзіі пры перачытванні буйным дзіцяча-старэчым шрыфтам, можа, не так востра-радасна ўсхвалявала, бо яно ж, відаць, ёсць усяму свая непаўторнасць. Аднак жа і ў хваляванні старэчым, як наўздагон, ёсць свая перавага — такая, як рэха вялікай душэўнай красы, успамінальна-развітальная, журботна-радасная асалода.

## Ад Адама...

Як гэта добра — пасля тых тэкстаў, якія міжволі хочацца правіць, перайсці да тых, якімі моўчкі захапляешся, адпачываючы душой!..

І колькі б я да яго, Міцкевіча, не вяртаўся, усё чытаецца як быццам упершыню, усё новае ды новае. Ён з тых, каго пазнаваць трэба ўсё жыццё.

●

Яна іграе і пяе:

***Да цераз мой двор,***
***Да цераз мой двор***
***Цяцера ляцела...***

І тут мне выразна ўбачылася артыкуляцыя ягоных вуснаў, як ён — праз векавечную бронзу сусветнай славы, праз чароўную сілу яго польскага паэтычнага слова — як ён то шэптам гаворыць, то шэптам спявае за ёю — па-беларуску:

***Да не даў мне Бог,***
***Не судзіў мне Бог,***
***Каго я хацела...***

А нам, ці толькі мне, дарма не вельмі часам верыцца, якія яны былі свядомыя польскія беларусы — Міцкевіч, Чачот... Дый сама Марыля.

●

Каб не лічыць Міцкевіча беларусам, лепш, зручней лічыць тую Беларусь Польшчай. Нават гэтак падумалася амаль з самага пачатку зацікаўленага перачытвання багатага каментара да акадэмічнага выдання “Пана Тадэвуша”. Як толькі гэты выдатны даследчык, Станіслаў Пігань, ні стараўся абыходзіць беларушчыну! Перакладу ягонае: “У Літве”, “на Віленшчыне”, “у родных мясцінах паэта”... Ёсць, праўда, і так: “Тамашняя польская мова”, “відаць, пад уплывам беларускай”, “гучанне беларускае”...

Ды ўсё гэта адзнакі і выдаткі нашай гістарычнай долі, што і сёння не надта палепшала...

●

Ва ўсіх філаматаў, у іхніх успамінах пра Міцкевіча, — ані намёку на яўрэйскае паходжанне ягонай маці, што, зрэшты, цяпер у палякаў стала адкрытым.

Няма і намёкаў пра нейкую цьмяную нібыта сувязь генія з царскім III Аддзяленнем. Вось Алесь Ходзька піша Эдварду Адзінцу:

“Непараўнальны Адам! Ніхто з нас не прайшоў школу няшчасцяў з такой карысцю для сябе, як ён”.

Ніякага падазрэння ў пана Алеся (Алесем ён сам сябе называў) няма, як і ў іншых ды яшчэ большых пакутнікаў. Яны любілі свайго непараўнальнага, ведалі яму цану, яго патрэбнасць, неабходнасць у іхняй агульнай найсвяцейшай справе, яны — да таго ж, не былі заражаны нашай, нашчадкаў, эпахальнай бядой — падазронасцю, недаверам...

●

“Дзяды”, частка III, паэма, раздзел “Дарога ў Расію”.

Славутая жандарская аднаконная **кібітка** на аснежаных неабсяжных прасторах. Сціхотны і панылы, калі не зусім адчайны, сум выгнання, невядомасці.

А ў Гогаля, у таксама чамусьці паэме, не драматычнай, а з празаічных раздзелаў, — **тройка**. Звышпафасна-патрыятычная. З “прадпрымальнікам” Чычыкавым у брычцы “господина средней руки”.

●

Нашы юныя ў пасляваенны час трагічныя патрыёты, героі кнігі “Гарт”, якія хацелі быць падобнымі да Міцкевіча, Зана, Чачота і іншых “Прамяністых”, а іх білі кастровым паленам, што ляжала каля палаючай грубкі, каб таварышу следчаму было цяплей, — білі па юнай, светлай галаве. Чужынцы-”суддзі”, якія не толькі пра тых філаматаў ды філарэтаў, але і пра Міцкевіча наўрад ці чулі...

●

Перакладаю з цікавай, ґрунтоўнай кнігі Збігнева Вуйціка пра Ігната Дамэйку:

“Балоцісты грунт, непраходныя зараснікі ліянаў і трыснягу напамінаюць часам нетры нашых палескіх пушчаў — адвечную хованку ласёў ды мядзведзяў. Толькі тут — ані следу ніякага звера. Лес пусты”.

“Тут” — гэта ў Чылі. Сумесь ведання і захаплення. І скрозь у яго паралельнае бачанне Беларусі, яе пушчаў, напэўна ж, і з адчуваннем Міцкевіча, з яго словам і воблікам.

Ён жа, Дамэйка, праходзіў і тую пушчу, тыя нетры сябравага чарнавіка навагрудскай эпапеі, якую рыхтаваў да набору. А перад гэтым слухаў фрагменты адтуль у Адамавым чытанні, нават у нечым служыў яму дапамогай, падказкай.

●

Зноў чытаючы пра Дамэйку.

Колькі нам, беларусам, трэба яшчэ папрацаваць, каб было на каго апірацца, кім ганарыцца ды казыраць, не адчуваючы, як сёння, пэўнай няёмкасці ад гаворкі пра славутых землякоў, беларусаў “геаграфічных”, якія служылі культуры іншых народаў, лічачы сябе хто палякам, а хто рускім.

●

Вялізны юбілейны том — “Пан Тадэвуш” у арыгінале, у беларускім перакладзе П. Біталя, і ў рускім С. Мар.

Мне казалі, што ёсць і такое меркаванне — выдаць у адной кнізе ўсе нашы пераклады эпапеі, — Дуніна-Марцінкевіча і Ельскага, як спробу прасігналіць свету, што і мы таксама можам; Тарашкевіча, зроблены ў пілсудчыцкай турме, і Біталяў — у бальшавіцкім канцлагеры, як красамоўнае гістарычнае сведчанне; і Семяжонаў, пакуль што найлепшы, але ж, на жаль, разоў ці не на паўтара даўжэйшы за арыгінал.

А каб жа і нам, — успомнім украінцаў з перакладам Максіма Рыльскага, — займець, нарэшце, адзін дасканалы, які і ў нас, напэўна ж, будзе.

## Страшна

Першы мой здымак — на самым пачатку трэцяга года жыцця — выштукаваны мінскім фатографам з адэскага сямейнага. Маці казала: “Не даваў панамку зняць, кавэнчыў, каб у ёй. То бацька ляпнуў па срачцы ды ўзяў на калені.” Другі здымак быў зроблены ажно праз сем гадоў, па просьбе старэйшых братоў, якія засталіся абодва ў Саветах. Тут ужо было, як для мяне, цэлых чатыры гады вясковага, не абы-якім падарожжам на возе ў Мір, за дзевяць кіламетраў, з мамай і двума большымі братамі, аднаму няпоўныя шаснаццаць, другому дванаццаць. Фатограф, немалады, увішны жыдок, палажыў маю правую руку на маміна плячо, а ў левую даў мне нейкую таўставатую кнігу, — як быццам я і маму люблю больш, чым усе, і самы граматны ў нашай сям’і, асірацелай пасля бацькавай смерці. Па здымку паслалі замежным братам і дома засталося тры. Сусед наш, вясёлы дзядзька Паўлюк, паглядзеў на здымак і сказаў: “Во, і Іван свае вушы наставіў!..”

Яны ў мяне на ўсё жыццё вялікія, але ў маленстве былі яшчэ большыя, бо ці не да шостага класа трэба было стрыгчыся “пад бручку”, нагала.

І вось я неяк заглянуў перад галеннем у люстэрка і да болю выразна ўявіў сябе, партызана, у паліцэйска-нямецкім палоне, у нашым мястэчку Турэц. Рукі ўжо звязаныя перад павешаннем. У давяршэнне ўсіх катаванняў у пастарунку, мястачковы пустальга, паліцай Лісік, з якім мы ведаліся са школьнага маленства, абрэзаў мае вушы і тыцкаў імі ў зацiснуты рот: “Жуй, бандзюга сталінскі, жуй!”...

Такое ідыятычна ўявілася...

І прыгадалася, як у спякотным казахстанскім Сямірэччы, у семдзесят чацвёртым годзе, нам, групе пісьменнікаў з розных савецкіх рэспублік, і не такое па жаху расказвалі. Яшчэ з дзён грамадзянскай вайны. Як белыя казакі атамана Анненскага накрылі ў сяле чырвонага партызана, што забег да сям’і, вынялі з яго разрэзаных грудзей не зусім мёртвае сэрца (“яшчэ трапяталася”) і прымусілі жонку гэтага чалавека — на вуліцы, пры яго дзецях і пры суседзях — сэрца тое кусаць, жаваць і глытаць...

## Слабасць

...Праследаваць сям’ю — за вінаватасць бацькі і дарослага сына, якія добраахвотна ў гітлераўскай паліцыі і днямі крывава “праславіліся” па сабачай службе. Нарэшце дагнаць тую сям’ю — жанчыну-маці, дзвюх маладзенькіх дачок і найменшага, зусім яшчэ хлапчанё.

Ён мне цяпер найлепей бачыцца. Нібы ён тут адзін.

Знясіленыя ўцёкамі, ушчэнт патомленыя маці і дочкі асуджана разгаласіліся перад немінучай смерцю.

Толькі хлопчык чамусьці маўчаў.

Уся “святая” злосць адпала. Самому хоць заплач. А тут жа і суровы, да расстрэлу, загад, і таварышы, якія супраць тваёй слабасці. Што ж рабіць?! Каб быў адзін — проста вярнуўся б, а то і сказаў бы гэтым людзям, а так...

Гэта мне толькі старому прымроілася. Лёс пазбавіў мяне ад такіх ды падобных сітуацыяў. А мог бы і не пазбавіць. І гаворкі пра тое цяпер не было б.

...На адвячорку той хлопчык вярнуўся да мяне. Яшчэ ўсё моўчкі. Ярка, выразна нагадаўшы ўнучка ў такім самым узросце. З яго дапытліва-нястомным пазнаваннем свету, з яго наіўнасвятой прагай жыць і жыць...

...Позні вечар. Не спіцца. І тэлевізар з пустой, нібы вясёлай перадачай.

Той хлопчык — нарэшце — горка заплакаў ад жаху канца...

Зноў разбалелася сэрца.

А толькі ж ад уяўлення.

## Толькі факт

З тэлеэкрана днямі было сказана, што ў сорак чацвёртым годзе, калі праводзілася дэпартацыя чачэнцаў, тыя аулы, што “супрацiўляліся”, **былі знішчаны разам з людзьмі...**

Словы гэтыя — так адкрыта — як быццам выскачылі ўпершыню. Як гістарычны безэмацыйны факт.

## Гераізм

Пачуў і часткова ўбачыў па тэлевізары тое, што адбывалася ва ўсходнім Берліне ў чэрвені пяцьдзесят трэцяга. Немцаў загінула сотня. Каля пяцідзесяці (больш ці менш — не ўлавіў) афіцэраў і салдатаў Савецкай Арміі асуджана трыбуналам на смерць — за адмову страляць у мірных дэманстрантаў. Восем гадоў пасля заканчэння вайны, ды такое, — нельга не задумацца, улічваючы яшчэ не астылы напал нянавісці да гітлераўцаў. Тут, у тых, што адмовіліся страляць, гераізму, бадай, больш, чым яшчэ праз дзевяць гадоў было ў Новачаркаску, калі страляць некаторыя адмаўляліся не ў нядаўніх ворагаў, а ў людзей сваіх. І ў адным, і ў другім выпадку героі не толькі асуджаны на смерць, але і зганьбаваны, як здавалася суддзям і катам, навечна.

Сумны, жахлівы гераізм!.. Як ад яго далёка да зразумення неабходнасці шукаць і знаходзіць спосабы, шляхі мірнага суіснавання. Пра новачаркаскіх адказнікаў у нас ужо гадоў колькі гаворыцца, і пішацца. **Таямніца** берлінскіх — вось ужо раскрываецца таксама. Немцы ўшанавалі іх, як герояў. А ў нас? А каб было наадварот?..

...У тыя чэрвеньскія дні ці не з самога Берліна дэзерціраваў і ціха звар’яцеў сын нашага вясковага суседа, здаравенны, ціхманы Відзік. Гадоў з дзесятак, а то і больш, пакутаваў у адпаведным абласным шпіталі, потым быў дома, пры бацьках. З маўклівага рабіўся часам буйным, дзіка крычаў пра штосьці, стаўшы нават бог ведама як гугнявым, і тады яго ў хаце вельмі баяліся.

## Кар, кар...

Слаўныя, бедныя нашы заходнебеларускія хлопцы — Уладзімір Жылка, Ігнат Дварчанін — пасля Златай Прагі, пасля культурнай Еўропы — адзін у ссылку на суровую поўнач, на смерць ад сухотаў, што спыняць гарачае сэрца, другі ў ГУЛАГ і пад наганную кулю ў разумную галаву. Толькі здагадвацца можна, **як** яны адчувалі гэта, **якія** пакуты цела і душы перанеслі ў сутыкненні з бальшавіцкім варварствам, каб самім на сябе пісаць тое, што было патрэбна для іхняга знішчэння. Як бедны, мужны Дварчанін (цытую з пратакола “дазнання”):

“Печатал свои к-р стихотворения... издал вредную к-р нацдемовскую “Хрестоматию белорусской литературы”... читал лекции, вкладывая в них к-р содержание...”

Гэтае “к-р”, як злавеснае карканне, на жаргоне катаў азначае контррэвалюцыю.

## Вырваўся ці дарваўся

Нізкая душа, вырваўшыся з-пад прыгнёту, прыгнятае сама.

Паўтараю Дастаеўскага без двукосся, бо з памяці. А вось і другое, не ягонае:

Нізкая душа, дарваўшыся да ўлады, рада помсціць кожнаму, хто перад ёю ў нечым “вінаваты”.

Асабістае так і ўплывае на грамадскае, на гісторыю.

## Сон і ява

Прачнуўся апоўначы ад жахлівага сну. Хораша ціхаму, разумна сціпламу хлопцу, ужо шчасліва сямейнаму, пагражала ў гэтым сне сучаснае майстэрства збіваць-забіваць чалавека бясследна...

*(Працяг на стар. 14—15)*





## На сцэне — "Цыганскі кароль"



**23 кастрычніка Брэсцкі тэатр драмы і музыкі адчыніць 54-ы тэатральны сезон. Пачнецца ён прэм'ерным спектаклем "Цыганскі кароль", паводле аднайменнай аповесці Уладзіміра Караткевіча, у інсцэніроўцы Аляксея Дударава. Гэтую пастаноўку на брэсцкай сцэне ажыццявіў рэжысёр з Віцебска Юрый Лізянгевіч. Дарэчы, менавіта за выкананне ролі Аглаі ў гэтым спектаклі маладая брэсцкая актрыса Алена Ягорава атрымала прыз на III Міжнародным тэатральным фестывалі "Белая вежа-98".**

**Алеся ГРЫШЫНА**

*На здымку: сцэна са спектакля "Цыганскі кароль".*

*Фота Вячаслава ЛУКАШЭВІЧА.*

## Сезон усё ж адкрыўся

**20 кастрычніка ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача нарэшце адкрыўся 42-гі тэатральны сезон. Увазе гледачоў быў прадстаўлены спектакль-казка для дзяцей "Па зялёных гурбах акіяна" паводле п'есы С. Казлова. Дарэчы, гэта адзіны тэатр у рэспубліцы, дзе ўрачыстасці адкрыцця сезона праводзяцца двойчы: дзённая і вечаровая часткі адкрываюцца паасобку. Сёлета гэта магчыма было назіраць. Увогуле ж адкрыццё было прызначана на 14 кастрычніка. Аднак амаль напярэдадні гэтага адпаведныя службы правялі праверку і вынеслі прысуд: столь глядзельнай залы патрабуе неадкладнага рамонту і знаходжанне ў зале гледачоў з'яўляецца небяспечным. Нават рэпетыцыі на сцэне было дазволена праводзіць пры апушчанай проціпажарнай заслоне. Толькі правядзенне некаторых рамонтных работ дазволіла тэатру распачаць сваю дзейнасць на роднай сцэне. Адкрыццё дзённых спектакляў адбылося амаль тыдзень таму на арандаванай сцэне Палаца культуры чыгуначнікаў. Загадчык літаратурнай часткі тэатра спадар Вальскі заўважыў: "Гэта першы, але хочацца спадзявацца і апошні, выпадак за ўсю гісторыю існавання тэатра".**

**Але добра, што ніякія тэхнічныя складанасці не змаглі перашкодзіць творчаму працэсу. Да паказу рыхтуецца спектакль "Маленькі лорд", створаны па п'есе Мікіты Воранава паводле аднайменнай аповесці Ф. Бернет. Пастаноўку ажыццяўляе А. Андросік, мастак — Дзмітрый Мохаў, кампазітар — Уладзімір Кандрусевіч, рэжысёр — Мікалай Хацько.**

**Перанесеныя спектаклі адбудуцца: "Антыгона" — 30 і "Шчаслівыя жабракі" — 31 кастрычніка ў памяшканні тэатра.**

**І. МЕЛЬНІК**

## Тры ў адным

**Ці не адначасова тры кніжкі для маленькіх з'явіліся ў выдавецтве "Юнацтва". У зборніку Казіміра Камейшы "Дожджыкава лічылка" прадстаўлены вершы, казкі, скорагаворкі, загадкі. Ужо самі назвы твораў запрашаюць дзяцей чытаць іх, каб даведацца, аб чым жа пойдзе гаворка — "Куды заехаў вусень", "Кот Нелавімыш", "Кравец Каняўскі", "Бабёр-сапёр". Шмат досціпу і ў кніжцы Рыгора Яўсеева, якая называецца "Кіт Мікіта". Раней гэтыя творы змяшчаліся на старонках часопіса "Вясёлка", а цяпер вось сабраны разам у кніжцы. "Юнацтва" працягвае сваю добрую традыцыю — знаёміць з лепшымі ўзорамі вусна-паэтычнай творчасці беларускага народа. І трэцяя кніга — зборнік "На тычынцы гарадок", у якім сабраны загадкі.**

---

ВЫСТАВЫ

ГЭТА ВЫСТАВА ўжо закрылася. Тыя некалькі тыдняў, калі залы Рэспубліканскай мастацкай галерэі былі заняты творамі "маладых і смелых", яны ўвесь час былі поўныя наведвальнікаў. Надзея Зеленко, мастацтвазнаўца галерэі, сцвярджала, што такі наплыў бывае досыць рэдка. Звыкла бачыць амаль пустыя выставачныя залы, дзе, акрамя жанчыны-наглядальніцы, можа проста нікога не быць. Маладзёжную ж выставу "Час. Асоба. Прастора" наведвала экскурсія за экскурсіяй, не кажучы пра шматлікіх зацікаўленых гледачоў.

Думаю, гэта — адзнака таго, што выстава не стала звычайнай ці проста чарговай. Вядома, яна спрэчная, яна можа выклікаць

Такая гульня — не здзіўляе. Яна знаёма і дарослым, якія часам дадуць волю сваім пачуццям і будуць не дужа азірацца на заведзеныя грамадствам звычкі. Калі В. Маркавец і А. Разанаў абвясцілі свае знакамітыя "яйкаквадраты", калі яны запрашалі мастакоў да ўдзелу ў сваіх акцыях, адмоў не было. Пагуляць з формамі і прасторай, пашукаць у новых матэрыялах, а галоўнае адысці, хай і на адзін дзень, ад паняццяў грамадзянскаважнага і высока-творчага — пажадалі многія і сталыя майстры. Гэтую акцыю, як адпачынак і адкрыццё для сябе, згадвалі яны пасля доўга. Ну, а моладзі эпатажнасць і адкрыццё наканаваны самім яе ўзростам.

Але галоўнае "дзіва" было ў тым, што ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі таксама

кая мастацкая галерэя можа дазволіць сабе такую акцыю ў лепшым выпадку адзін раз на год. Галерэй у Мінску (пра вобласць і гаварыць не будзем) — на пальцах можна пералічыць. Амаль усе яны — камерцыйныя, а "Шостая лінія" сёння не працуе з-за пэўных складанасцей з кіраўніцтвам Політэхнічнай акадэміі. Магчыма, яна адкрыецца зноў, але наўрад ці яе накірунак застанецца былым. Новы гаспадар — новыя правілы. На выставе некалькі чалавек прадстаўлялі гэтую ўжо не існуючую галерэю (інсталяцыя "Свет згубленых ілюзій"). Галерэя АВ на Вольнай сцэне падхапіла пад кіраўніцтвам энергічнай Ірыны Рэут ініцыятыву "Шостай лініі". Але ці ж задаволіць яна адна ўсю моладзь?..

# Фільтраванне ў порыстай мембране

незадавальненне і крытыку, самі мастакі, што прычыніліся да арганізацыі экспазіцыі, маюць права называць многія выстаўленыя на ёй рэчы "другаснымі", асабліва што датычыць авангарда. Але бясспрэчна, што нават дзеля таго, каб выклікаць гэтую незадаволенасць і размовы вакол выставы, варта было б яе ладзіць.

Такіх выстаў не было, як прызнаваліся "старыя", аж дзесяць гадоў. Паміж тымі, з 1988 — савецкага — года, і цяперашнімі, якім дазволена калі не ўсё, дык многае, абы таленавітае і цікавае, — цэлая вечнасць. "Старыя" тую выставу называлі бяззубаю, гаварылі, што чакалі выбуху, а пабачылі дабротнасць без рэвалюцыйнага запалу. Але ж тады, у 88-м, "рэвалюцыяй" магла стаца кожная мастацкая акцыя, накіраваная супраць афіцыйнага мастацкага "курсу". І неабавязкова, каб там было мастацтва. Арыгінальнасць магла замяніць творчасць, манернасць — сапраўдную фантазію. Вылучыцца было лёгка, калі была магчымасць паказаць свае творы. Цяпер мы ўсе "ў Еўропе", авангард — звыклая з'ява, перфоменс даўно перастаў успрымацца прынесеным "з-за бугра", інсталяцыі суправаджаюць ледзьве не кожную выставу. І выбуховасць у гэтай сітуацыі здаецца мне надуманай самамэтай і тым больш зусім не тым крытэрыем, па якім можна ацэньваць маладзёжнае, маладое мастацтва. Маладое — гэта смелае, вынаходлівае, постмадэрновае, якое зыходзіць з эстэтычных крытэрыяў гульні, калажа, іроніі, містыфікацыі, эпатажу. Маладое — гэта тое, што сталася ці стане натуральным для новага жыцця. Маладое — гэта погляд не проста праз нацыянальнае ці замежнае, праз класічнае ці авангарднае, гэта спроба змяніць погляд на знаёмыя рэчы, знайсці новы погляд на стары, вядомы нам свет. Як там у бумбамлітаўцаў: "пушчуся ў рэактыўнае блуканне па зманлівых камунікацый крывізне" (В. Жыбуль).

Дык вось, выставы такой не было дзесяць гадоў. Таму ўжо яна — з'ява. Проста таму, што яна нарэшце адбылася — да 60-годдзя стварэння Саюза мастакоў. З'ява таму, што для яе правядзення выкарысталі Нацыянальную мастацкую галерэю, не пабаяўшыся напоўніць яе сцены тым, што многія назвалі "балдзёжнікам": ад кампазіцыі поліэтылену і мяшкоў "для харчовых прадуктаў" ля ўвахода, распісанай егіпецкімі пісьмёнамі лесвіцы, бумбамлітаўскага "Тазіка беларускага", да шматлікіх самых неверагодных дзеянняў, прыдуманых на адкрыццё, кшталту перфоменса Валянціна Борздага — загорнутых у паліэтыленавую плёнку двух аголеных цел. Цікава, што журы, як распавядала яго ўдзельніца, супрацоўніца Музея сучаснага мастацтва, малады мастацтвазнаўца Ірына Небышынец, спачатку была проста шакіравана гэтым актам, хоць аўтар прадставіў вычарпальную анатацыю сваёй задумы. Ён хацеў дамагчыся ўражання безабароннасці цела і душы, каб іх захацелася прыхаваць ад свету, прыкрыўшы хоць бы звычайным поліэтыленам. Гэта ідэя праходзіць праз яго скульптуры, дзе дрэва, жывое і цёплае, як цела, прыкрываюць, абараняе метал ("Торс з бронзавымі ручкамі", "Жалезны торс", "Вешалка", "Два абеліскі").



*Лаўрэаты І прэміі;*



*Уладальнік гран-пры А. ЖУРАЎЛЁЎ.*



*В. БОРЗДЫ, "Драўляны торс".*

не разабралася, што тут да чаго, і праз пару дзён пасля адкрыцця знялі з экспазіцыі некаторыя работы, нібы "невытлумачальныя" для юных наведвальнікаў: шкуматаныя поліэтыленавыя мяшкі на вуліцы, асобныя металічна-драўляныя і керамічныя, адкрыта сексуальныя фантазіі Борздага. Праўда, хутка вярнулі на месца — па патрабаванні і растлумачэнні мастацтвазнаўцаў.

Пры ўсім тым экспазіцыя глядзелася прыгожа, распрацавана была амаль класічна: асобна, блокамі — жывапіс, графіка, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва, скульптура. Грэх скардзіцца на памяшканне — маўляў, не прыстасаванае да выстаў авангарда. На Захадзе часта для такіх выстаў прыстасоўваюцца старыя кватэры, гаражы і нават воданапорныя вежы, і гэта аніяк не перашкаджае разумець і ўспрымаць іх. Зрэшты, а дзе маладым сёння выстаўляцца? Рэспубліканс-

Дарэчы, частка экспазіцыі, падрыхтаваная галерэяй АВ, сталася самай арганізаванай прасторава і цікава, прафесійна складзенай. Адчуваецца, што над ёю папрацавалі з жаданнем і любоўю. Увогуле, там, дзе за справу браліся знаўцы, усё ўдавалася. Эратычныя скульптурныя кампазіцыі В. Борздага стварылі ілюзію прасторавасці экспазіцыі, а колеравыя пошукі С. Рымашэўскага, жывапісныя фантазіі на тэмы Пірасмані П. Бурды, старажытная сімволіка І. Шчолакава натуральна злучаліся з інсталяцыяй Д. Волкава і В. Трафімава "Свет згубленых ілюзій". Арыгінальная вытанчана-манерная графіка Юрыя Якавенкі спалучалася з пачуццёвымі скульптурамі ў стылі "ню" Юрыя Анушкі. Гэтую гармонію не парушыла экспазіцыя Бум-бам-літа. "Тазік беларускі" прадставіў паэзію, аздобленую мітынговым чытаннем вершаў на адкрыцці.

Ідэя зрабіць выставу не была раптоўнай, да яе Саюз мастакоў рыхтаваўся з вясны. І ўсё ж многія маладыя мастакі даведаліся пра акцыю літаральна за некалькі дзён да адкрыцця. І — прынасілі тое, што было пад рукой. Я згодна са скульптарам, членам журы А. Слабодчыкавым, які на прэс-канферэнцыі заўважыў, што калі ён глянуў на работы свайго былога вучня Косці Селіханава, то адназначна мог сказаць, што той іх проста ўзяў з паліцы, сцёр пыл і прынёс на выставу. Дарэчы, сам Косця ад гэтага не адмаўляецца. Загадзя да выставы рыхтаваліся мастакі з абласцей, бо яны зусім не распешчаны ўвагай і для іх запрашэнне — не пусты гук.

Тым не менш выставу арганізавалі надзвычай энергічна, за што дзякуй сакратару Саюза мастакоў Ірыне Кузняцовай. Менавіта яна цягнула асноўны воз чарнавой работы. Свой талент арганізатара яна пацвердзіла яшчэ ў час правядзення Міжнародных дзіцячых пленэраў, якія па праву з'яўляюцца яе дзецішчам.

Знайшліся і спонсары, каб правесці выставу і адарыць удзельнікаў прызамі. Найперш гэта фонд Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі, які ўстанавіў тры прэміі па пяці намінацыях за жывапіс, графіку, скульптуру, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва і авангард (праўда, калі прагучалі сумы — адпаведна 2, 3, 5 мільёнаў рублёў, зала была расчаравана) і гран-пры з каляровым тэлевізарам "Гарызонт", які атрымаў мастак з Оршы Анатоль Жураўлёў. Дапамаглі таксама фірма "Шварцкопф і Хэнке", Канфедэрацыя творчых саюзаў рэспублікі, Саюз моладзі Беларусі, Мінгарвыканкам, Дзяржкамітэт па справах моладзі, сам Саюз мастакоў. Журы ўзначаліў мастак Анатоль Кузняцоў, у яго склад увайшлі прадстаўнікі розных відаў мастацтва, а таксама супрацоўнікі галерэй, Музея сучаснага мастацтва, Саюза мастакоў, прадстаўніцтва ААН у Беларусі, Рэспубліканскай мастацкай галерэі. Карацей, кеваванняў пры такім складзе было аж зашмат, спрэчак — таксама. Цікава, што першыя прэміі, устаноўленыя журы, былі цалкам аддадзены работам, якія досыць моцна адрозніваюцца ад традыцыйнага погляду на мастацтва. Той жа К. Селіханаў альбо С. Рымашэўскі, якія атрымалі трэція прэміі, працуюць, скажам так, у межах рэалістычнага мастацтва. Зоя Луцэвіч (жывапіс), Валерыя Малявіна (графіка), якім былі прэзентаваны першыя прэміі, схільныя да авангарднага мастацтва, іх творы — гэта нагрувашчванне нечыкай акадэміі мастацтваў і яе ж маладых выкладчыкаў, стаялі імёны "зялёных" юнакоў). Можна вызначаць рэальныя тэндэнцыі развіцця сённяшняга маладога мастацтва, ацэньваць яго агульны ўзровень і разважаць пра яго будучае.

Асабіста мяне выстава ўразіла буйствам тэм, фарбаў, падыходаў, думак. Асабліва на другім паверсе, дзе суседнічалі жывапіс, графіка і скульптура. На жаль, і тут арганізатары паўтарылі звыклую памылку вялікіх экспазіцый, якая звычайна вытлумачваецца недахопам выставачнай плошчы і жаданнем паказаць усё, што ёсць, без жорсткага адбору. Жывапісная частка была не проста перагружанай — шчыльнасць работ "на квадратны метр" дазваляла разглядаць іх толькі зблізку. Па прозвішчах і каларыце. Таму, скажам, авангарднае палатно А. Жураўлёва гэтак жа не здзіўляла, нават проста не глядзелася, як і спакойныя вытанчаныя каляровыя фантазіі А. Шлегель-Лавецкай альбо каларыстычныя пошукі П. Багданава. Што датычыць рэалістычных пейзажаў, якіх на выставе было толькі некалькі, дык і яны ўспрымаліся чужымі на гэтым свяце. Больш спакойнай падалася графіка. Але асноўная тэндэнцыя тут прачытвалася дакладна — графіка ўсё больш выкарыстоўвае жывапіснасць, адыходзячы ад традыцыйных сродкаў літаграфіі, лінагравюры. Зрэшты, дзеля справядлівасці скажу, што гэта агульная тэндэнцыя не толькі студэнтаў ці выпускнікоў аддзялення графікі Беларускай акадэміі мастацтваў, але і больш сталых майстроў, вядомых графікаў, якія пераключыліся хто на туш і пяро, хто на алоўак, а хто і на акварэль.

Найбольш цэльна глядзелася ў экспазіцыі другога паверха скульптура. Скульптарам у наш час дастаецца найбольш (як і манументалістам). Вялікія формы — раскоша, маладым скульптарам недаступная, матэрыял — дарагі. А спонсараў ці проста мецэнатаў не знойдзеш. Вось і ўсталявалася скульптура малых формаў, якую лёгка захоўваць на паліцы майстэрні і выцягнуць пры жаданні на любую экспазіцыю. Але ўсё ж варта адзначыць, што паказаныя на выставе скульптуры — цікавейшыя фантазіі на самыя розныя тэмы, спробы па-новаму перадаць рух, позу, эмоцыю. З гэтых форм не вырастуць вялікія манументы, але самі па сабе яны значныя для індывідуальнага ўспрымання. У маленькай жа зале дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва было прыемна глядзець на прыгожую кераміку, на фантазійныя пано, шаўкаграфію, асабліва — на габелен, які за



*А. БЯЛОЎ, "Кінг"*

тэльных сімвалаў, незразумелых фантазій. Блізкія да іх і скульптуры Ю. Анушкі (першая прэмія), але ён скіраваны найперш да пачуццёвага, гарманічнага бачання свету. Можна гаварыць пра пэўную тэндэнцыйнасць ацэнкі журы, але ж гэтым яно выказала сваю думку, на якую, безумоўна, як склад прафесіяналаў, мела права.

Але давайце глянем на ўсё гэта інакш. Так, большасць работ на выставе — невыбуховыя, яны звычайныя, а значыцца характэрныя. Затое можна гаварыць пра агульную карціну мастацтва маладых, якая можа быць досыць аб'ектыўнай (узроставае абмежаванне было да 35 гадоў, і побач з вядомымі імёнамі, напрыклад, выпускнікоў Беларусапошнія гады стаўся вельмі цікавым, аб'ёмным і шматколерным. Згадваецца руплівая праца кафедры мадэлявання Беларускай акадэміі мастацтваў, якая зрабіла ўжо не адзін выпуск мадэльераў (а першую прэмію, напрыклад, за авангардны касцюм на сярэднявечныя тэмы атрымала Жана Грак), габеленшчыкаў.

Свята "непаслушэнства" скончылася. Але, спадзяюся, не скончылася наша знаёмства з мастацтвам маладых мастакоў. І нашы сустрэчы з ім стануць частымі, можа, нават штогоднімі.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**
*Фота А. ПРУПАСА*

МУЗЫКА

***Ансамбль флейтыстаў "Сірынкс" добра вядомы сярод музыкантаў і слухачоў-аматараў. Кожнае выступленне калектыву праходзіць з нязменным аншлагам і поспехам. Кіруе ансамблем Ніна Аўраменка, дацэнт Беларускай акадэміі музыкі, вучаніца Уладзіміра Харытонава, з імем якога звязана станаўленне флейтавай школы на Беларусі. У ліку педагагічных дасягненняў Ніны Аўраменкі — шматлікія перамогі яе вучняў на разнастайных конкурсах. Адметным творчым набыткам можна назваць выпеставаны ёю калектыў.***

# "Мая другая сям'я..."



*Ніна АЎРАМЕНКА (у цэнтры) і яе "Сірынкс".*

**— Ніна Васільеўна, раскажыце, калі ласка, як узнікла ідэя стварэння ансамбля "Сірынкс"?**

— Калі я скончыла Беларускую дзяржаўную кансерваторыю і прыйшла працаваць у школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя Івана Ахрэмчыка, дык зразумела: каб зацікавіць дзяцей ігрой на духавым інструменце, неабходна асаблівая форма творчай працы. Яшчэ мой настаўнік Уладзімір Харытонаў казаў: "Ігрaйце, як можна болей ігрaйце!" І я пачала аб'ядноўваць сваіх вучняў у дуэты, трыо, таму што калектыўнае выканальніцтва сапраўды здатнае зацікавіць дзяцей. З тых часоў я не спыняла ў сваёй педагагічнай працы такую практыку. Усе мае вучні прайшлі праз ансамбль. Гэта адыграла станоўчую ролю ў іх далейшай прафесійнай дзейнасці: у тых, хто працуе ў аркестрах, ніякіх выканальніцкіх цяжкасцей не ўзнікае.

**— А чаму менавіта такая назва ў вашага ансамбля?**

— Так называецца старадаўняя флейта Пана. Усім, мабыць, добра вядомая легенда пра прыгожую німфу Сірынкс, у якую закахаўся бог лесу Пан. Хаваючыся ад заляцанняў Пана, яна просіць багіню любві Афрадыту ператварыць яе ў трыснёг. Яго Пан зразае і робіць цудоўную флейту. Было багата варыянтаў назвы новага калектыву, але я прапанавала менавіта "Сірынкс", і мяне многія падтрымалі.

**— Дзе выступаў створаны вамі ансамбль?**

— Мы аб'ездзілі амаль усю еўрапейскую тэрыторыю былога Савецкага Саюза. Выступалі ў Ерэване, Калінінградзе, Шаўляі, Каўнасе, Ленінградзе, Харкаве, Адэсе, Кіеве... З часам наш калектыў атрымаў шырокую вядомасць у Маскве і Пецярбурзе. Неаднойчы выпадала выступаць у Варшаве, двойчы — у Германіі. У кастрычніку мінулага года адзін музыкант паслухаў нас і запрасіў у Германію, арганізаваў шэраг канцэртаў. Гэта краіна з багатымі музычнымі традыцыямі, і высокая адзнака нашага мастацтва там была асабліва прыемная.

**— Якія творы ў аснове рэпертуару "Сірынкса"?**

— Для ансамбля такога кшталту арыгінальнай музыкі не багата. Таму большасць твораў, якія мы выконваем, — гэта пераладжэнні.

**— А хто імі займаецца?**

— Стварае пералажэнні Генадзь Гедыльтар. Калісьці ён працаваў у сімфанічным аркестры, займаўся пералажэннямі для ансамбля "Кантабіле", цяпер робіць гэта і для нас, за што мы вельмі ўдзячныя. Іншы аўтар пералажэнняў — Ларыса Ласоцкая, салістка "Сірынкса". Яна бездамоўны чалавек, працуе на начах, бо днём не хапае часу. І яшчэ робіць пералажэнні наш канцэртмайстар Вадзім Сідараў. У яго абсалютны слых, ён нават ведае, хто павінен іграць тую ці іншую фразу. Гэта — талент. Нам з Вадзімам вельмі пашанцавала. Гэта чалавек найлепшых якасцей, вельмі сціплы, нават празмерна. У выканаўцаў ансамбля з канцэртмайстрам — поўнае ўзаемаразуменне, узаемадавер і ўзаемапавага.

**— Ніна Васільеўна, раскажыце, калі ласка, пра іншых удзельнікаў калектыву. Вядома, што сярод іх нямала лаўрэатаў?**

— Так, амаль усе яны — лаўрэаты розных конкурсаў. І я лічу, што гэта — вынік ігры ў ансамблі.

Ларыса Ласоцкая — лідэр ансамбля, на яе, як на ідэал, усе ўдзельнікі раўняюцца. Я знайшла яе ў Слуцкім раёне, калі Ларыса вучылася ў 4 класе. Ужо сямікласніцай яна стала дыпламантам рэспубліканскага конкурсу. Потым атрымала ІІ прэмію на рэспубліканскім конкурсе, а на міжрэспубліканскім, дзе удзельнічалі 18 музыкантаў з пяці саюзных рэспублік, — першую прэмію, ні з кім не падзеленую! Потым на ўсесаюзным конкурсе стала лаўрэатам ІІ прэміі — гэта першы ў гісторыі Беларусі лаўрэат усесаюзнага конкурсу. У складзе ансамбля Ларыса стала лаўрэатам міжнароднага конкурсу.

Сяргей Картэс — таксама лаўрэат рэспубліканскага, затым міжрэспубліканскага і міжнароднага конкурсаў.

Вікторыя Дрыгіна — лаўрэат рэспубліканскага конкурсу. Арсэн Замтарадзе ў ніякіх творчых турнірах не ўдзельнічаў, а так бы, напэўна, таксама стаў лаўрэатам, бо ў яго выдатны слых, і працаздольнасць, і самае галоўнае — жаданне іграць.

Дзмітрый Стрэльчык нядаўна прыйшоў у "Сірынкс", але арганічна дапоўніў ансамбль. Ён скончыў музычнае вучылішча ў Маладзечне, дзе займаўся ў класе маёй вучаніцы, такім чынам ён — мой "музычны ўнук". Дзмітрый Ушакевіч таксама зусім нядаўна выступае з намі, але я задаволена ягонымі поспехамі. Ён іграе на альтовай флейце, флейце-пікала.

**— Як склаўся творчы лёс тых музыкантаў, якія раней выступалі ў складзе "Сірынкса"?**

— Аляксандр Груздзеў, лаўрэат усесаюзнага конкурсу, іграе цяпер у ансамблі "Харошкі". Андрэй Цераxаў працуе ў аркестры Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі. Вячаслаў Помазаў — у Дзяржаўным народным аркестры. Мне заўсёды вельмі шкада развітвацца з маімі вучнямі, і гэта ўзаемна...

**— Ніна Васільеўна, у кожнага ўдзельніка ансамбля свой характар, свой музычны тэмперамент. Як вам удаецца дамагчыся арганічнасці і еднасці калектыву?**

— Мне зусім не цяжка. Усе музыканты вельмі паважаюць адно аднаго, любяць нашу справу — а гэта галоўнае. Цяжкасці ў іншым: спалучэнне розных тэмбраў. Сам інструмент ставіць перад выканаўцамі праблемы, бо вядома, што флейта — самы фальшывы інструмент, самы няўстойлівы з усіх іншых інструментаў сімфанічнага аркестра і адразу ж адгукаецца на ўсе "ваганні атмасферы".

У кожнага музыканта свой тэмбр, але ж у ансамблі гэта не адчуваецца — такі вынік цяжкай працы над дасканаласцю гуку.

**— Цікава, якія вашы апошнія наказы музыкантам перад іх выхадам на сцэну?**

— Вы будзеце смяяцца: кулак, вялізны кулак! Калісьці Яўген Віданаў, адзін з першых удзельнікаў "Сірынкса", сказаў: "Ніна Васільеўна, ваш кулак трэба было сфатаграфаваць і павялічыць разоў у дзесяць. Паверце, гэта дзейнічае вельмі спраўна". Ну, а словы — кожны раз розныя. Ды і вучні самі разумеюць, што калектыў з добрай рэпутацыяй не мае права граць дрэнна. Усімі імі кіруе велізарнае пачуццё адказнасці.

**— Вы хваліцеся падчас выступлення сваіх вучняў?**

— Вельмі! І не магу з гэтым справіцца. Некаторыя вучні нават не маглі іграць, калі бачылі мяне ў зале, бо гэтае хваляванне ім перадаецца.

**— Ніна Васільеўна, у вас застаецца вольны час?**

— Я вельмі нудзілася б, калі б у мяне было яго шмат. Усе нашы рэпетыцыі — у "вольны" час, працую ў суботу, у нядзелю. Але гэта — маё сапраўднае жыццё. Я шчаслівы чалавек, бо займаюся любімай справай, маю цудоўных, апантаных музыкай вучняў. Усе яны — мая вялікая сям'я, мае дзеці. Я лічу, што не дарэмна жыву, калі ў мяне такія вучні. І спадзяюся, што мая любоў да іх узаемная.

**— Вельмі ўдзячная вам за гутарку і зычу новых поспехаў, далейшых творчых дасягненняў і перамог вам і калектыву "Сірынкс".**

**Святлана ВЫСОЦКАЯ,**
**студэнтка БАМ**

## З былых лімаўцаў

АЛЕСЮ БАЖКО — 80



**Радзіма Аляксандра Цімафеевіча — вёска Даўгінава Карэліцкага раёна. Нарадзіўся будучы пісьменнік у сялянскай сям'і. У 1936—1938 гадах вучыўся ў музычным інстытуце імя С. Манюшкі ў Навагрудку, а пасля — у Варшаўскай кансерваторыі. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі працаваў дырэктарам Мірскага РДК, быў прызваны ў армію. У час Вялікай Айчыннай вайны ў 1942 годзе пад Ельняй параніла, працаваў на мірным будаўніцтве.**

**А. Бажко прымаў удзел у стварэнні першых баявых адзінак Войска Польскага на тэрыторыі Савецкага Саюза ў якасці генеральнага інструктара прапаганды Валагодскага акруэкнога ўпраўлення Саюза польскіх патрыётаў.**

**Пасля вызвалення Беларусі быў інструктарам Баранавіцкага абкама камсамола, першым сакратаром Дзятлаўскага райкама камсамола. У снежні 1945 года свой лёс звязаў з журналістыкай. З'яўляўся літаратурным супрацоўнікам баранавіцкай абласной газеты "Чырвоная змена", абласнога радыё, працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет "Савецкі селянін", "Чырвоная змена", у маладзечанскай абласной газеце "Сталінскі шлях". Завочна скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага (Масква, 1955). У 1956 годзе стаў карэспандэнтам, потым загадчыкам аддзела пісьмаў газеты "Літаратура і мастацтва". З 1959-га — у рэдакцыі газеты "Голас Радзімы", намеснік галоўнага рэдактара. З 1962-га па 1970 год быў загадчыкам рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва "Беларусь", пасля чаго зноў вярнуўся ў "ЛіМ" — намеснікам галоўнага рэдактара. У 1973—1977 гадах — дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы, а ў 1977-ым — 1978 гадах — галоўны рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі і намеснік начальніка Упраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР.**

**Свой творчы шлях Аляксандр Цімафеевіч пачаў у 1945 годзе з нарысаў і нататкаў, а першыя вершы апублікаваў праз два гады. Аўтар кніг паэзіі "Карвіга пакідае хутар", "Татры", "Паэмы", "Блакітныя вербы", "Суладдзе" і іншых. Выдаў кнігі прозы "Перад вераснем", "Позняе ворыва", "Лясныя крушні", "Жывыя прывіды", зборнік нарысаў і памфлетаў "Татальнае банкруцтва". Перакладае з польскай і славацкай моў.**

**Віншуем Аляксандра Цімафеевіча з 80-годдзем! Зычым юбіляру доўгіх год жыцця і новых творчых поспехаў!**

## Цікавая сустрэча

**Ёсць у Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь унікальная вайсковая ўстанова: кіналагічны цэнтр... Далёка не ўсе ведаюць пра яго існаванне, а многія нават не здагадваюцца, што хаваецца пад гэтай назвай.**

**Упершыню пазнаёмілася з кіналагічным цэнтрам і група беларускіх пісьменнікаў, якая наведала яго на мінулым тыдні.**

**Цэнтр размяшчаецца недалёка ад Мінска, у маляўнічай ляснай мясціне. Менавіта тут займаюцца развядзеннем і выхаваннем службовых сабак для беларускага войска. Гасцінныя гаспадары паказалі пісьменнікам усю сваю гаспадарку, прадэманстравалі, як рознапародныя аўчаркі выконваюць свае складаныя абавязкі: затрымліваюць парушальніка, лёгка пераадольваюць перашкоды, мужна кідаюцца нават на агонь "працаўніка"...**

**Потым невялікі дружны калектыў кіналагічнага цэнтра ў сваім клубе слухаў выступленні пісьменнікаў Алеся Махнача, Алеся Савіцкага, Анатоля Сульянава і Яўгена Каршукова. Сустрэча прайшла плённа і цікава.**

**Я. ІВАНОЎ**

# У пошуках залатога ключыка

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Але ж ён, пры ўсіх сваіх шчыльных стасунках з "буржуямі", спадчынна схільны, хоць і абачліва хавае гэта, да добра вядомай нам дзіцячай хваробы "левізны". Таму і атрымаў дружную падтрымку ад расійскіх думцаў-камуністаў. Ды рэцыдывы гэтай надзіва жывучай хваробы абсалютна непрымальныя для галоўных "урачоў" расійскага крызісу. Хоць новы прэм'ер — вельмі ўплывовая і самадастатковая палітычная фігура, прычым не толькі ў расійскім маштабе, на нашу думку, ён спатрэбіўся часова, як кампрамісны палітык у якасці громаадводу ў выбуханебяспечнай атмасферы расійскага грамадства. У гэтым і пэўная мудрасць рэальных гаспадароў Расіі, якія хутка набіраючую моц інфекцыю новай рэвалюцыі лечаць радыкальнымі левымі прышчэпкамі.

Калі ж небяспека сацыяльнага выбуху міне, знікне і патрэба ў найасцярожнейшым Прымакове з вельмі адметным і сумным воблікам сяброўкі Бурацiна — мудрай чарапахі Тарцілы. Праўда, такога кшталту "часовасць" можа працягнуцца аж да новых "дэмакратычных" выбараў расійскага прэзідэнта...

VI

Яшчэ адзін вельмі каларытны персанаж расійскага палітычнага шоу сам на "царскі трон" не прэтэндуе. Пакуль што ён задаволіўся пасадаю выканаўчага сакратара СНД і, бы тая ліса Аліса, у асноўным займаецца творчым забеспячэннем палітычных аперацый. Гэты чалавек — адзін з не вельмі многіх, хто знайшоў-такі ў гэтай краіне сваё "поле цудаў". Яго вылучае надзвычай эфектыўны палітычны нюх, можа, і не такі выкшталцоны, як у шаноўнай Алісы Патрыкееўны, але здольны выдатна адрозніваць усялякія, нават самыя нязначныя водары расійскіх палітычных вятроў.

Аналітыкі не выключаюць сёння, што гэты, як яго называюць расійскія газеты, Рышэльё з ЛагаВАЗа, пачаў скрупулёзна рыхтавацца да канчатковага ўзяцця сваёй "Ла-Рашэлі", ужо нават падабраўшы туды свайго "каменданта". І яго, як мы ўжо пісалі, наўрад ці можна аднесці да сардэчных сяброў нашага кіраўніцтва, тым больш да сяброў Беларусі, як незалежнай краіны. Гэты палітык, як і яшчэ адзін слынны "рускі" патрыёт — "сын юрыста", бачыць у перспектыве нашу краіну не болей як адну з губерняў на заходніх межах Расіі...

Усе вышэйзгаданыя палітычныя персанажы, плюс дурымары, што хацелі як лепш, а атрымалася як заўсёды, плюс "яблычныя" артамоны, што "не паступаюцца" няўцямнымі прынцыпамі, і іншыя вельмі нагадваюць сваімі сённяшнімі паводзінамі адну цудоўную сцэну з "Прыгодаў Бурацiна", калі над ложкам Бурацiна вызначаўся дыягназ ягонай хваробы. Як і тыя, лекары, гэтыя расійскія палітычныя "эскулапы" не ў стане дакладна вызначыць — жывы ці мёртвы іхні пацыент і, акрамя касторкі, іншага сродку лячэння не ведаюць. Тут толькі можна паспачуваць сусе-дзям!

Зразумела, што на дадзеным этапе яны ўсе разлічваюць адсядзецца за разважлівай спіною наймудрэйшага Прымакова, які сёння воляю лёсу аказаўся захавальнікам "залатога ключыка". Мажлівая часовая адтэрміноўка новай рэвалюцыі дае ім магчымасць завяршыць сваю тытанічную працу па канчатковым падзеле як расійскай маёмасці, гэтак і самой расійскай дзяржавы. Што з таго Беларусі? Ды такога кшталту імпэт аніяк не стасуецца з імпэтам інтэграцыйным. Хутчэй за ўсё, кампанія па стварэнні новага саюза, адрозна ад нашых шчырых "аншлюсаўцаў", патрэбна гэтым расійскім Герастратам, як банальнае прыкрыццё сваіх сапраўдных планаў...

VII

Асноўны парадокс сучаснай палітычнай сітуацыі, калі Беларусь, воляй-няволяй, прывязана да Расіі, заключаецца ў тым, што не ўсе ворагі адзінства Расіі з'яўляюцца нашымі сябрамі, як і не ўсе заўзятары "единой и неделимой" — ворагамі. Але менавіта на супярэчнасцях галоўных расійскіх палітычных кланаў і мусіць будавацца сучасная палітыка Беларусі. Празмерная стаўка на любы з іх у такой няўстойлівай сітуацыі вельмі ж рызыкоўная. Час пакажа, хто там нашы сапраўдныя сябры, калі яны там увогуле ёсць, а хто — уяўныя.

Нездарма ж заклікае мудрая Кніга Кніг сцерагчыся ваўкоў у авечай шкуры. Пагардліва лічачы нашу краіну "краінаў дурняў", некаторыя "ваўкі" з усходу імкнуцца зноў стварыць з нашых шматпакутных палеткаў "поле цудаў" і нашымі ж уласнымі рукамі збіраць "з цярноўніка вінаград". У горшым выпадку — зацягнуць разам з сабою ў бездань. Хоць і тлумачыцца далей у Біблії, што "па пладах іх пазнаеце іх!", але гэта наўрад ці можа супакоіць. Калі тыя "плады" даспеюць, то для нас можа быць ужо позна нешта змяніць. Сёння ж — час яшчэ ёсць...

# Рытуальная злосць ідэальнага крытыка

*(Працяг. Пачатак на стар. 6—7)*

**І. Шаўлякова.** Я якраз летам чытаю многа. Напрыклад, нарэшце прачытала аповесці Юры Станкевіча "Прузі" і "Збіральнік страху". Запомніліся аповесць Віктара Казько "Да сустрэчы...", зборнік "Тазік беларускі", Шніпавы "Сляды самотнасці" ў "Крыніцы", аповесць Міколы Купрэева "На вуліцы Карла Маркса з паэтам", "Фрэскі" Барыса Пятровіча.

**П. Васючэнка.** Малайчына. Добры чытач.

**Л. Рублеўская.** Агульная бяда нашай крытыкі — боязь называць канкрэтныя прыклады, імёны, творы. Усе мы хворыя этыкай. Сыходзім з этычных меркаванняў. Каб, назваўшы, каго не пакрыўдзіць.

**І. Чарота.** Тут справа ў іншым. Сённяшняя размова мае сваю задачу, свой жанр. Гаворачы, мы намацваем тыя балючыя кропкі, якія ёсць у нашай літаратуры і пра якія варта гаварыць у крытыцы як самасвядомасці літаратуры. Не наша задача — іх вылечыць, прыкласці на іх пластыр ці зрабіць масаж. Мы павінны вызначаць, намацаць іх. З гэтай задачай мы, здаецца, спраўляемся.

**І. Шаўлякова.** Карацей, варта перакваліфікоўвацца ва ўпраўдомы.

**І. Чарота.** Ну яшчэ, можа, і паспееце, а нам позна ўжо. Ёсць яшчэ адна прыгожая перспектыва, на якую адважыцца — адвагі не хапае. Паехаць у вёску, сядзець у сваёй хаце і рабіць спаконвечную справу свайго роду.

**П. Васючэнка.** Гэта ўсё, выбачайце, інтэлігенцкія бздуры.

**І. Чарота.** Так і ёсць. Але да пэўнага моманту.

**І. Шаўлякова.** Развагі Манілава: тут мост паставім, а на мосце мужычкі гандляваць будуць. Некаторыя ж пісьменнікі перабіраліся ў вёску, а потым і вярнуліся.

**І. Чарота.** Ну, не ўсе. Дамашэвіч дасюль жыве, працуе. Не адчувае сябе ні героем, ні пісьменнікам другога гатунку.

**І. Шаўлякова.** Спадар Леанід, я была адзіная, хто паддаўся на вашу правакацыю назваць прачытаныя творы. Шчыра, па-вучнёўску трымала іспыт.

**Л. Галубовіч.** Бо ніхто ж не будзе чытаць гэтую гутарку за кавай, калі там не будзе названа хоць некалькі імёнаў. Не мае значэння нават, у адмоўным плане ці ўхвальна.

**І. Шаўлякова.** Яшчэ як будуць! "Клюнуць" на ваша імя, спадар Лявон. Помнячы пра згаданую вамі зацемку, паспадзяюцца, што вы тут будзеце кагосьці пералічваць.

**І. Чарота.** У такім выпадку, скажу я і пра прачытанае. Вам невядома імя гэтага пісьменніка. Гэта мой студэнт, "афганец", у яго пераважае афганская тэма — Саша Крыванос. Добрыя апавяданні надрукаваў у "ЛіМе", у "Нёмане". Дарэчы, калі тут закруцілася размова пра мастацкую вартасць ідэалагізаваных твораў, я ўспомню адзін эпізод сваёй біяграфіі. Калі я канчаў дзесяты клас і лічыў сябе разумным, у школе ў чытацкім клубе прапанавалі абмеркаваць "Сэрца на далоні" Шамякіна. Рабіць даклад даручылі мне. І вось я ішоў вечарам у суседнюю вёску да знаёмай дзяўчыны, і ісці было далёка, і разважаў пра гэты раман. Каб ён не кранаў мяне, я б над ім ніколі не разважаў. Натуральна, я не разважаў пра вобраз сакратара райкама. І бачыў я ў гэтым творы такія сэнсы, такія зместы — мастацтва.

**П. Васючэнка.** Вы ж самі гаварылі, што часам крытык прыдумляе больш за пісьменніка.

**Л. Галубовіч.** О, што значыць творцу натрапіць на свайго творчага крытыка!..

**П. Васючэнка.** Ніколі гэта не ўплывае на лёс твора.

**Л. Галубовіч.** Колькі розных "нобелеўцаў" выйшла ў свет дзякуючы таму, што трапілі на свайго "крытыка!" Быкаву, напрыклад, пашанцавала з Дзядковым.

**П. Васючэнка.** А ты на вуліцу выйдзі і спытай: хто такі Быкаў і хто такі Дзядкоў.

**Л. Галубовіч.** Што ты заўсёды апускаешся да гэтай вуліцы? Плюнь ты на яе і размаж! Я заўсёды з пагардай гляджу на плебс. Таму што я паэт і, магчыма, творца.

**П. Васючэнка.** Няпраўду гаворыш, Лявон.

**Л. Галубовіч.** Я ж не кажу, што я буду страляць кагосьць там. Гэта ўнутраная рэакцыя на сённяшні час. Я з "презрением" гляджу на гэты "электарат".

**І. Чарота.** Так нельга гаварыць. Не гавары так. Ты сам так не думаеш.

**Л. Галубовіч.** Я, вядома, не да ўсіх так стаўлюся. Калі, напрыклад, мне насустрач ідзе Чарота ці Гілевіч — іншая справа. Але я нават па твары бачу, ці заслугоўвае чалавек маёй высокай пра яго думкі.

**І. Чарота.** Ну, па твары, да канкрэтнай асобы — ты можаш адчуваць "презрение". А да ўсіх... Не думаю.

**І. Шаўлякова.** Мы любім усё чалавецтва, акрамя суседзяў па кватэры.

**І. Чарота.** Пазіцыя пушкінская: паэт і чэрнь. Вельмі небяспечная.

**Л. Галубовіч.** Ды кожны сапраўдны творца ў душы адчувае тое самае.

**Л. Рублеўская.** Але ж ніхто не гаворыць пра гэта па-за творамі.

**І. Чарота.** Я магу зразумець, калі такое вырываецца ў роспачы, ад адчаю.

**Л. Галубовіч.** Ды вазьмі рускіх паэтаў, Лермантава таго ж... А наш Купала? Што наш Купала для замежжа?! Пусты гук. А калі ты прыедзеш за мяжу і назавеш імя Шаўчэнкі — гэта ўжо "да!"

**І. Шаўлякова.** А вось Быкавым вы б зараз у замежжы пахваліліся, хоць вы яго і не любіце.

**Л. Галубовіч.** Тут рэч не ў любові, а ва ўспрыманні тэкстаў. Гэта ваша віна, крытыкаў, што Купалу ў свеце мала ведаюць. Ці Купалава? Увогуле нас цяпер ні ў Еўропе, ні ў Расіі не ведаюць. Супрацоўнічалі б вы хоць з расійскімі выданнямі, там, дарэчы, ганарары добрыя плацілі.

**П. Васючэнка.** А я вось даклад пра Купалу напісаў. А ты што зрабіў?

**Л. Галубовіч.** А што я павінен рабіць? Я — пішу сваё...

**П. Васючэнка.** Я таксама магу сказаць, што я — чысты празаік, і пісаць буду толькі прозу.

**І. Чарота.** Мы не павінны пераацэньваць свае функцыі ў дакладах. Нават робячы, друкуючы даклады ў замежнай прэсе, не маеш усведамлення значнасці таго, што робіш.

**Л. Галубовіч.** Я думаю, што ў нашых паэтаў таму няма іміджу за мяжой, што іх не "раскручваюць". Сыс столькі начмурыў, а Адамовіч столькі насядзеўся — і не дапамагае. І абодва ж класныя паэты!

**П. Васючэнка.** Вось і паехаў бы ты ў Еўропу, раскручваць іх.

**Л. Галубовіч.** Ды што мне твая Еўропа! Я нідзе не быў за мяжой. Трэба долары і пэўныя сувязі...

**П. Васючэнка.** Дык што ты тады хочаш?

**Л. Галубовіч.** Я хачу, каб Беларусь была такой, каб у мяне і думкі не з'яўлялася з яе выязджаць. Ты мне лепш скажы, чаму ты не зрабіў з Сыса і Адамовіча вядомых у свеце паэтаў?

**П. Васючэнка.** А чаму я з некага павінен нешта рабіць? Я лепш з сябе зраблю.

**Л. Галубовіч.** А вось, за мяжой умеюць зрабіць з г... кулю, а ў нас выдатнага паэта няма каму "раскруціць". Пра Купрэева я напісаў, што змог. А ад Сыса ўсе адвярнуліся, адвялі яму неадэкватнае месца. Можа, таму ён так сябе і паводзіць. Гэта доля не для слабых...

**І. Чарота.** Ты да Сыса чула ставішся, я таксама чула да яго стаўлюся, лічу выбітным талентам, але ён атрымаў у жыцці дастаткова, другія атрымлівалі менш. Гэта не апраўданне яго паводзінаў.

**Л. Рублеўская.** Вось вам і крытэрыі мастацкай вартасці! Не можаце пагадзіцца на ацэнцы адной творчай асобы!

**І. Чарота.** А пры чым тут мы? Усё вырашыцца без нас.

**Л. Рублеўская.** Ну вось і аптымістычная выснова на канец нашай гаворкі. Паспадзяёмся ўсё-ткі, што ўсё вырашыцца на карысць таго, што кожны з нас лічыць ісцінай, няхай кожны з нас і фармулюе яе па-свойму.

*10.09.98*

ВІНШУЕМ!

# Адраджэнец

## Янку САЛАМЕВІЧУ — 60



Ёсць постаці, што ў рэтраспектыве гістарычнай ці ў рэальнасці недалёкай, у перспектывах сённяшняга дня выдаюць для мяне ўвасабленнем нацыянальнага, беларускага, у лепшых, разматых выяўленнях. Францыск Скарына, Янка Купала... Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі... Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў... Варлен Бечык, Генадзь Каханоўскі...

Постаці розныя, featured разнага творчага маштабу, аб'ядноўвае ж іх глыбінная сутнасць, стрыжнявы пачатак, адчуванне агульначалавечага і свайго: сваёй глебы, свайго неба. А яшчэ — гэта немітуслівая, без пыхі і фанабэрыі, без імкнення скарыстаць усё для ўласных патрэб, любоў да радзімы.

Як і ў тых, што сёння побач з намі: у Янкі Брыля і Васіля Быкава, Алеся Разанава і Уладзіміра Конана, Міхася Тычыны і Міхася Чарняўскага... Як у Янкі Саламевіча. Размова — пра яго.

Энцыклапедыст — і паводле заняткаў, і паводле прызвання. Паводле дадзенага Богам і паводле выснаванага ўсім ладам жыцця. Літаратура, фальклор, этнаграфія, кніжная і бібліяграфічная справы.

Стыль мыслення, якому ўласцівыя жорсткая дысцыпліна думкі і натхнёная зацікаўленасць, шырокі дыяпазон ведаў і глыбіня асэнсавання, грунтоўнасць аналізу і ўменне вызначыць адметнасць літаратурнай ці культурнай з'явы, індывідуальныя рысы творчай асобы.

Старонка-дзве машынапіснага тэксту — персаналіі энцыклапедыі. Некалькі старонак — характарыстыкі найважнейшых з'яў, панняццяў, вызначэнняў тэрмінаў і экспплікацыі катэгорый літаратурнага працэсу. Тое ж — у дачыненні фальклору, этнаграфіі, мастацтва і датычных з пункту погляду гісторыі і гісторыі гэтых дысцыплін: філасофіі, мовазнаўства, псіхалогіі і г.д., і галін чалавечай дзейнасці: кнігадруку, бібліяграфіі, бібліятэчнай справы, журналістыкі.

Усім вядома, што энцыклапедычны артыкул уяўляе сабой сумарны вынік навуковых даследаванняў, па магчымасці — гэта найбольш аб'ектыўная інтэрпрэтацыя даведкі. І калі ўлічыць, колькі вульгарызаваных тлумачэнняў зведалі нашы навука, літаратура, мастацтва, колькі белых плям і інфармацыйных правалаў існавала, як складана было вызначыць аб'ектыўны змест і сэнс шматлікіх паняццяў і з'яў, вярнуць з небыцця многае з культурнага скарбу народа, дык афіцыйнае прызнанне: узнагарода Дзяржаўнай прэміяй выдаўцоў БелСЭ — адчувальна выглядае толькі часовай узнагародай працы, разлічанай на доўгі век.

Янка Саламевіч — з таго калектыву. Лаўрэат. Неймаверна шмат зрабіў як рэдактар, як аўтар увёў у навуковы ўжытак многія навуковыя матэрыялы: пра Ф. Багушэвіча, Я. Лучыну, Я. Купалу, М. Багдановіча, Я. Коласа, М. Гарэцкага, Г. Леўчыка, З. Верас; пра фалькларыстаў Р. Зяньковіча, М. Федароўскага, П. Дземідовіча, Ч. Пяткевіча і інш.

Працуючы над літаратурнай і фальклярыстычна-этнаграфічнай спадчынай, Янка Саламевіч уважліва сочыць за сучаснай літаратурай, літаратурна-культурным працэсам. І ўмее заўважыць, даць ацэнку літаратурным з'явам і фактам, творчым асобам — розным і часам, здавалася б, досыць далёкім ад яго даследчыцкіх памкненняў. Умее — падтрымаць, спакойна, без галасу, без мітусні.

...Я асабліва падкрэсліваю аўтарскую і рэдактарскую дзейнасць Янкі Саламевіча ў энцыклапедыях і энцыклапедычных слоўніках. Не толькі таму, што за адной-дзвюма старонкамі — гады працы, а яшчэ і з той прычыны, што аб'ектыўная, прадуманая інфармацыя ў выданнях, разлічаных не на адно пакаленне — факт неацэнны. Інфармацыя, што не губляе сваёй сэнсавай каштоўнасці з цягам часу, не старыцца на вачах. А такое здараецца — у энцыклапедычных слоўніках, асабліва там, дзе скараспелыя, няпоўныя і няпэўныя (напросту недакладныя) артыкулы нясуць на сабе відавочныя адзнакі і неахайнасці, і суб'ектывізму ў ацэнках, зусім нармальнага ў іншых літаратурных допісах, але, мякка кажучы, наўрад ці карысная ў даведачным выданні.

Назапашаныя веды, фальклорныя матэрыялы, архіўныя знаходкі — усё гэта Янку Саламевічу прыдаецца ў яго асветніцкай дзейнасці, у практыцы выданняў папулярных кніг, календароў, фальклорных зборнікаў. Талент вучонага і літаратара дае Янку Саламевічу магчымасць распавесці пра самыя розныя з'явы і розных людзей: дакладна, сцісла, ярка ён расказаў і пра Мінскае таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, пра першую пастаноўку "Паўлінкі", пра "Лексікон" Памвы Бярынды, пра фалькларыста і этнографа Міхала Федароўскага, таго самага, жыццю і дзейнасці якога Янка Саламевіч прысвяціў сваю манаграфію, пра мовазнаўцу, фалькларыста і пісьменніка Фёдара Янкоўскага, пра фалькларыста і этнографа П. Кірэеўскага, пра польскага дыялектолага і фалькларыста Эдварда Кліха, пра... Усё не пералічыць.

Янка Саламевіч піша пад сваім прозвішчам і пад шматлікімі псеўданімамі, расшыфроўка якіх, мабыць, яшчэ наперадзе. Сам жа Янка Саламевіч, ці не таму, што на памяці яго класічны і першы вопыт старажытнага грэка Калімаха, які склаў папярэдніцу ўсіх літаратурных энцыклапедый — "Табліцы тых, хто праславіўся ва ўсіх галінах ведаў, і таго, што яны напісалі" — выдаў і, зразумела, зрабіў унікальны, першы і пакуль адзіны на Беларусі "Слоўнік беларускіх псеўданімаў".

Даследчык сур'ёзны і натхнёны, Янка Саламевіч склаў анталогію "Беларуская балада", даў нам магчымасць больш поўна пазнаёміцца са спадчынай Гальяша Леўчыка — у кнізе "Доля і хлеб", М. Арла — "Лірнік" і г. д. Адзінае на Беларусі выданне скорагаворак зроблена таксама ім — як адзін з падрахункаў заняткамі фальклорам. А яго "Беларускія загадкі" — узор цікавага і прадуманага адбору назапашанага за гады практыкі: вывучэння народнай творчасці.

Да сваіх культурных набыткаў Янка Саламевіч нястомна далучае іншых — не толькі кніжнай, часопіснай, газетнай практыкай, але і асветніцкімі намаганнямі, выкладчыцкай працай.

Далучыў ён да літаратурнай, асветніцкай працы і сваіх дзяцей: Вераніку і Аляксандра Саламевічаў, што вядуць важныя тэматычныя раздзелы ў часопісе "Роднае слова": філалогія, літаратурны партрэт, літаратурныя сувязі — Вераніка; методыка і вопыт, у скарбонку настаўніка, на ростанях, з архіваў часу — Аляксандр. Працуюць яны з імпэтам, з настроем, нягледзячы на цяжкасці апошняга часу. Як і верная спадарожніца, сябар, знаўца беларускага слова — жонка Ніна. Такі вось сямейны "ансамбль".

А выбар дзяцей Янкі Саламевіча — ці не самае яркае сведчанне яго педагагічнага таленту, які ён спрыяе ў нашай агульнай з ім alma mater: Беларускім дзяржаўным універсітэце. Некалі мы прыйшлі ў адзін год, на адзін курс. Побач з Янкам Саламевічам былі Варлен Бечык, Генадзь Шупенька, Уладзімір Машкоў... І для ўсіх нас не пустым гукам было Бадлерава: "Да, колыбель моя была библиотека, пыль, вавилон томов, пергамент, тишина..." (Даю ў рускім перакладзе М. Гумілёва, не маючы адэкватнага французскаму беларускага аналага.) Мы ўсе, свядома ці падсвядома, існавалі ў сферы няўлоўных сувязяў і пераўтварэнняў, чараў мары і рэчаіснасці, у мроях фантазій і ідэй, у казачных царствах Магчымага і Немагчымага... Мы валодалі сваімі наўнымі сакрэтамі і мелі трапяткі давер да таго, пра што на латыні мовілі: "Intelligenti pauca" (Таму, хто разумее, няшмат трэба [каб зразумець]).

Мы верылі ў гордыя дэвізы, у сваю светлую (не інакш) будучыню, мы прагнулі радасці творчай. Мы хацелі спазнаць, скарыстаць свой шанц стварэння (созидания), ажыццявіць свой спосаб быцця, вызначыць свой абсалютны ідэйны імператыў.

У прапанаваных гістарычных абставінах, у прапанаваных лакальных дэкарацыях...

Янка Саламевіч выявіў тыя магчымасці канкрэтна, поўна, ясна. Памятаючы пра "здабыванне пірамід з глыбінь уласнага духа" (В. Мандэльштам), пра старажытныя ідэалы свайго народа, пра бясконцасць сцвярджэння і адмаўлення, пра неаспрэчную пераемнасць думак. Пра мудрасць і боль нацыі. Ад якой ён — неад'емны. Беларус. Адраджэнец. Асоба. Не з тых, што наўскапыта прапіхваюцца ў героі. З тых, што спакойна, з дня ў дзень, з году ў год — робіць сваю справу. Нашу справу. Працягваючы лепшыя традыцыі беларускіх культурнікаў, асветнікаў.

І дзякуючы намаганням і працы такіх людзей, як Янка Саламевіч, мы гаворым: "Жыве Беларусь!"

**Ала СЯМЁНАВА**

# Іскрынка з берасцейскага вогнішча

## Міколу ПРАКАПОВІЧУ — 50

Гэтая кніга, выдадзеная ў канцы 70-х, была падобна на раннюю дружную вясну. А называлася яна — "Нашчадкі". Ажно семнаццаць маладых творцаў сабраў пад адной вокладкай Рыгор Барадулін — і ўкладальнік, і рэдактар выдання. У букецікy першых пралесак ніколі не цесна. І сярод аўтараў "Нашчадкаў", акрыленых словам, вельмі розных па голасе і почырку, таксама ніхто нікому не замінаў.

Я жыў тады ў Брэсце, таму мяне асабліва ўзрадавала, што ў зборнік з першымі паэтычнымі кніжкамі трапіла цэлая кагорта берасцейцаў — Ніна Гарагляд, Мікола Трафімчук, Алесь Каско і Мікола Пракаповіч.

Два дзесяцігоддзі — ладны кавалак часу. На шмат якія даўнейшыя літаратурныя захапленні глядзіш цяпер з паблажлівай усмешкай. Перад тым, як сказаць гэтае слова, я перачытаў Пракаповічава "Белую вежу". Назва, канечне, не з лепшых: занадта ілюстрацыйная. Ну, а вершы, пра славуты Камянецкі стоўп (летапісны назоў) і менш славутую Брэсцкую крэпасць, нястрымным пафасам нагадваюць братоў-блізнюкоў. Побач з імі — творы зусім іншага гучання і напаўнення. Такіх набярэцца добрая жменя, яны запомніліся адразу, яшчэ з першапублікацыі.

*Хадой нетаропкай, звыклаю —*
*Ад радасці да бяды.*
*Марудна ў журбе вы цікалі,*
*А ў шчасці спяшацца куды?..*

("Ходзікі")

*А тут, як вогненны сполах,*
*Скакаў мігатлівы цень.*
*Круціла вавёрка кола:*
*Ноч — дзень...*
*Ноч — дзень...*

("Кола")

*Язычнік я. Другой не маю веры.*
*І, заваражаны, гляджу,*
*Як тонкае лязо аеру*
*Бліскае ў кропельках дажджу.*

("...Язычнік я")

Найперш мяне кранае ў працытаваных радках інтанацыя. Стрыманая, ні кропелькі не падфарбаваная жаданнем выказацца як мага эфектней, прыгажэй. Затое, на мой погляд, тут прысутнічае "Свет таемны — няма пачатку, Свет бязмежны — няма канца..." і ўважлівае прыслухоўванне да сваёй душы, якая нястомна спасцігае ці, дакладней, імкнецца спасцігнуць прастору і час, вызначыцца з каардынатамі ўласнага быцця.

У наступную кнігу "Неад'емнае" (1982), акрамя вершаў, М. Пракаповіч уключыў і невялічкую аднайменную паэму, дзе паспрабаваў вярнуцца з казачна-песеннага залітаратуранага Палесся на Палессе рэальнае, што на вачах ператваралася ў чужы пустэльны край, збольшага прыхарошаны клубнай этнаграфічна-фальклорнай самадзейнасцю. Кароткія раздзелы паэмы, яе каларытныя сцэнкі з палескага вяселля, глухія маналогі знявечанай прыроды і аўтарскія маналогі толькі на першы погляд зніталыя народнай песняй, а на самай справе пранізаны стралою меліярацыйнага канала. Пачынальнікам жа экалагічнага руху можна лічыць хіба дзеда Змітра, які ў спрэчцы з маладзёнам ("Нам загадана капаць — Вось мы і капаем") адказвае: "Солі б вам усім на хвост — Духу малавата". Што духу сапраўды ў нас бракуе, неўзабаве выявіў і жудасны Чарнобыль. Слабы нямоглы дух не дасць паратунак хворай зямлі. Вось дзе вузел усіх нашых бедаў і няшчасцяў.

Апошнія дзве кнігі М. Пракаповіча "На свае кругі" (1986) і "Мяжа надзеі" (1993) прысвечаны менавіта вытокам, радаводным караням, спазнаўшым няўмольную сякеру братоў-суседзяў і сляпую абыякавасць тых, каму належаць яны. І нездарма "Мяжа надзеі" была адзначана прэміяй года выдавецтва "Мастацкая літаратура".

А як не згадаць тут, хоць у некалькіх словах, і тэлевізійную творчасць майго друга. Колькі за чвэрць стагоддзя працы на Брэсцкай абласной студыі ён стварыў цудоўных пранікнёных фільмаў пра мастакоў і народных майстроў, пра захавальнікаў незамутнёнага аўтэнтычнага фальклору. Мне адразу згадваецца фільм пра Міколу Вайцяхоўскага — кіраўніка народнага хору. Зняты ў пачатку 80-ых, гэты фільм потым шмат разоў паказваўся па ўсесаюзным тэлебачанні і кожны раз зачароўваў мяне кволым дзіцячым галасам старэнькай матулі, якая разам з сынам спявала колішнія песні. Такое сапраўды не забываецца, наварочвае на вочы светлыя слёзы.

Узгадаваны каля берасцейскага літаратурнага вогнішча, вартавым якога доўгія гады быў незабыўны Уладзімір Калеснік, Мікола Пракаповіч сам цяпер клапоціцца пра юную паэтычную змену, гуртуе вакол сябе пачаткоўцаў, бласлаўляе іх першыя публікацыі ў мясцовым і сталічным друку. Інакш — нельга, калі не на словах верыш, што "мы з табой як рэкі, мы — працяг", калі разумееш:



*Адзіны на свеце грэх —*
*Здрадзіць сабе самому.*

("...Б'ёмся як рыба аб лёд")

А на заканчэнне я хачу нагадаць табе, дарагі дружа, што дзед твой Гальяш, які "браў скрыпку сваю неразлучную пры кожнай вясёлай нагодзе", паходзіў з маіх Кастровіч. Даўно пара нам разам выбрацца туды на гасціну. Добрыя людзі прывітаюць — і чарку нальюць, і спаць пакладуць. Нават абяцанне прыслаць новых вершаў не возьмуць. Хоць я не сумняваюся: вершы, як птушаняты, выпырхнуць з душы самі.

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**

## У розных жанрах

**Назву новай кнізе Леаніда Левановіча "Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста" дала аднайменная аповесць, якую сам пісьменнік вызначае як эратычна-філасофская. У гэтым вострасюжэтным творы закранаюцца надзённыя праблемы нашай сучаснасці, што відаць ужо пры знаёмстве з лёсам галоўнага героя вучонага-філолага Ісачонка. Таленавіты навуковец, ён нечакана абвінавачваецца ў нацыяналізме і як вынік — звальненне з працы ў Акадэміі навук. Ды нездарма кажуць: адна бяда ніколі не ходзіць. У Ісачонка раптоўна памерла жонка, хварэе сын. Знаёмства галоўнага героя з урачом Ларысай нечакана перарастае ў каханне. Гэта надае Ісачонку новыя сілы, дазваляе яму зноў светлымі вачыма глядзець на навакольны свет, паверыць у людзей, а галоўнае — паверыць у самога сябе, упэўніцца, што наперадзе куды больш святла, чым цемры. Дынамічныя, з цікавым сюжэтам і драматургічныя творы Л. Левановіча, якія поруч з аповесцю ўвайшлі ў гэтую кнігу. У псіхалагічнай драме "Чабор", што перад гэтым друкавалася ў часопісе "Тэатральная Беларусь", узнімаюцца маральна-этычныя праблемы. Яны дамінуюць і ў п'есе "Пасля разводу", пастаўленай на радыё. А вось герой хронікі "Павел і Хуаніта" мае прататыпа — удзельніка рэвалюцыйнага руху ў Аргенціне, Іспаніі, руху Супраціўлення ў Францыі ў гады другой сусветнай вайны, нашага земляка Фадзея Варанішчу. Што да п'есы "Ці любіце вы грэчку?", дык ужо аднаго загалоўка дастаткова, каб пазнаёміцца з ёю.**

## Ігнатоўскі — палітык і вучоны

**Выдавецтва "Полымя" выпусціла ў серыі "Нашы славутыя землякі" нарыс "Усевалад Ігнатоўскі — палітычны дзеяч, вучоны" П. Брыгадзіна і І. Мацяса. Няма патрэбы нагадваць, кім з'яўляецца для нас гэты выдатны адраджэнец. І ўсё ж нельга не сказаць, што У. Ігнатоўскі стаяў ля вытокаў новай беларускай гістарычнай навукі, будучы дырэктарам Інстытута гісторыі, асабіста напісаўшы больш за 30 навуковых прац, сярод якіх "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі", які вытрымаў некалькі выданняў — апошняе, факсімільнае, пабачыла свет некалькі гадоў назад у выдавецтве "Беларусь". У. Ігнатоўскі з'яўляўся таксама дырэктарам Інстытута беларускай культуры, а потым прэзідэнтам Акадэміі навук БССР. І стаў ахвярай сталінізму: 4 лютага 1931 года вымушаны быў паконччыць жыццё самагубствам.**

**Аўтары, падрабязна прасочваючы перыпетыі жыццёвага шляху і навуковай дзейнасці У. Ігнатоўскага, не абмінаюць таксама і яго палітычных стасункаў, пры гэтым паказваючы, як беззаконне ў краіне прывяло да трагічнага зыходу ў жыцці гэтага выдатнага чалавека і вучонага, які б мог зрабіць яшчэ вельмі шмат дзеля росквіту Бацькаўшчыны. Дарэчы, гэта не першая кніга пра У. Ігнатоўскага. Яшчэ ў 1991 годзе ў тадышняй "Бібліятэцы газеты "Голас Радзімы" выйшаў нарыс "Усевалад Ігнатоўскі і яго час", напісаны І. Ігнаценкам і А. Каралём.**

## Якуцкая мова — як родная

**А стала яна такой для лінгвіста, этнографа, географа Эдуарда Пякарскага, які нарадзіўся 140 гадоў назад, 25 кастрычніка 1858 года, на хутары Пятровічы (цяпер Чэрвеньскі раён). Эдуард Карлавіч вучыўся ў Мазырскай і Мінскай гімназіях, а потым у Харкаўскім ветэрынарным інстытуце. Належаў да той часткі тагачаснай моладзі, якая выступала за звяржэнне царызму. У 1881 годзе за ўдзел у рэвалюцыйным руху Э. Пякарскага саслалі ў Сібір. Едучы туды, канечне ж, і падумаць не мог, што ў гэтым далёкім, малаабжытым, марозным кутку знойдзе сваё сапраўднае прызванне. А знайшоў таму, што адразу з павагай паставіўся да мясцовага насельніцтва. І зацікавіўся якуцкай мовай, а ў хуткім часе авалодаў ёю так дасканала, што вырашыў стварыць слоўнік якуцкай мовы. Не абышлося і без памочнікаў, ды асноўныя клопаты Эдуард Карлавіч узяў на сябе. Адначасова ўдзельнічаў у экспедыцыі Усходне-Сібірскага аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства, што праводзілася ў 1894—1896 гадах, а пазней, у 1903 годзе, у Нэлькана-Аянскай экспедыцыі. "Слоўнік якуцкай мовы" і стаў асноўнай працай Э. Пякарскага. Першы выпуск яго з'явіўся ў 1907 годзе, апошні, трынаццаты — у 1930-ым.**

**Не стала Эдуарда Карлавіча 29 чэрвеня 1936 года.**

# З НЯДАЎНІХ ЗАПІСАЎ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Барані нас, Божа, хоць Ты і не надта беражэш незлічонае мноства тых, каго гробяць выбарачна або забіваюць масава — і ў нас, у СНД, і на ўсёй Зямлі. Ужо і не здзіўляючы гэтай будзённай звычайнасцю.

### Шкада

Пачаў чытаць у "Полымі" артыкул пра творчасць Макаля. А паралельна, у памяці, чуцён мне быў па тэлефоне ягоны плач і праклёны ўсім, хто давёў да таго, каб недзе за светам і невядома завошта гінулі хлопчыкі-салдаты. Гэта было ў 1982-м, у віншаваў Петруся з пяцідзесяцігоддзем, а ён праклінаў і плакаў — за адзінага сына, пра раненне ці хваробу якога ў Афганістане толькі днямі паведамілі.

А раней калісьці Пятрусь даверліва прагаварыўся мне, як ён, "солдат срочной службы", увосені 1956-га быў у Венгрыі і павінен быў даць падпіску пра маўчанне наконт таго, як там адбывалася "подавление бунта".

Бацьку сваё, сыну сваё...

Прачытаўшы добры артыкул пакуль што незнаёмай Зінаіды Драздовай, узяў у бібліятэцы яго "Выбранае" і апошні прыжыццёвы зборнік "Твар і душа", некалькі дзён жыў яго добрай, сапраўднай паэзіяй, і тады і потым шкадаваў, што бацька і сваёй венгерскай "прысягі" не парушыў, і пра перажытае сынам нічога на свайм узроўні не надрукаваў...

Можа, напісанае ёсць?

### Кніга цытатаў

У Васіля Зуёнка:

***Стой у божым храме са свечкай,***
***Нібы з ленінскаю цытатай,***
***Стой з аблічам святой авечкі***
***І з нутром кампартыйна вусаты.***

У Мар'яна Дуксы:

***Збаў, чалавеча, гонар ты,***
***Не трапячыся ў шале.***
***Рабі харошыя плыты***
***На ціхай вечнай хвалі.***

У Петруся Макаля:

***Нацыянальнасць —***
***Маё аблічча,***
***А чалавечнасць —***
***Мая душа.***

Сустракаеш такое, падобнае і лепшае, і ў гэтых трох, і ў некаторых іншых, адкрэсліваеш алоўкам на полі старонкі, неабавязкова дзеля таго, каб потым, калі спатрэбіцца, зручней было знайсці, а проста таму, што яно спыніла ўвагу або і ўразіла.

І вось падумалася, ды ўжо не ўпершыню: а ці не варта было б і нам, па добраму польскаму прыкладу, таксама выдаць сваю *"Księga cytatów"* з мастацкай літаратуры, кнігу залацінак роднай паэзіі і прозы?

### Туман і сметнік

Дубаўцоў артыкул пра ружовы туман, з якога вытыркаюцца адна-дзве галавы, нагадаў мне колішняга пераходнага шаўца. Хадзілі такія ад вёскі да вёскі, з торбай свайго начыння, то рамантавалі зношанае, то майстравалі новае. Харчаваліся і начавалі ў тых, каму рабілі. І вось нейк аднаго такога будзяць — з жахам, але і з пашанай: "Уставайце! Вёска гарыць!.." А ён сабе без панікі: "І чорт з ёю, я за свае капылы ды ў другую".

Ну, а што як другое няма? — спытаемся літаратурна.

Цікавы публіцыст, мужны рэдактар, крытык, здавалася б, з невычэрпным маладым задорам, — Сяргей Дубавец пачаў ужо і азірацца. Па радыё "Свабода", у сваёй перадачы "Вострая Брама" нядаўна ён заклапочана трывожыўся і нібы нават наракаў, што пасля пакалення "тутэйшых" настала нейкая паўза, ледзь не абвал, няма прадаўжальнікаў. Во як, толькі праз дзесяць гадоў!.. Горкі ў сваіх успамінах пра Талстога згадвае, як той казаў яму, што вось дажывяце да старасці, убачыце, што нічога на лепшае не змянілася, і заплачаце, "как бабы говорят, еще ручьистее".

Перадаю гэта з юнацкай памяці, ад першага чытання, з гэтым "ручьистее", што запомнілася найбольш.

А вось і цытата зусім дакладная: "Без беларускай савецкай літаратуры ўся беларуская літаратура перастае існаваць. Праз дваццаць гадоў мы зможам дазволіць сабе выкінуць на сметнік Мележа, Танка, Караткевіча, Быкава. Да таго часу тыя, хто не пабывае ў ружовым тумане, створаць новую літаратуру. А пакуль што, выбачайце, нельга".

Каб было дабро на свеце! — скажам па-вясковаму. Бо гэта ж не вораг нейкі піша, а сакавіцкае "Наша слова". Нехта Уладзіслаў Войніч, ці не прыкрыўшыся ваяцкім псеўданімам, падхапіў тую туманную эстафету і з прастадушнай руплівасцю сігануў далей. Ну хоць бы ўжо, як робіцца ў людзей, адклаў тых "бедакоў" у гісторыю роднай літаратуры, а то ж проста на сметнік, каб самім — цікава, каму ж гэта? — свабодна рушыць у бездакорную вечнасць.

На Гомельшчыне, дзе Беларусь сутыкаецца з Украінай, якаясь бабуся, казалі, крычала на ўнука: "Іж сало! А то будэш мэні, як той дурны білорус, істы одну свою бульбу".

Перабівацца нішчымніцай думкі, наіўнай пыхі, затоенай зайздрасці — і нудна ж яно, і так непатрэбна!..

### З запасной душою

Гэта пра тых, што працуюць у чужой культуры, а потым некаторыя вяртаюцца ў сваю.

Так думалася, знаёмячыся з манаграфіяй пра мастака Станіслава Жукоўскага, дарэчы, сябра Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, а пры гэтым успомніўшы і Вацлава Серашэўскага, які, сябруючы ў якуцкай ссылцы з Уладзімірам Караленкам, пісаць пачынаў па-руску.

Абодва яны, Жукоўскі і Серашэўскі, потым, калі гэта стала магчыма, вярнуліся на радзіму, у Польшчу, якая вызвалілася з-пад яе аўстрыйска-пруска-расійскай разарванасці.

Калі Жукоўскага я да апошняга часу не ведаў, дык Серашэўскага ўспамінаю ўдзячна за дзве кнігі, любімыя адна ў маленстве, зборнік апавяданняў *"Ze świata"*, а другая ў юнацтве, *"Zamorski diabel"*, напісаная на кітайскім матэрыяле.

### Без паклону

І пры дачцэ-дзесяцікласніцы яшчэ ўсё маладая, толькі з прыемнай ды не лішняй паўнатой паўдзённага жаноцтва, яна была вельмі рада, што мая сустрэча з выкладчыкамі, дакладней — у большасці выкладчыцамі роднай мовы і літаратуры, — падзвіжнікамі ў наш час! — у школах сталічнай вобласці, за што яна адказвала, у чым была шчыра зацікаўлена, — удалася. Рады былі і настаўніцы, рад быў і я, а сама гаспадынька сустрэчы, развітваючыся са мною перад усімі, пачала: "Я хачу вам нізка-нізка пакланіцца за..." Прысаромлены, я перапыніў яе: "Ну што вы, кланяцца?.." І яна падхапіла іншае: "І праўда, я ўжо лепш так..." Пацалавала мяне духмяна і горача, пад ухвальныя воплескі і смех, і пацалунак гэты чуваць на шчацэ вось ужо ці не пяты год.

### Слова

Вясельнаму свату, чараўніку народнага слова, якім трэба было ці нарадзіцца, ці вырабіцца такім энцыклапедыстам, часцей за ўсё ў даўнія часы непісьменным, якую трэба было мець багатую фантазію, якое ўяўленне, каб належна спраўляцца з такою процьмай прыкметаў, павер'яў, жартаў, анекдотаў, чаго працоўная вёска за свае бясправныя стагоддзі назапасіла!

А яшчэ ж і такая чарадзейка слова, як бабуля-павітуха, — тут ужо на адведках ды на хрысцінах.

Ды ўсё ж, аднаго такога носьбіта ці адну такую носьбітку народнага багацця цяжка ўявіць праяўленага поўнасцю ў адной асобе. Кожны патроху, кожнаму свая слава ў родным кутку.

●

Дзе тое XVI-е стагоддзе, дзе той цэнтральнапольскі маёнтак Чарноляс, а ў пана Яна Каханоўскага ідуць у вершах такія словы: *babić, kramny, pół rzeczy...* Сустракаючы іх, адпаведна кожнаму ўспамінаю, як гэта чулася мною, беручы па адным чалавечым веку, вельмі ўжо даўно, ды сярод тых людзей, якія пра такога трывала таленавітага ды багата адукаванага пачынальніка літаратуры братняга народа, па сваёй бяздольнасці з пакалення ў пакаленне, і чуць не чулі, і ведаць не ведалі.

А гаварылі: "Яна ў мяне ўсіх маіх дзетак **бабіла**". "І сваё ж мы тчом, і ў **крамным** на святах ходзім". "З марозу вярнуўшыся ды місу гарачай капусты высербаць — гэта зусім **непаўрэчы**!.."

Вось тут і падзяліся, што чыё.

...Днямі я, чамусьці ўпершыню, падумаў пра нашу **агіду** побач з польскай *ohydą*. Хоць ты скажы: куды ж падзецца ад гэткай блізкасці моў? Ды нікуды, будзьма самі сабою. Толькі без нейкай таксама ж моды — браць без патрэбы суседскае, маючы нягоршае сваё. А ў нас, услед за *słynnyт*, ужо ўжываецца і *wybitny*. Адзін "старацель" (не золата, а слова) у сваіх перакладах з англійскай мовы нясе ў нашу зноў жа польскае *matolek*, замест прыдурка, а другі, перакладаючы з нямецкай, цягне ад палякаў *galgana*, замест нягодніка... І ўсё гэта дарма!

●

Гістарычная забастоўка на расійскіх чыгунках увосень 1905 года дайшла да мяне ў маленстве з матчыным смехам па той прычыне, што наш чыгуначнік-бацька тады, калі забастоўка закончылася, "прыехаў пастрыжаны нагала, як **галамоўза**". А прыехаў ён, трэба думаць, у Загора, бо мама тады ў Адэсе не жыла, дый прыехаў, як яна казала, чамусьці з Пецярбурга. Цяжка мне было разабрацца з усёй тою рэвалюцыяй. Дый галоўнае тут, што пастрыжаны "як галамоўза", значэння якога пакуль што ў слоўніках не знайшоў.

●

"Нуда горш за каросту". Чуў такое і ў сваёй вёсцы, і ў навакольных.

У этымалагічным слоўніку Праабражэнскага так: "Нуда, **нужда**, **нечистота**; нудзіць; нужа", — гэта "бр" (беларускае). "Интересно заметить, — піша ён, — что рус. **нужа**, можна сказать, совсем вытеснено цсл. нужда". (Цсл — церковно-славянский.)

Са школы помніцца, у Багушэвіча:

***...І жывець сабе на волі,***
***Без бяды, без нужы.***

### Смяёмся

Югаславія, май пяцьдзесят шостага.

Саракагадовыя, з адхіленнямі ў пэўную нязначную маладзейшасць ці старэйшасць, мы адчувалі сябе значна маладзейшымі, чым былі. Максім Танк, Пімен Панчанка, Алесь Адамовіч, кал. успамінаць толькі найбліжэйшых з нашай турысцкай групы. Такому адчуванню спрыяла і часовае вызваленне ад службовых ды сямейных абавязкаў, і свабода, можа, перш за ўсё тая, што адчувалася пасля XX з'езда партыі, якая ўпершыню паспрабавала абтрэсвацца ад сталінскіх грахоў. Спрыяла па-свойму і краса прыроды, і прысутнасць у групе жанчын, таксама ў нечым вызваленых, і гасціннасць югаславян, якіх так яшчэ нядаўна было загадана лічыць ворагамі.

Сёння мне светла прыгадаўся адзін наш ранак, наш молада-пусты, заразліва-неадчэпны смех ад новай забавы ў вясёлым аўтобусе. Ужо і не помніцца выразна, адкуль ды куды мы ехалі, хто завёў тую нашу забаву. А была яна ў тым, што мы пачалі прыдумваць на рускі лад "имена и отчества" з медыцынскіх тэрмінаў. Стараліся ды вызначаліся, хто як мог, то больш, то менш смешна, а смешна было перш за ўсё ад таго нашага памаладзення. Не буду ўзнаўляць па памяці што-небудзь з найсмяшнейшага, тым больш цяпер прыдумваць такое, бо вось прыгадалася толькі адно, а яшчэ выразней — той адзін з сяброў, хто гэта сказаў.

Са смехам бывае такая бяда, што ён, непрадказальны гарэзнік, падступае, нібы чых ці кашаль, якраз у найменш адпаведны момант. Здаецца, і ўсе варыянты перабраныя, і смеху ўдосталь было ў дарозе, - хопіць, пара і пасталець. Тым больш, што ў новым цудзе-горадзе экскурсія пачнецца з цуду тут найзначнейшага — старадаўняга храма. Зноў жа не

памятаю, што гэта было — сербская царква, харвацкі касцёл ці баснійская мячэць, але справа тут не ў такой дакладнасці.

Справа ў тым, што наш вясёлы сябар, — можа, і не за ўсіх весялейшы, але па-свойму вясёлы ды смяшлівы Пімен, — глядзіць на мяне ў нашым ужо, нарэшце, сур'ёзным, заслуханым, заглядзеўшым гурце, глядзіць, а мне відно, як яму цяжка стрымлівацца ад смеху. Нават і адварочваецца, каб стала лягчэй. А ўжо калі мы ўсе выйшлі з таго храма на сонца, калі ён аказаўся найбліжэй да мяне, найдалей ад жанчын, мой Пімен, як быццам выпускаючы з рота струмень доўга трыманай вады, паўшэптам прасіпеў: "Триперинна Люисовна!" І вызвалена засмяяўся.

Ну што ж, няхай яно цяпер і не надта смешна, а для кагосьці староннягa і звычайная пошласць... Тых, каго я назваў, усіх ужо няма. Час ідзе, адсоўвае даты іх адыходу, хоць і няспешна, а ўсё далей, далей — да журботнага **даўно**. І кожны ўспамін, тым больш вясёлы, з рэшткамі маладосці... ну, гэта само па сабе зразумелае.

●

"Літаратурка" ўспомніла Маноліса Глезаса — пасля доўгага палітычнага перапынку. А ў памяці маёй ажыў сонечны Акропаль і зноў турысцкі смех, на гэты раз з Максімам Танкам, калі мы пачулі ад грэка-экскурсавода, які, крыху пацешна па-руску, да планавага апавядання пра подзвіг Маноліса з ягоным сябрам Сантасам, якога ў нас чамусьці наогул замоўчвалі, дадаў і такое:

Юнакі-студэнты не толькі знялі тады з высачэннага дрэўка гітлераўскі чырвоны сцяг, але і разаслалі яго на свяшчэннай эладскай зямлі, можа, дадам цяпер, яшчэ і на вуглы паклаўшы для большай трываласці чатыры асколкі спрадвечнага мармуру, а на белую круглую пляму з чорным "гакэнкройцам", свастыкай, гарэзна... апаражніліся. У імя антычнай, роднай вечнасці.

●

Калі я ў канцы вайны і чатыры гады пасля працаваў у сатырычна-гумарыстычным друку, прыходзілася значна больш, чым пазней, заглядваць і ў суседскія вясёлыя часопісы. "Крокодил" вылучаўся культурай мастацкага афармлення, "Пэрэць" народным гумарам, а мы ў сваім "Вожыку" сяк-так намагаліся тыя якасці спалучаць.

Аднак помніцца гумар найбольш украінскі. Скажам, такое, пра будаўніцтва. На лесвічнай пляцоўцы кошка і кацяня. Малое насцярожана: "Мама, мыш!" А кошка спакойна: "Гэта не ў нашым пад'ездзе". Або такое, з медыцынскага жыцця. Разбіты, пакарэжаны, нават на мыліцах "масквічок" стаіць перад белым халатам і акулярамі. Стэрэатыпнае пытанне: "На што скардзіцеся?" І адказ, свяжэйшы: "На студэбэкэра".

Паўстагоддзя мінула, толькі старэйшыя сучаснікі памятаюць тыя няроcлыя "масквічы" і магутныя амерыканскія лендлізаўскія грузавікі. Нядаўна я, стары, пачуўшы ад маладога бальнічнага лекара ўступнае: "На что жалуетесь?" успомніў "Пэрэць" і пакорна адказаў: "На студэбэкэра". Смешнасць тут прыйшлося гістарычна растлумачыць, каб і лекару, і супалатнікам было смешна.

●

Эстраднае дзяўчо натужна верашчыць па радыё, бясконца паўтараючы страсна-кахальнае "Твой саксафон! Твой саксафон!" З такой пястотай у голасе, як быццам яе дома ці дзіцячым садзе толькі што знялі з гаршчочка. Знялі, ага, а яно адразу ж — у эфірны сэкс, у моду на звышпяшчотнасць.

●

Гераіня аднаго жаночага апавядання, немаладая мастачка, што "выходзіла з дому **па сякой-такой патрэбе**", нагадала мне безнадзейна старую дзеўку, нашу вясковую суседку, якая ў будзень па-святочнаму апранутая, пад вялікай квяцістай хусткай, ішла па вуліцы, а другі наш сусед спытаўся цераз плот: "Юста, куды ж гэта ты?" "У Турэц". "А чаго?" "За сваёю патрэбай". "А чаму ж так далёка?"

І праўда — да мястэчка аж чатыры кіламетры.

●

**Нэтудыхата** — гэта не проста адно з пацешных, але і сапраўдных украінскіх прозвішчаў, — ім можна карыстацца і іншасказальна, напрыклад, так: "Не туды ты, браце, палез у свâіх развaжаннях!"

●

Наднёманская вёска Беражна. Не "Бережное" на рускі лад, навязанае ад слова "бережливость", але ад **берага** — спрадвеку Беражна.

А вось ластавак-беражанак тут не называюць **беражанкамі**, як у іншых навакольных вёсках, а **берагулькамі**.

Уязджаем з Калеснікам у доўгаедоўгае Беражна. Даганяем дзяўчыну, якая лёгка ды спраўна ідзе па сцежцы каля платоў. Параўняліся, абагналі, і мой Валодзя, такі звычайна ўважлівы за рулём, сказаў з нядрэнным веданнем прадмета:

— А нішто сабе берагулька!..

## Пробліскі

— А дзякуй вам, а дзякуй! — малёкае жабрачка, прымаючы шчодрую міласціну мукою.

— Богу святому! — адказвае гаспадыня.

Сціпласць правільных чалавечых паводзінаў. Народнае гэта. І маміна.

●

Бачымся рэдка і выпадкова, а ён, як на злосць, выступае тады — мімаходзь, "на хвілінку" — са сваім легкадумна найгоршым.

І яно цяпер, калі ўжо яго назаўсёды няма, успамінаецца перш за ўсё, засланяючы ў гэтым знаёмым, а то і блізкім чалавеку тое лепшае, што ў ім усё-такі было.

●

А чаму гэта нам, калі ў адзіноце, абавязкова трэба падмацоўвацца то з прэсы, то з эфіру?

А калі больш падумаць, спакайней засяродзіцца, зарчэй зірнуць навокал?

●

Добра, калі творчыя прастоі, гнілое ныццё беспрацоўя робяць станоўчы ўплыў на далейшую працу, на якасць яе.

А калі не, калі яны, прастоі ды ныццё, толькі так сабе?

Мала таго, што пакутлівa ды агідна, дык яшчэ і непатрэбна?..

●

Не будзем, крый Бог, параўноўвацца, аднак, дзеля патрэбнага часам супакаення ад залішняга самаедства, успомнім чалавечую складанасць і вялікіх,у каго мы вучымся.

●

А калі ж ужо, як не ў старасці, гаварыць добрым людзям добрыя словы, якія ім заслужана належацца?

## Імёны

Жыў чалавек, працаваў, сціпла, міжвольна падмацоўваў другіх сваім глыбока ўгрунтаваным аптымізмам, бачыўся такім надзейна даўгавечным. А ўжо і яго няма. Нечакана дый беспадстаўна.

І я, не быўшы на апошнім развітанні з ім, нават пачуўшы пра гэта са спазненнем, цяпер, ці не больш ужо як праз год, нібы без дай прычыны, здалёк убачыў яго твар, упершыню без шчыра прыязнай усмешкі, з назаўсёды закрытымі вачыма, з выразам мудрай, недасказанай значнасці, і ўспомнілася, як мала мы з ім, на жаль, сустракаліся, але як ад кожнай сустрэчы, гутаркі добра было на душы.

Ці не апошні раз такое было не ў Нацыянальным мастацкім музеі, дзе ён выдатна гаспадарыў і рады быў гасцям, і невыпадкова дзе-небудзь на вуліцы, а здаецца, што на святочным дзядзінцы Мірскага замка, у аднаўленні якога ён быў актыўна, дзелавіта зацікаўлены.

Юры Аляксандравіч Карачун.

●

Буду чытаць прысланы мне "Жыцця адвечны лад", другую кнігу трохтомніка "Беларускія народныя прыкметы і павер'і".

Пакуль пачаць, узяў з паліцы першую кнігу, "Зямля стаіць пасярод свету". Нібы толькі параўноўваю вясёлае мастацкае афармленне абедзвюх кніг, таленавіта зробленае Тацянай Беразенскай, чытаю прыемныя аўтографы складальніка, талковага рупліўца Уладзіміра Васілевіча, на адвароце тытула зноў бачу імёны рэцэнзентаў...

Не ўпершыню з удзячнай пашанай думаецца пра фалькларыстаў, былых і сучасных, успамінаецца народнае пра пчаляроў: "святая работа", адпаведнае і тут, дзе працавіты і нястомны збор нектару несмяротнай паэзіі і мудрасці.

Хораша думаецца пра аднаго з рэцэнзентаў, Арсена Ліса. Мой даўні нелітаратурны сябар гаварыў мне гадоў два таму назад пра Арсена Сяргеевіча, што гэта самы інтэлігентны чалавек сярод беларускіх пісьменнікаў. Нікога іншага не крыўдзячы параўнаннем, я магу сказаць падобнае, бо ведаю гэта даўно, з нашых сустрэчаў, гутарак, з ягоных кніг ды артыкулаў, дадаўшы яшчэ пра глыбінную таленавітасць, высокую прафесійнасць, і натуральную беларускую сціпласць.

Імя другога рэцэнзента — Генадзь Каханоўскі — у жалобнай рамачцы. І выданне прысвечана яго светлай памяці.

Яшчэ да таго, як мне прывезлі з Мінска падарунак, другую кнігу трохтомніка, я нібы ў нейкім невыразным ды сумнаватым прадчуванні, ідучы раніцай па ціхай прылясной дарозе нечакана ўявіў Генадзеву маладую прыязную ўсмешку, ягоны голас, бадзёры і, здаецца, заўсёды з добрай навінаю, убачыў светлы вобраз яшчэ аднаго, непаўторна значнага і патрэбнага чалавека, выдатнага работніка роднай навукі і культуры, такая заўчасная смерць якога прыгадала мне польскае: *nie do odżałowania* — пра боль, якім нельга перабалець.

## Удзячнасць

Плоска-шырокая аўтамабільная каляіна лясной дарогі, па якой не часта ездзяць. Светла-шэры пясочак стракатa і ўжо даволі густа пацярушаны апалаю лістотай. З некалькіх дзён, менш ды больш пацямнелай, пабляклай ды ярка свяжэйшай. Добра ідзецца па гэтым мяккім шоргаце, у сонечнай ласкавасці ранняга адвячорка, у сцішэлым, як урачыстым, стаянні дрэў. Адны ў спакойнай вечназялёнай трываласці, другія і без ветру спакваля цярушачы долу славутыя чырвань і золата.

Прыблуда Шарык, і сёння на нашай дачы толькі што накормлены, у добрым настроі суправаджае мяне. Нялёгка цюхкае то спераду, то ззаду, то па-старэчы трэцца, блытаецца ў маіх нагах, нібыта хочучы мяне спыніць, хоць абодва мы не спяшаемся.

Крыху стаміўшыся, прысядаю на змалку люба пярэстым, таўставатым ствале бярозы-вываратня, з камлём у карнявішчы, што бокам тырчыць над сваёю ямай. У палавіне перарэзаны ствол крыху задзёрты над травою, нібы й запрашае прысесці. Вяршына яшчэ не старое бярозы перацягнута на другі бок дарогі. Гэта ўсё яшчэ летась, калі тут прайшоў буралом.

Сабака спачатку таксама присеў на хвасце, побач са мною, нават лабэціну падставіў пад маю далонь, з палёгкай хэкаючы ў сваім не вельмі вылінялым чорна-бурым кажушку, потым устаў, адышоўся, гжэчна адзначыўся на зялёнае вераценца — стромы ядлоўцавы кусцік, а тады прылёг, нейтральна гледзячы на дарогу, з яшчэ ўсё крыху разявленай для спатольнага хэкання пыскай.

І тут адбылося прыемнае.

Цішыня такая светлая, супакойная, што я ці то ўбачыў, ці то яшчэ і пачуў, як перада мною, блізка да невысокага сядзення, сонечныя каліўцы мятліка выразна заварушыліся. Самі па сабе, — так чамусьці падумалася, пакуль, у наступны момант, не ўспомнілася, што гэта ж мой стары, расхэканы спадарожнік толькі што іх растрывожыў, пасядзеўшы тут ды прайшоўшы. І вось гэта яны старанна, абавязкова выпроствающца, штосьці нязлосна шэпчучы адно з адным.

Смешна? І міла ў такой красамоўна-журботнай прыродзе, цікава нават з такою драбніцай.

Васіль Пяскоў, якога я люблю чытаць, амаль як Сетана-Томпсана (ведаю — любімага і Пясковым), нядаўна з замілаваннем пісаў у газеце пра месяц жнівень, з яго багатай красой, сваю сакавітую замалёўку закончыўшы нечакана:

"Состояние души такое, при котором яснополянский мудрец записал поразившие меня когда-то слова: "Вышел за Заказ вечером и заплакал от любви, благодарной за жизнь".

І ў жніўні, і ў верасні...

# Алесь БІБІЦКІ



10 кастрычніка 1998 года на 68-м годзе жыцця памёр паэт Алесь (Аляксандр Іванавіч) Бібіцкі.

Нарадзіўся 13 жніўня 1931 года ў вёсцы Вербавічы на Гомельшчыне. Вучобу ў мясцовай школе перапыніла Вялікая Айчынная вайна, таму сямігодку закончыў толькі ў 1947 годзе. сярэднюю адукацыю атрымаў у Галоўчыцкай школе, пасля чаго паступіў у Мазырскі настаўніцкі інстытут. Працаваў на Піншчыне настаўнікам Лапацінскай сямігодкі, затым на працягу трыццаці пяці гадоў быў дырэктарам Плошчаўскай школы. У 1964 годзе завочна скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут. З 1989 па 1993 год працаваў выхавальнікам групы падоўжанага дня Калавуравіцкай СШ. З 1993 года быў на пенсіі, займаўся сельскай гаспадаркай.

Першы верш надрукаваў у 1957 годзе. Яго паэтычнае слова часта з'яўлялася на старонках Мазырскай і Брэсцкай абласных газет, у часопісах "Полымя", "Беларусь", "Маладосць", іншых рэспубліканскіх выданнях. Лепшае з напісанага ім склала кнігу вершаў "Зоры над Пінай", якая ў 1979 годзе выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Вершы, адрасаваныя дзецям, убачылі свет пад вокладкай калектыўнага зборніка "Дзе начуе апетыт". Вершы Алеся Бібіцкага вылучаюцца пранікнёнасцю і прачуласцю, добрым веданнем жыцця, замілаванасцю непаўторнай палескай прыродай, яны выклікаюць у чытача давер і павагу.

Алесю Бібіцкаму лёс наканаваў быць настаўнікам: вучыць і выхоўваць дзяцей у школе, узначальваць педкалектыў, апекавацца маладымі літаратарамі Піншчыны, быць прыкладам добрага гаспадара і сем'яніна. такім запомняць яго людзі, якія жылі і працавалі побач з ім.

**САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

# На скрыжалях часу

"Повести" — так проста была названа апошняя кніга Мікалая Герасімава, выпушчаная выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1977 годзе. Яе склалі лепшыя творы пісьменніка. У першай аповесці "Завтрашний день принадлежит тебе" падзеі адбываюцца ў перадрэвалюцыйным Пецярбурзе. У цэнтры твора — лёс Фількі Чыжова, які ў маленстве застаўся сіратой, а сапраўдную прафесійную і жыццёвую загартоўку атрымаў у рабочым асяроддзі. Аповесць "Огонь над Каличевкой" — будні ваенных лётчыкаў, якія ў гады Вялікай Айчыннай вайны змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Гэтыя творы М. Герасімава выдаваліся і асобнымі кнігамі: першая аповесць у 1966 годзе ў Маскве, другая — у 1955 у Чкалаве. Акрамя таго, у М. Герасімава выйшлі аповесці "Где сходятся берега" (1931) і "Простуда" (1932), абедзве ў Маскве. У Маскве ў 1933 годзе пабачыў свет і яго раман "Узлы". А пісаць пачаў М. Герасімаў яшчэ ў дваццатыя гады. У 1924 годзе выступіў з першымі нарысамі. Родам з Пецярбурга (Расія). Працоўны шлях пачаў у 1920 годзе справаводам у Малаяраслаўскім павятовым выканкаме Калужскай вобласці. У 1925—1927 гадах служыў у арміі. Быў рабочым на суднабудаўнічым заводзе, на трыкатажнай фабрыцы, на будаўніцтве ў Ленінградзе. У 1937 годзе скончыў Ваеннамедыцынскую акадэмію імя С. Кірава, стаў ваенным урачом.

З вайсковай службы быў звольнены ў 1956 годзе, а праз год пераехаў у Магілёў, назаўсёды звязаўшы лёс з Беларуссю.

А нарадзіўся Мікалай Афанасьевіч 95 гадоў назад, 26 кастрычніка 1903 года. Памёр 17 верасня 1977 года.

ПЕРАКЛАДЫ

# Прарок і прарокі...

Два вершы двух геніяльных паэтаў невыпадкова перакладзены і пастаўлены побач: дужа ж горнуцца яны адно да аднаго, — два "Прарокі" яскрава люструюць рух жыцця, змену эпох...

***Духоўнай смагі пабрацім —***
***З пустыняй я звязаў блуканне, —***
***І шасцікрылы Серафім***
***Адкрыўся мне на скрыжаванні.***
***Маіх вачэй крануўся ён —***
***Быў дотык лёгкі, нібы сон:***
***І вешча зрок мой бліскавіцай***
***Успыхнуў, быццам у арліцы.***
***Маіх вушэй крануўся ён, —***
***І іх напоўніў шум і звон:***
***Пачуў нябёсаў я трымценне,***
***Анёлаў сонечны палёт,***
***Марскіх пачвар падземны ход***
***І ніцае лазы гібенне.***
***Да вуснаў ён маіх прынік***
***І вырваў грэшны мой язык,***
***Што словы траціў на забавы,***
***І джала мудрае змяі***
***У вусны мне, каб грэх знялі,***
***Уклаў дзясніцаю крывавай;***
***І грудзі мне рассек мячом,***
***І сэрца выняў, і барвяны***
***Ён вугаль, што палаў агнём,***
***Усунуў у жывую рану.***
***Як труп, я на пяску ляжаў.***
***Ды з неба голас прагучаў:***
***"Устань, прарок, глядзі і слухай,***
***І з боскай воляй у народ***
***Ідзі — і морам, і пасуху, —***
***Запальвай словам сэрцаў лёд".***

Гэта — Аляксандр Сяргеевіч ПУШКІН.

А вось — Міхаіл Юр'евіч ЛЕРМАНТАЎ:

***З тых дзён, як вечнасці суддзя***
***Мне даў прарока дар правідчы,***
***Распусту й злосць чытаю я***
***Ва ўсіх вачах, ва ўсіх абліччах.***

***Любоў пачаў я веставаць***
***І праўды чыстае вучэнне,***
***А блізкія давай кідаць***
***Па мне раз'юшана каменнем.***

***Сваю пасыпаў галаву***
***Я попелам — і па-жабрачы***
***Збег у пустыню і жыву***
***Чым бог паслаў, —***
***як птах няйначай;***

***Тут запавет вякоў жыве:***
***І жыўнасць служыць мне зямная,***
***І зоркі слухаюць мяне —***
***Праменні радасныя ззяюць.***

***Калі ж праз вэрхал гарадскі***
***Я прабіраюся паспешна,***
***Старыя, нібы цуд які,***
***Малым паказваюць з насмешкай:***

***"Глядзіце: прыклад вам якраз!***
***Ён горды быў, не ўжыўся з намі:***
***Бядак, хацеў запэўніць нас,***
***Што размаўляе ён з багамі!***

***Глядзіце, гордасць што нясе:***
***Які худы ён і маркотны,***
***Змарнелы, голы і гаротны, —***
***Як пагарджаюць ім усе!"***

Пушкінскі Прарок — класічнага ўзору: старазапаветны — як Майсей; як у Кнізе прарока Ісайі:

"Вокруг Его стоялі серафимы; у каждого из них по шести крыл; двумя закрывал каждый лицо свое, и двумя закрывал ноги свои, и двумя летал...

...погиб я! ибо я человек с нечистыми устами, и живу среди народа также с нечистыми устами...

тогда прилетел ко мне один из серафимов, и в руке у него горящий уголь...

...и коснулся уст моих, и сказал:

...беззаконие твое удалено от тебя и грех твой очищен...

...И услышал я голос Господа, говорящего: кого Мне послать? и кто пойдет для Нас? И я сказал: вот я, пошли меня...

и сказал Он: пойди, и скажи этому народу...

...ибо огрубело сердце народа сего..."

Усё амаль як у Пушкіна!..

Толькі пушкінскі прарок блукае ў пустыні, а Ісайя сустракаецца з Богам і серафімамі ў храме... Пустыня — ад Майсея...

У перакладзе з'явіўся "народ", хоць у пушкінскім тэксце ёсць толькі "люди", — нават не яны, а "сердца людей"; затое ў Ісайі Бог двойчы блаславіўляе прарока ісці "ў народ": "пойди и скажи этому народу", "...ибо огрубело сердце народа сего..."

Прабачце, Аляксандр Сяргеевіч, за маю гэтую перакладчыцкую нявольную вольнасць...

Лермантаўскі Прарок — Новага запавету: ён ад Хрыста, ад сына Боскага і чалавечага. Гэта ўжо той Прарок, што "пайшоў у народ", зведаў усё падзенне духу чалавечага, ён прысланы ахвяраваць жыццём у імя ўратавання чалавецтва... Гэта не класічны Прарок, а Прарок-рамантык — трагічны, Богам і лёсам асуджаны дзеля вялікай мэты...

Пачатак XX стагоддзя ўжо канчаткова ператварае Прарока, Валадара Духу, у пакутнага летуценніка (ён бяжыць з пустыні — схавацца за каменныя сцены дамоў), што засведчана вершам Мікалая Гумілёва; альбо зніжае Прарока ў "рангах" і выяўляе анёлам з канкрэтным паэтычным іменем, названым, да прыкладу, Марынай Цвятаевай: Аляксандр Блок, пакладзены ў труну за пяць гадоў да смерці, ці Уладзімір Маякоўскі — толькі ў "чыне" архангела — анёла старэйшага, — як салдата з яфрэйтарскім лычкам...

## Мікалай ГУМІЛЁЎ

### Прарокі

***І сёння ёсць яшчэ прарокі***
***Хоць у руінах алтары,***
***Іх позірк светлы і глыбокі —***
***Прадвесце будучай зары.***

***Ды кліч змагарны іх лякае,***
***Іх душыць гнёт бяздонных слоў,***
***Яны спалохана ўцякаюць***
***У гмахі стылыя муроў.***

***І толькі ў смутку невыказным***
***У нас адрынуты прарок***
***У неба ўзносіць позірк ясны***
***Вачэй, што працінаюць змрок.***

***Вар'яцтвам ён сябе пазначыў,***
***Але жыве з душой святой,***
***І кажа, што Хрыста пабачыў***
***Ён у журбе шматдумнай той.***

***Што Боскі промысел шматвокі,***
***І шчодрая дае рука,***
***Што ёсць яшчэ, як ён, прарокі:***
***Вартуюць дабрыню ў вяках.***

***Што свет не страшны,***
***хоць бязмежны,***
***Што ён Зары Наступнай цар...***
***Ды толькі духі цёмных вежаў***
***Смяюцца ўслых з ягоных мар.***

## Марына ЦВЯТАЕВА

### Цыкл "Вершы да Блока"

ЧАСТКА 6

***Думалі — чалавек!***
***І свет пакінуць зняволілі.***
***Зараз памёр. Навек.***
***— Плачце аб мёртвым анёле!***

***Зорнай песняй граніў***
***Ён прыгажосць вячэрнюю.***
***Васковыя тры агні***
***Ў прымхлівым б'юцца свячэнні.***

***І ад яго прамяні —***
***Струны па снежнай ростані.***
***Васковыя тры агні —***
***Яму! Сонечнаноснаму!***

***О паглядзіце — я́к***
***Стынуць павекі цёмныя!***
***О паглядзіце — я́к***
***Крылы апалі зломлена!***

***Чорны чытае святар,***
***Топчацца люд няпрошаны...***
***— Мёртвы ляжыць пясняр,***
***Святкуе сваё ўваскрошанне.***

*9 мая 1916*

### Маякоўскаму

***Вышэй і крыжоў і труб,***
***Хрышчоны ў агні і дыме,***
***Архангел і цяжкаступ —***
***Здароў у вяках, Уладзімір!***

***Ён вознік і ён жа конь,***
***Ён прыхамаць, ён жа й права.***
***Дыхнуў, папляваў на далонь:***
***— Гудзі, ламавая слава!***

***Грымотных плошчаў пясняр —***
***Здароў, ганарлівец мурзаты,***
***Што выбраў каменны цяжар***
***Бурштынам назло і агатам.***

***Здароў, брукаваны гром!***
***Зяхнуў, казырнуў — і ў дарогу:***
***Грабе аглобляй — крылом***
***Архангела ламавога.***

*18 верасня 1921*

А потым... Потым паявіўся прарок іншага кшталту, які гаварыў і раіўся не з богам, а выключна з самім сабою, бо ўважаў за бога ўласную персону. І іншым даводзіў — каварствам, а дзе трэба — насіллем і крывёю, — хто ён такі ў паднябессі. Сам не паэт (хоць і грашыў у маладосці рыфмаваннем), але прарочы дар паэтаў як бы рэквізаваў і прысвоіў. Паэты ж — верылі ці не — а хвалу мусілі спяваць яму, пазбыўшыся прарочых парыванняў. Цана адваротнага раўнялася ўласнаму жыццю...

## Аляксандр ТВАРДОЎСКІ

### Строфы з паэмы "За даллю — даль"

***Калі, жывы,***
***сцяной крамлёўскай***
***Быў ад жыцця схаваны ён,***
***Як грозны дух***
***над нашым лёсам, —***
***Не зналі іншых мы імён.***

***Гадалі, як слаўней уславіць***
***Яго сталіца і сяло.***
***Тут ні адбавіць,***
***Ні прыбавіць, —***
***Так гэта на зямлі было...***

***...Было:***
***гучала чвэртку века —***
***Як кліч на працу і на бой —***
***Імя крутое чалавека,***
***Радзіму засціўшу сабой.***

***Яно не знала іншай меры,***
***Ужо гатовае прыняць***
***Правы,***
***што ў душах моцнай веры***
***Займае боскае імя.***

***І ён — было ўсім гэтак ясна —***
***Праз люлькі дым***
***разгледзець мог***
***Усё на свеце самаўласна***
***І ўсім загадваў, быццам бог...***

***Ды хто з нас варты быць***
***у суддзях —***
***Віну і праўду вызначаць?***
***Аб людзях гутарка, а людзі***
***Багоў прывычныя ствараць...***

І нарэшце: які прарок ідзе? Якога прарока створым?..

На нашых вачах у правідцы пнуцца, прарокамі самааб'яўляюцца элементарна "ўлюбёныя ў дыктатуру"... І паэты, страціўшы боскія арыенціры, гатовыя ўчыніць ім хваласпеў, — з наступным раскаяннем.

Так, у кожнага свой прарок...

Меў смеласць і перакладчык, каб ён, прарок, быў і ягоны. Прарок сапраўдны, ісцінны. Ад Бога.

**Васіль ЗУЁНАК**

ВЕРНІСАЖ















*Малюнкі Аркадзя Гурскага*

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3631
Нумар падпісаны ў друк 22.10.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 6203/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12